О, крыўская зямля!
О, волатаў нашчадкі!..
*Вацлаў Ластоўскі*

Так і мяне, заві якім сабе хочаш
сепаратыстам, а не бунтуй адно быць
мне самім сабою і жыць па-беларуску.
*Максім Гарэцкі*

Глядзіце ў будучыню смела!
Настаў доўгачаканы час,
Пад сцягам бел-чырвона-белым
Чакае перамога нас!
*Максім Танк*



## З М Е С Т

## *Браты – Сёстры - Суседзі*







## *Архіў – Успаміны - Кнігапіс*



1.На вокладцы: помнік Францыску Скарыну ў Калінінградзе каля Балтыйскага федэральнага універсітэту ім. І.Канта. Скульптар А.Арцімовіч.

2.Іван Баляслаў Якімавіч Луцкевіч. З сямейнага архіву Л.А.Луцкевіча.

3.Даручэнне І.Луцкевіча Я.Станкевічу на дастаўку дроў для Віленскай беларускай гімназіі. Вільня. Студзень 1911 г. БДАМЛіМ. Ф.3., спр. 261, арк.10

4.Іван Луцкевіч. 1903 г. Арыгінал захоўваецца ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі.

5.У.Самойла, Ф.Аляхновіч, А.Луцкевіч. 1930-я гады. Арыгінал захоўваецца ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі.

6. На цырымоніі ўручэння Нобелеўскай прэміі Святлане Алексіевіч, 10.12.2015

7. Кніга Д.Міхалюк "Беларуская Народная Рэспубліка ў 1918-1920 гг. Ля вытокаў беларускай дзяржаўнасці". Пераклад на беларускую мову.

8. Вёска Здзітава, Палессе. Шыльда пра першае ўпамінанне ў летапісе ад 1252 г. Давядзецца, пэўна, рабіць яшчэ адну шыльду, бо знайшлі звесткі, дзе Здзітаў згадваецца яшчэ раней - у летапісе ад 1005 году…



## Ад укладальнікаў

Цяперашні, выпрабавальны для Беларусі час дыктуе пэўны тэст на гістарычную трываласць, нацыянальна-дзяржаўную працаздольнасць тутэйшага люду, усяе беларускае супольнасці. Выпрабоўваецца асноўная дзеятворчая каштоўнасць народа – яго *нацыянальная ідэя*, аспрэчваць якую сёння намагаюцца некаторыя палітыкі і філосафы.

Прапануемыя тэксты – духоўна культуровы і палітычны інвентар нацыянальнай тоеснасці й жыццездольнасці беларусаў – могуць, мяркуем, падбадзёрыць аптымістаў, пахіснуць сумненні скептыкаў наконт нашага гістарычнага лёсу, нашае беларускае ідэі.

Беларусь цягам сваёй гісторыі скрозь баранілася, цярпела і мужна перамагала. Пра гэта варта памятаць, але ж мінулае не павінна ацяжарваць добрыя адносіны паміж народамі-суседзямі. Рухацца нам далей наканавана разам, у пашане ўзаемнага сваяцтва і не менш – адметнасці, гістарычнага паклікання кожнага.

Будам чытаць, перачытваць. Клопат наш – традыцыйны, скарынаўскі: каб чалавек паспаліты не прытамляўся спасцігаць адвечны сэнс духоўнага прасвятлення – свайго асабістага і ўсяе маці-Беларусі.

# УЧОРА – ЗАЎТРА - ЗАЎСЯГДЫ



**Францішак Скарына**

Понеже от прирожения звери, ходящие в пустыне, знають ямы своя, птици, летающие по воздъдуху, ведають гнезда своя; рибы, плывающие по морю и в реках, чують виры своя; пчелы и тым подобныя боронять ульев своих, - тако ж и люди, игде зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую таску имають.

***

… тако каждый хрестианин, свое имея дарование, к посполитого дарование размножению да уделяеть, наиболей любовь ко всем да соблюдаеть, еже ест совершена над все иные дарования, без нея же ничто проспешно ест.

***

… иже без страху Божия, без мудрости и без добрых обычаев не ест мощно почтиве жити людям посполите на земли.

***

… абы люди святи были, отца й матерь чтили. Свята святили, идолов не хвалили, жертвы Богу приносили. Милостыню делали, не крали, не лгали, не присегали, мзды не задерживали, не проклинали, глухому не злоречили, слепому на пути не перекажали, на лица в суду не смотрели, справедливе чинили.

*Біблія. Факсімільнае ўзнаўленне Бібліі, выдадзенай Францыскам Скарынай у 1517-1519 гадах. Т.1. Мн., “БелСЭ імя П.Броўкі”. 1991. С.415, інш.*

## Леў Сапега

### А если которому народу встыдъ…

… И слушне заправду маемъ за што Пану Богу дяковати – же под панованьемъ королей их милости и великихъ князей, пановъ нашихъ, тую владзу и вольность у рукахъ своихъ маемъ, а права сами собе творачи, яко найбольшей можемъ, волности свое во всемъпостерегаемъ, бо не толко суседъ а сполный наш обыватеь въ отчизне, але и самъ господаръ, панъ нашъ, толко, колко ему право допущаеть. Прото, маючи таковый скарбъ в руках нашихъ, который жадною сумою преплачонъ бытии не можеть, пристоить каждому почестивому чоловеку, абы о нимъ ведалъ, а, будучи добре ведомуы, абы яко сам собе и самого справовалъ се а никого не кривдилъ, такъ, если бы одъ кого былъ укривжонъ, абы ведал, где обороны и лекарства в кривде своей искати маеть, бо яко один сенатор Рымский другого штрафовал, же права отчизны своея не умелъ, так кождый обыватель годенъ естъ нагаценья, который волностью се срамить и правъ своих умети и розумети не хочет, которымъ правомъ усю вольность свою обварованую маеть. А если которому народу встыдъ правъ своих не умети, поготовю намъ, которые не обычымъ якымъ языкомъ, але своимъ власнымъ права списаные маемъ и кождого часу чого нам потреба ку отпору всякое кривды ведати можемъ.

*Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 года*



## Беларуская песня пра Касцюшку

*“Наш Касцюшка слаўным быў” – здавён увечнілася ў беларускім слове постаць легендарнага паўстанца-рэспубліканца. Сёння з паняццем “наш” у некаторых суайчыннікаў вытварыўся пэўны клопат, але ад гістарычнай праўды нікуды не дзенешся. Касцюшка – гэта буйная сімвалічная Асоба беларускай гісторыі. Падаём нятускныя радкі адной з народных песень, якую нехта Пламеньчык запісаў на Лепельшчыне, пазней апублікаваў у “Dziennik Poznański”, № 68,1882.*

***

Выязджаець пан Касцюшка
Маскву ваёваць,
Засвісталі казачэнькі
Ў поўнач на выходзе.
Заплакала Марысенька
Ў свае ясныя вочы.
“Ня едзь, ня едзь, пан Касцюшка,
Маскву ваёваць, -
Масква сільна і вяліка,
А дзе ж яе мала?”
“Ёсць у казакоў коні вараныя,
Цвякі залатыя...
Ня плач, ня плач, Марусенька,
Я цябе вазьму з сабою –
Назаву сястрою.
Хоць сястрою ня радною –
Жаўнерскай жаною.
А мы будзем Маскву ваёваць,
Маруся гароваць,
А мы будзем мёд, віно піць,

Маруська – слёзкі ліць"
Ваёвалі, ваёвалі –
Касцюшку забілі.
Ляжыць, ляжыць пан Касцюшка
На белым каменю.
Прыйшла яго Марусенька,
Слязьмі залілася:
"А я ж цяпер няшчасная
Адна засталася!
Чы я ж табе, пан Касцюшка,
Чы я не казала,
Што ня едзь жа, пан Касцюшка,
Маскву ваёваць.
Масква сільна і вяліка,
А гдзе ж яе мала?"
Вазьмі, матка, пяску жменю,
Пасей на каменю.
Як той пясок узыйдзець,
Так Касцюшка з вайны прыдзець.
Ляціць пятух чэраз рэку,
Пяе кукарэку,
Я ня ўвіжу Касцюшэчкі
Ад веку да веку.
Ляціць воран чэраз морэ,
А лятучы крачыць,
А хто ж майго Касцюшэчкі
Магілку аплачыць?

*XIX стагоддзе. Літаратурна-навуковы альманах. Кн. першая. Уклад. М.Хаўстовіча. Мн., БДУ, 199. С. 45-47.*



**Адам Міцкевіч**

## Сябрам маскалям

Ці помніце мяне вы? Бо калі я мару
Пра лёс сяброў, пра смерці іх, пра турмы|, ссылкі,
Не забываю й вас; чужыя вашы твары
У памяці заўжды ўзнаўляю без памылкі.

Дзе вы цяпер? Высакародны бо Рылееў,
Які мне быў, як брат, прысудам царскай зграі
Вісіць сярод ганебнай шыбеніц алеі.
Пракляты люд, які прарокаў забівае!

Рука, якую прасціраў ка мне Бястужаў,
Паэт-змагар, аднята ад пяра й ад зброі,
Цар даў загад яе запрэгчы ў тачку з грузам,
Яна — у шахце побач з польскаю рукою.

А іншых мо йшчэ горшая насцігла кара —
Мо хто з вас ордэнам ці чынам апаганен
І, вольную душу ў палон аддаўшы цараў,
Яму паклоны б'е, забыўшы пра змаганне...

Мо платнай моваю трыўмф ягоны славіць
І цешыцца з пакут сяброў сваіх і брацціяў?
Мо дзе маю айчыну мучыць і крывавіць
І нашым ганарыцца, як з заслуг, пракляццем?

Калі да вас ад вольных тут народаў
Мае ажно на поўнач трапяць суму песні
І адгукнуцца зверху над краінай лёдаў,
Хай волю вам нясуць, як жоравы ў час весні.

Пазнаеце мой голас. Покуль быў я скуты
Ды поўз, як вуж, з прыкідліваю мінай,
Я вам адкрыў свае пачуцці і пакуты,
Бо быў для вас я з прастатою галубінай.

Вось лью на свет я келіх свой атрутны,
Пякучая надзвычай гарчыня той мовы.
Бо з слёз, з крыві яна, што лье мой край пакутны,
І хай яна раз'есць не вас, а вашыя аковы!

А хто з вас скаргу ўзніме, скарга, мне здаецца,
Як брэх сабакі будзе, што ўжо так міжволі
Прывык да доўгай цярплівае няволі,
Што рве руку, якая зняць ланцуг памкнецца.

*Пераклад з польскай Пятра Бітэля. "Спадчына". 1992. №2*



**Кастусь Каліноўскі**

Марыська чарнабрэва, галубка мая,
Гдзе ж ся падзела шчасце і ясна доля твая?
Усё прайшло, — прайшло, як бы не бывала,
Адна страшэнна горыч у грудзях застала.

Калі за нашу праўду Бог нас стаў караці
Дай ў прадвечнага саду вялеў прападаці,
То мы прападзем марна, но праўды не кінем,
Хутчэй Неба і шчасце, як праўду, абнімем.

Не наракай, Марыся, на сваю бяздолю,
Но прыймі цяжкую кару Прадвечнага волю,
А калі мяне ўспомніш, шчыра памаліся,
То я з таго свету табе адазвуся.

Бывай здаровы, мужыцкі народзе,
Жыві ў шчасці, жыві ў свабодзе.
І часам спамяні пра Яську твайго,
Што згінуў за праўду для дабра твайго.

А калі слова пяройдзе ў дзела,
Тагды за праўду станавіся смела,
Бо адно з праўдай у грамадзе згодна
Дажджэш, Народзе, старасці свабодна.

***

Браты мае, мужыкі родныя. З-пад шубеніцы маскоўскай прыходзщь мне да вас пісаці, і можа раз астатні. Горка пакінуць зямельку радную і цябе, дарагі мой народзе.

Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, - но не жаль згінуць за тваю праўду.

Прыймі, народзе, па шчырасці маё слова прадсмертнае, бо яно як з таго света толька для дабра твайго напісана.

Нямаш, браткі, большага шчасця на гэтым свеце, як калі чалавек у галаве мае розум і науку. Тагды ён толька магчыме жыць ў багацтве, па праўдзе, тагды ён толька, памаліўшысь Богу, заслужыць неба, калі збагаціць наукай розум, разаўе сэрца і радню цэлу сэрцам палюбіць.

Но як дзень з ноччу не ходзіць разам, так не ідзе разам наўка праўдзіва з няволяй маскоўскай. Дапокуль яна ў нас будзе, у нас нічога не будзе, не будзе праўды, багацтва і ніякай наукі, — адно намі, як скацінай, варочаць будуць не для дабра, но на пагібель нашу.

Для таго, Народзе, як толька калі пачуеш, што браты твае з-пад Варшавы б’юцца за праўду й свабоду, тагды і ты не аставайся ззаду, но ўхапіўшы за што зможаш, за касу, сакеру, цэлай грамадой ідзі ваяваці за сваё чалавечае і народнае права, за сваю зямлю радную.

Бо я табе з-пад шубеніцы кажу, Народзе, што тагды толька зажывеш шчасліва, калі над табою Маскаля ўжэ не будзе.

*Твой слуга*
*Яська-гаспадар з-пад Вільні*



**Зянон Пазняк**

**Вечны курган**

*(Памяці Каліноўскага паводле выпадку)*

Было іх дванаццаць –
Увесь іх аддзел,
Што застаўся жывы.
Ім трэба на Вечны Курган.
А там - адпачнуць.
І сілы адновяць,
І порах прасушаць.
Загояцца раны,
Свая ж бо зямля.

Вясковая вуліца –
Доўгі прасцяг
І хаты, бярозы, дубы.
-Дзе Вечны Курган?
Вочы ў дол.
-Дзе Вечны Курган?
Як ісці?
Усе маўчаць.
І вочы адводзяць убок.
-Каго баіцёся?
Маўчаць.
Толькі дзеткі ўслед,
Што бягуць чарадой,
З захапленпем на стрэльбы глядзянь.
(На стрэльбы - адна на дваіх.)
-Гэй, дзеці, дзе Вечны Курган?
-А там, дзядзька, там.

За вёскай, паночку.
За дубам - туды,
А потым - сюды
І проста балотам
Далёка да лесу ісці.

І тупаюць боты ў пыл.
І веецца прапар.
І словы ў крок:
-Дзеля вас.
Дзеля вас і ваюем, малыя.
Для вас.
Хай прышласць за вамі ідзе.

*09. 06. 2013*
*“Дзеяслоў”. 2014. №4 (71)*



**Празарліўцы з “Гомана”**

**ГОМОН**
**Белорусское социально-революционное обозрение № 1**

От редакции

… Из всех народностей, входящих в состав современной России, судьба белорусов, как известно, замечательна тем, что на них уже с давних пор привыкли смотреть, как на некоторый материал для всевозможных экспериментов, а не как на живую народность, способную самостоятельно располагать собою. Исходя из этой точки зрения, ближайшие соседи белорусов, пользуясь правом сильного, совершали над ними свои опыты и бесцеремонно налагали жесткие руки на живой организм белорусской народности, предрешив, что она должна безропотно подчиниться сильнейшим и ассимилироваться с ними, растворившись в великорусском или польском море. Политика насилия здесь продолжалась целые столетия, начиная с владычества Польши и кончая господством московского абсолютизма, не останавливающегося ни пред какими средствами, лишь бы только привести все к системе «единообразия», ввиду удобства при своих фискальных и полицейских целях. Дело дошло даже до того, что в 1840 году Николай I запретил употреблять самое слово «Белоруссия», стараясь, так сказать, стереть с лица земли целую народность.

К счастью белорусов все эти опыты имели здесь влияние более на высшее сословие, чем на остальную народную массу, бережно сохранявшую все свои отличительные черты и особенности. Эти особенности и могли служить залогом будущего широкого развития временно подавленной народности, в которой, рано или

поздно, должно было пробудиться народное самосознание. Раз возникшее народное самосознание не может уже прекратиться и, рано или поздно, должно повлечь за собою общее освободительное движение и борьбу с тем гнетом, который так долго тормозил развитие целой народности.

Сознав свои силы, белорусский народ тотчас скажет своим угнетателям: «Долой эксплуатацию, мы сами желаем управлять собой! Долой чужие руки, Белоруссия должна быть для белорусов, а не для чуждых элементов! Довольно нам подчиняться сильнейшим и ждать, куда они нас поворотят — направо или налево!.. Мы сами должны завоевать себе свободу, не возлагая надежды на других!..»

Таков общий неизбежный исторический закон, по которому каждый народ, пришедший к самосознанию, захочет сам распоряжаться своей судьбой, для чего и направит все силы к тому, чтобы добиться возможности жить и управляться самостоятельно. Проснувшаяся народность не даст себя в обиду и не позволит безнаказанно давить себя сильнейшим, примеры чего в настоящее время мы встречаем повсюду (напр[имер], среди славянских народностей Австрии и т. п.). И в самом деле, теперь прошло время деления народностей на высшие, призванные управлять, и низшие, управляемые.

И коль скоро среди белорусов возникло подобное сознание, то оно не умолкнет до тех пор, пока не будут достигнуты свобода и равноправность.

Итак, белорусская народность, сохранив свою обособленность, должна будет, без сомнения, занять в России такое же место, какое стремятся занять другие более или менее крупные народности. Белоруссия в лице своей интеллигенции начинает мало-помалу сознавать свои отличительные черты, как области, далеко не сходной с другими областями России. Проникшись современными



демократическими идеями, интеллигенция Белоруссии начинает сознавать, что их Родина только тогда перестанет быть яблоком раздора и лакомым куском для соседей, когда она сама своими собственными силами добьется свободы, сама устроится. Незначительная часть белорусской интеллигенции, сознавшая эту настоятельную нужду своей родины, рано или поздно должна была сомкнуться в отдельную группу, проникнуться стремлениями своего народа и послужить выразителем насущных потребностей своей родины, т. е. должны были горячо взяться за дело освобождения родины из-под гнета абсолютизма, выступив на борьбу с [о] своим вековым врагом. Таковы главные причины, которые способствовали возникновению отдельной социально-революционной группы, выступившей на поприще деятельности в Белоруссии. Задачи, выпадающие на долю этой группы, без сомнения, нелегки, тем более, что на каждом шагу ей придется сталкиваться с людьми совершенно противоположных мнений.

Для более верного успеха в своей деятельности теперь выступившая белорусская группа считает необходимым иметь свой орган, который мог бы служить выразителем задач, принимаемых ею на себя. Мы надеемся, что такую задачу выполнит наш орган - «Гомон»,- взяв на себя выяснение всех тех целей, которые должна преследовать новая группа в Белоруссии; одним словом, мы надеемся, что наш орган будет иметь руководящее значение в современном белорусском движении.

*Публицистика белорусских народников. Нелегальные издания (1881-1884). Сост. С.Х.Александрович, И.С.Александрович. Мн., изд-во БГУ им. В.И.Ленина, 1983. С.60-62.*

**Мацей Бурачок [Францішак Багушэвіч]**

**Прадмова**
(Фрагмент)

Ціж ужо нам канечне толькі на чужой мове чытаць і пісаць можна? Яно добра і навет і трэба знаць суседзкую мову, але найперш трэба знаць сваю. Перадумаўшы ўсё гэта, я , братцы, адважыўся напісаць для вас сякія-такія вершыкі: хто іх спадабае, таму дзякуй! А хто падуме лепш і больш напісаць, таму чэсць вечная і ад жывых людзей і ад бацькавых касьцей. А пісаць ёсць шмат чаго!

Спрадвеку, як наша зямелька з Літвой злучылася, такі і з Польшчай з’ядналася дабравольна, дык ўсё яе “Беларусяй” звалі, і недарма ж гэта! Не Вялікая, не Малая, не Чырвоная, а Белая, чыстая: нікога не біла, не падбівала, толькі баранілася.

Шмат было такіх народаў, што страцілі найперш мову сваю, так як той чалавек прад скананнем, каторaму мову зойме, а потым і саўсім замёрлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмёрлі!

*Мацей Бурачок. Дудка беларуская. Кракаў. 1891.*



**Рыгор Семашкевіч**

**Францішак Багушэвіч**

Ніякія годы, паходы, нягоды
Ад нас не адрынуць той час.
І світка мужыцкая днее пагодна –
Ашмянскага крою якраз.

Якія дакоры
Бываюць у гора?
Імжыць праз гады сіратлівы
Пагляд.
На ўсю Беларусь мільён пракурораў
І толькі адзін, толькі ён адвакат.

**Карусь Каганец**

**Не маскалі і не палякі**
З рэферату на калядны сход беларускай грамады 1903г.

Кажаце, панове, што беларус свае народнасці не знае і нічога пра яе не цяміць... Вота ж мяне гэта вельмі чапіла за сэрца, як кроў з крыві і косць з косці беларуса. (Я родам з даўнейшых баяр княжаства Мсціслаўскага. Мой род меў айчыма мужыка-наднямонца, а сам я колькі часу змалку і потым дзецюком жыў між сялян: разам пасвіў, разам гуляў, разам працаваў і цяпер маю між імі сваякоў...).

Я думаю, што мы не просім ніякай помачы дзеле таго, каб зліцца з расейцамі або палякамі, бо як захочам і самі туды дарогу знайдзем...

Гэта, што беларусы названня *беларус* не знаюць, то праўда, але тое, што яны з народнасці свае ніякай справы не здаюць, то няпраўда. Яно то можа трохі і не так, як бы трэба было, але ўсё ж такі цямяць, што яны не маскалі і не палякі. А калі станеш у каторага дапытвацца, хто ён, то адкажа, што ён тутэйшы... Помніць наш селянін, што Кацярына II увяла паншчыну, а Мікалай I паправіў, бо да Мікалая былі яшчэ дзе-нідзе вольныя людзі…

Нагаворам прыхільнікаў расійскага ўраду, што палякі ў часе паўстання 1863 г. хацелі паншчыну вярнуць, наш брат не дае веры, бо помніць Кацярыну і Мікалая.

*Каганец К. Творы. Укладальнік С.Александровіч. Мн., “Мастацкая літаратура”. 1979. С.61*



**Вястун “нашаніўскай” эпохі**

Старонкамі жыццяпісу Івана Луцкевіча.
Да 135-х угодкаў нараджэння (09.06.1881-20.08.1919).

*Гімназіст*

“Быў вучнем старога археолага менчука Генрыха Татура. Сядзелі мы гадзінамі ў кватэры старога дзівака падобнага да прарока Елісея лысага з рудой барадой. Татур – тып дэмакрата з часоў Сымона Канарскага. Стары і малы гадзінамі з захапленнем спорылі аб гістарычнай абстаноўцы якога-небудзь факту ў жыцці Саламярэцкіх князёў, альбо старой гісторыі Менску часоў пагрому яго Валадзімерам Манамахам. Пры гэтым абодва выказвалі надзычайную эрудыцыю і былі ў кожнай эпохе як у сваім кішані. Як бліскавіцай асьвятлялі і гэты край, і падзеі беларускага народу. “Северо-Западный край” неяк прападаў, індывідуальнасьць Беларуска-Літоўскага Гаспадарства ўваскрасала як у даўнія часы”— (Уласаў Аляксандр. Успамін // Сын Беларуса. 1924. № 24. З выпіскі, дасланай у Маскву (1985) с.п. Віталем Скалабанам).

Татураў хатні музей з унікальнай археалагічнай старапісьменнай і кніжнай калекцыямі сталі для нашага гімназіста мабыць першым самаадукацыйным універсітэтам, дзе пытлівы юнак мог абок іншага пазнаёміцца з “Бібліяй” Скарыны, Хронікай М.Бельскага, творамі Л. Барановіча, з найвялікшай рэдкасці Гісторыяй рускай і польскай (выданне адразу ж было спалена па загаду папы рымскага, адзін з ацалелых асобнікаў цяпер захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве Літвы) Гваньіні “Хронікай Еўрапейскай Сарматыі» . Па смерці настаўніка частка з яго збораў дасталася вучню, якая пазней

разам з набыткамі І.Луцкевіча ім жа перакажацца ў заснаванне віленскага Беларускага музею.

*Студэнт*

“Личное дело Луцкевич Ивана Германа Болеславова. Начато 1902г. Оконч. __41 лл.»

«Прошение Его Превосходительству Ректору С.-Петербургского Университета Дворянина Ивана Германа Иванова Болеславова… Имею честь просить Г-на Ректора зачислить меня студентом юридического факультета. Жительство – Минск в 1-й части по Крещенской ул., д. 25. Июля 15 дня 1902 г.». Верхнім вуглавым касячком – на заяве: «зачислить 23/VII/1902”. Ніжэй, пад заявай: «Свидетельство за № 5645, выданный билет в университет получил (подпіс) Иван Луцкевич» ( ЦДГА. Ф. 119, воп. 1, спр.3995, арк. 4).

Па нядоўгім часе, 10.09.1902 г. – паралельная заява таго ж студэнта - на імя дырэктара Археалагічнага інстытута з прсьбай залічыць вольнаслухачом дадзенай вучэльні. З адначасным прашэннем: «Не имея достаточных средств, покорнейше прошу Ваше Превосходительство освободить меня от внесения платы за слушание лекций в Вашем Институте». (ЦДГА. Ф. 119, воп. 1, спр. 123, арк. 78). Праз год – прашэнне такога ж зместу, з матывацыяй: «что я не пользуюсь никакими стипендиями и от платы в университете не освобожден. 13.09.1903 –И.И. Луцкевич (Там сама, арк. 17).

Яшчэ раней, 20.02.1903г., наш “недастатковы” студэнт звяртаўся ва ўніверсітэцкі рэктарат з прашэннем аб выдзяленні яму спамажэння “в размере взноса в университет за это полугодие из суммы представленной в распоряжение (ун-та) с вечера, устроенного в гор. Минске



20 января с.г. в пользу недостаточных студентов, окончиших там среднее образование” (ЦДГА. Ф. 119, воп.1, спр.39395, арк. 24).

Абок вучобы праймалі яго іншыя, не менш выпрабавальныя клопаты. 16 мая 1903 г. студэнта І.Л. прыцягваюць “к дознанию” у Губернскай жандарскай управе С.-Пецярбурга “в качестве обвиняемого по делу об интеллигентах и рабочих, принадлежащих к партии социалистов-революционеров и подготовляющих уличную демонстрцию 1 мая сего года». Ніжэй – некалькі пунктаў з дапытнае анкеты:

“Луцкевич Иван Иванович. *Год место рождения… Вероисповедание.* Римско-католическое. *Происхождение.* Сын дворянина. *Народность.* Поляк (мабыць, адпаведна, канфесіі падследнага, самавольнае азначэнне следчым – А.К.). *Что обнаружено по обыску.* В квартире ничего *преступного* не обнаружено. При задержании его в картире обвиняемой Анны Филатовой при нём обнаружено 287 р. 82 к. и свинцовый кастет. *Приняты меры пресечения.* Содержится в больнице С.-Петербургской одиночной тюрьмы. *Время сообщения о привлечении к дознанию обвиняемого.* 27 мая 1903 г. за № 19065. Ректору Петербургского университета”. Месяцам пазней, 16 чэрвеня затрыманага І.Л. з-за недаказанасці абвінавачання вызваляюць з-пад варты з падпіскай “о невыезде”, дазволам аднавіць навучанне ва ўніверсітэце. Вяртаюць спомненыя вышэй “арыштавныя” грошы – “как установлено расследованием, представляли часть наследства, досташееся Луцкевичу после смерти его отца, причем каких-либо указаний на нелегальное назначение этих денег расследованием не добыто” (ДАРФ. 3 д-во. Ф. 102. 1903 г. “Дело о Иване Луцкевиче”). Магчыма спомненая сума была выдаткавана на друкаванне паэтычнага зборнічка Янкі

Лучыны “Лучынка” (1903), выдадзенага кіраўніцтвам, у тым І.Л., “Круга беларускай народнай прасветы і культуры”. Не выпадае не адцеміць далікатнасць тагачасных, не раўнуючы цяперашнім, сілавікоў. На хадатайніцтва І.Л. у жандарскую управу за дазволам адлучыцца ў Мінск да хворае маці начальнік тае установы паведамляў рэктару Універсітэта, “что к удовлетворению означенного ходатойства возражений с моей стороны не имеется”.

З студэнцкае справы І.Л. даведваемся таксама аб яго просьбе ў рэктарат за дазволам “условного перевода” на другі курс, паколькі не патрапіў з-за арышту здаць усіх экзаменаў. На гэтым, мяркуючы па матэрыялах “Дела”, яго універсітэцкая хроніка завершана. Дыпламаваны юрыст «не состоялся». Затое годам пазней у кішэні – пасведчанне археолага:

“12 мая 904. № 117. Удостоверение. Представитель сего студент Императорского С.-Петербургского университета И.И. Луцкевич окончил курс С.-Петербургского Археологического института и отправляется для научных занятий по славяноедению в Северо-Западный край и Австрию. В виду этого СПб. Археологический институт имеет честь просить подлежащие учреждения и лиц заведующих древнехранилищами и библиотеками оказать содействие г. Луцкеичу в его научных занятиях. Директор Института Н. Покровский” (ЦДГА. Ф. 119, воп. 1, адз.зах. 150, арк. 88. Выпіска атрымана ад Маргарыты Пяровай, роду Луцкевічаў, – удзячны А.К.).

### *Грамадовец – БСГ*

Спалучаючы археалагічныя раскопкі, антыкварныя росшукі з палітычнай дзейнасцю. Вясной 1905 г. на



Канферэнцыі сацыялістычных партый Расіі (Фінляндыя) сябра ЦК БСГ І.Л. ад імя свае партыі ініцыюе прынянцце канферэнцыяй адмысловай “Дэкларацыі П.П.С. (Польскай сацыялістычнай партыі) і Б.С.Г.” – мабыць першае ў XX ст. заяўкі беларусаў на міжнароднай пляцоўцы аб самавызначэнні – пакуль федэратыўнай аўтаноміяй—іхняе радзімы: “Узнаючы неабходнасць вычлянення тэрыторыі гістарычнай Літвы (Літвы і Беларусі) разам з усімі залюднёнымі на ёй нацыянальнасцямі ў асобны палітычны арганізм, аднак не прапануе на разгляд Канферэнцыі гэтага патрабавання, паколькі яно павінна быць разязана супольным паразуменнем усіх сацыялістычных партый гэтай тэрыторыі” (Przedświt. 1905. № 4-5. S. 176 // CA KC PZPR. Пераклад з польскае). Аб тым жа -- самаызначальныя заклікі лістоўкі БСГ “За свабоду”: “Няхай жыве рэспубліка дэмакратычная! Няхай жыве *Сойм у Вільні для беларусаў.* Краёвы Камітэт Беларускай Сацыялістычнай Грамады. 9 грудзеня 1905 году”. Тэкст пракламацыі пададзены ў кн. Генадзя Каханоўскага “Адчыніся таямніца часу” (Мн., 1984. С. 48), але за выняткам (пільны цэнзар?) вылучанага курсівам радка пра Сойм у Вільні для беларусаў.

З той жа “аўтанаммічнай” паслядоўнасцю выступіў прадстаўнік БСГ Шчасны (І.Луцкевіч) у Пецярбургу на канферэнцыі расійскіх сацыялістычных партый, адцеміўшы заадно варожасць расійскіх сацыял-дэмакратаў (бальшавікоў) беларускаму руху: «По отношению к другим партиям было решено поддерживать самые близкие отношения с социалистическими партиями поддерживающихся принципа федеративной республики и территориальной атономии. […] мы не держимся агрессиной политики, не перебиваем у других партий ни рабочих, ни крестьян, живем с ними мирно, кроме, впрочем, Р.С.Д.Р.П., которая долгое время по отношению к

Громаде держалась черезычайно агрессивной политики. К тому же она не признаёт употребления нашего родного языка и держится взгляда отрицающего федеративный строй» (Протоколы Конференции Российских Национально-Социалистических партий. Спб., 1908. С.93, 95).

Не абыходзілі ўвагай дзейнасць БСГ і наглядчыкі - “охранители”. Дэпеша начальніка Віленскай губернскай жандарскай управы 5.04.1910 № 1234 – Дырэктару Дэпартамента паліцыі ў Пецярбургу: «Вследствие предписания от 12 января за 104484 доношу Вашему Превосходительству, что «Белорусская Социалистическая Громада» имея [в] начале своей деятельности крайне неопределенную политическую программу - нечто среднее между социал-демократами и социалистами - в конце 1906 г. приняла программу социал-демократов (?! - А.К.), введя в неё требование отдельно Учредительное собрание для Литы и Белоруссии. Эта партия пользовалась значительным влиянием среди крестьян Виленской, Гродненской и Минской губерний, причем центром её организации являлся Минск; в г. Вильне с 10 декабря 1906 г. издаётся легальная газета «Наша Нива», являющаяся органом, посвящённым белорусскому населению социалистического направления и по сообщениям Временного комитета по делам печати подвергавшаяся конфискации за статьи возбуждающего характера. Во главе «Нашей Нивы» стоял и стоит сын коллежского советника Александр Николаевич Власов (революционная кличка «Старший»), а ближайшие участники братья Ян (революц. кл. «Счестный») и Антон (революц. кл. «Генрих»). (ДАРФ. Ф. 102, воп. 9, адз. зах. 1908. Дело о «Белорусской Социалистической Громаде». Начато 1908. Кончено 1910).



*Дзеяч - “Нашанівец”*

Пасля закрыцця “Нашай Долі” заснавана “з ініцыятывы і за грошы Ів. Луцкевіча “Наша Ніва”, стаўшая цэнтрам беларускае палітычнае мысьлі і нацыянальнае работы” (З успамінаў Ант. Луцкевіча // Памяці Івана Луцкевіча. Вільня, 1920. С. 12). Як рабілася газета, аб тым -- яе галоўны рэдактар: “Мала грошы, многа працы і ахвяр пайшло на гэта. Пры ўкладаньні “Нашай Нівы” вялізная і марудная праца была над кожным словам. Тварылася літаратурная мова… Першыя паўтрацця году пісалі “нашаніўцы” ад 12 гадз. вечара да рана, бо ўдзень народ безупынна адрываў ад пісаньня. Неўгамонны Іван працаваў поўным парам ня толькі пры надаваньні кірунку (газеце), але ў развіцьці ўсіх бакоў беларускасьці. […] Жартавалі, што Іван ведаець на Беларусі 10 % жыхароў з твару, запраўды, знаёмсты яго былі надзычайна шырокія – усё жыццё ён насіўся як мэтэор” (Уласаў А. Успамін // Сын Беларуса. 1924. № 29).

Пакліканыя ратаем-“Нашаніўцам” да сяўбы на родным загоне спамінаюць:

“І гэта наш беларускі тэатр, беларуская публіка, беларускі дух, гордасьць і надзея! – А ці памятаеце вы, паночку, як гэты тэатр пачынаў прабіваць цьвёрды грунт векавога няхайства, як вы прыязджалі зь Вільні ў Дзісну на беларускае ігрышча, што ставіў Ігнат Буйніцкі, як Вы самі падышлі да мяне і сказалі: “Добра граеце, толькі голас лішне слабы. А вашы рукапісы пасланыя ў “Нашу Ніву” атрымалі. Пішэце больш - будзем патрошку друкаваць”. А пасьля Вы нас, усю трупу зьнімалі сваім “кодакам” (Леапольд Родзевіч // Пра Івана Луцкевіча. Успаміны сьведчаньні. Укладаньне, прадмова, каментары А. Сідарэвіча. Мн., 2007. С. 40).

Помны след пакінуў ён у Горадні, сярод удзельнікаў Гуртка беларускай моладзі. Ладжаная гурткоўцамі першая вечарына 9 лютага 1911 г.” тым больш памятная, што ўшанаваў яе сваёй прысутнасьцю с.п. Іван Луцкевіч, сумысьля прыехаўшы з Вільні. Быў рэферат “Адгалоскі душы беларускага народу ў яго песьнях казках і легендах”. Далей пяяў хор і была пастаўлена камедыйка Каганца “Модны шляхцюк”. І. Луцкевіч пісаў у “Нашай Ніве” 1911 № 8: “…Вынес я ў падзяку за прыемны вечар веру, што горадзенская беларуская моладзь родную справу пасуне ўперад” (Л.С.Ш. Успаміны аб Горадзенскім Гуртку Беларускай Моладзі // Студэнцкая думка. 1925. № 3 (4). С. 31). Тады ж, між іншым, наладзіўся лістоўны кантакт І.Л. з бібліятэкаркай Гуртка, гімназісткай Людвікай Сівіцкай (Зоськай Верас), неўзабаве карэспандэнтам “Нашай Нівы”. У той жа Горадні трыма гадамі раней пры развітанні з Элізай Ажэшка на яе магілу быў ускладзены вянок з надпісам на жалобнай істужцы: “Ад “Нашай Нівы” – заступніцэ пакрыўджаных” (АР ЛУ. Фотакопія істужкі ў асабістым архве – А.К.).

З таго ж маладога падлеска на абшары “нашаніўскім” – голас беларускага святара, адметны ўзнаўленнем жывога партрэта нашага героя, разуменнем гістарычнай пераемнасці нацыянальнага руху: “Знаў я Івана Луцкеіча асабіста. Помню яго сяньня – рухавага, гаваркога, сярэдняга росту, цёмнавалосага, з люлькай у зубах, шчырага аткрытага характару. Пазнаў я яго ў 1912 ці ў 1913 г. у Вільні. […] Быў я тады вучнем Віленскай духоўнай семінарыі. Зерне беларускай нацыянальнай сьведамасьці, засеянае песьняром Багушэвічам праз яго “Дудку” і “Смык” і пашыранае “Нашай Нівай” і “Беларусам”, пранікала і да нас у семінарыю. Арганізоўваўся тут у нас беларускі гурток, была беларуская бібліятэчка, адбываліся разважаньні і



спрэчкі на беларускія адраджэнскія тэмы. Узьніклі пытаньні, адказ на якія быў нам не пад сілу. Апорай нашым слабым маладым сілам была між іншым і рэдакцыя “Нашай Нівы”, а ў ёй перад усім Іван Луцкевіч. Помню, як пры першым маім з ім знаёмстве ахвотна і вычэрпваючы даваў ён адказы на мае сумнівы, як свае доказы падкрапляў рэчамі з беларускай мінуўшчыны… Помню ўрэшце, як ён заахвочваў нас маладых да працы на ніве беларускага адраджэньня, а прадусім на ніве беларускай культуры. […] Тым усім, што пачуў я ад Івана Луцкевіча, дзяліўся я з сваімі таварышамі, супольна паглыблялі мы і разьвівалі беларускую нацыянальную ідэю і сьнілі залатыя сны аб будучым Беларусі” (Адам Станкеіч. Іван Луцкевіч – закладчык Віленскай Беларускай Гімназіі // 25-лецьце Беларускай гімназіі ў Вільні. Вільня, 1944. С. 7-8). Гэтулькі – над Вяльлёй.

Пламеньчык тае самае ідэі трапятаў і над Дняпром. “Было гэта ўлетку 1917 году. Іван Іванавіч, як вецярок беларускага адраджэньня, разумеецца, не мог не зацікавіцца тым што робіцца ў Магілёве, гэтым важным і старадаўнім цэнтры Усходняй Беларусі. Ужо хворы і слабы ён прыехаў у Магілёў, каб на месцы пабачыць, як вядзецца беларуская праца. Склікан быў сход віднейшых беларускіх дзеячоў, на каторым Іван Іванавіч зрабіў даклад аб агульным палажэньні беларускай справы… Раіў нам моцна трымацца лёзунгу: “непадзельная і незалежная Беларусь” і ўсімі сіламі змагацца з ворагамі беларускага адраджэньня. […] Іван Іванавіч выказаўся і па пытаньню аб арыентацыі, якой павінны трымацца беларусы. Ён бараніў патрэбнасьць цеснага кантакту беларусаў з украінцамі і літоўцамі, як нашымі бліжэйшымі суседзямі і наогул са ўсімі вызваляючыміся народамі, знаходзіўшыміся пад ярмом расейскага царызму” (Кахановіч М. // Памяці Івана

Луцкевіча… С. 47. Передрук – Ратуша. 1993. № 40, кастрычнік).

Сведчыць сваю перакананасць гадаванцы "нашаніўства" не лічым крамольным нават за кратамі ў "вольнай" БССР: "Еще с юношеских лет под влиянием руководителя нашенивского национального движения, именно Ивана Луцевича, я была воспитана в духе нашенивства, в сущности нацдемократизма, когда национальное возрождение Беларуси было первой и главной целью моей жизни" (з паказанняў Паўліны Мядзёлкі на следстве па справе так званага Саюза вызвалення Беларусі. 5.08.1930 г. НАКДБ РБ. Т.17, С.247)

### *Навука – Школьніцтва – Музей*

У ранейшых нашых публікацыях закранaлася аб навукова-асветніцкіх намаганнях, знаходках І.Л. [1], уключна з выяўленымі ім у архівах Каралеўца (Кёнігсберга) матэрыяламі пра наведанне Ф. Скарынам прускага герцага Альбрэхта (апублікаванымі А. Мілавідавым), помніка татарска-беларускай пісьменнасці Ай-Кітаб [2]. Дадамо яшчэ колькі істотных драбніц.

Падчас навуковай стажыроўкі ў міжнародным славістычным семінары пад кіраўніцтвам вядомага славіста Вратаслава Ягіча (Вена 1904) І. Луцкевіч змяшчае ў часопісе "Рутенішэ рэвю" (Ruthenische Revue. 1904. № 19) артыкул "Нібы памерлая Беларусь" (пераклад з нямецкае на беларускую мову П. Садоўскага – Скарыніч. Вып. 7. С.21-26) – мабыць першую ў замежным друку пач. ХХ ст. публікацыю беларуса аб этнічнай індывідуальнасці яго Радзімы, пра супраціў прымусовай русіфікацыі, неабарачальнасць *"нацыянальнага адраджэння беларускага народу"* (курсіў наш – А.К.). У віленскім архіве (ф.21



Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Літвы) захаваўся рукапіс незавершанага накіда І.Л. "Жменя слоў пра Белую Русь яе гісторыю літаратуру" – выклiканага відавочна знаёмствам з фундаментальнай працай "Белорусы" (1903) Я. Карскага. Прынамсі, першыя старонкі "Жмені" адносна абшару рассялення беларусаў амаль дакладна "перагукоўваюцца" з "Этнографической картой белорусского племени" у спомненым вышэй томе. Наогул, грунтоўней засяродзіцца ў навуковых доследах яму, у адрозненне ад малодшага брата-супольніка па "нашаніўству" Антона, не выпала. Яго творчая энергія ледзь не цалкам была скіравана на практычныя дзеянні ў беларускай справе – здабыванне сродкаў для "Нашай Нівы", пэўных выдавецкіх праектаў, ладжанне культурніцкіх, палітычных мерапрыемтваў, асабліва – збіральніцтва археалагічных і гістарычных памятак і г.д. Гэтым жа намаганням быў падначалены павышаны антыкварны інтарэс І.Л.,[3] фінансавы набыткі з якого ня раз падсілкоўвалі тую самую справу.

Пасля адкрыцця (1915) з ініцыятывы й клопатамі І. Луцкевіча, Цёткі першых беларускіх школ у Вільні, на Беласточчыне, Гродзеншчыне, адпаведных вучыцельскіх курсаў на чарзе -- беларуская гімназія, таксама першая. Спамінае першы дырэктар гэтае вучэльні: "Зусім хворы, павінны ляжаць у ложку, Іван Іванавіч на вялікую шкоду свайму здароўю працааў над тым, каб адчыніць у Вільні беларускую гімназію. Ён хадзіў па розных -- спачатку польскіх, потым камуністычных установах, каб заручыцца згодай на аддачу будынку па Вострабрамскай № 9 пад беларускую гімназію. Ён прыняў жывое ўчасьце арганізатарскай працы ініцыятыўнай групы беларускіх пэдагогаў, у склад каторай увайшлі: А. Чарняўская, А Сакалова, Ю. Мэнке, М. Кахановіч і інш. Гімназія была хутка адчынена. Гэта было 1 лютага 1919 году. Іван Іванавіч

сам узяўся выкладаць беларусазнаўства і краязнаўства" (Кахановіч М. // Памяці Івана Луцкевіча… С. 48).

Годам раней, зноў жа з яго ініцыятывы, засноўваецца Беларускае Навуковае Таврыства. "На паседжаньні Ўраду Таварыства 13 траўня 1918 году Іван Луцкевіч зрабіў афіцыяльную заяву, што ён аддае Таварысту плады сваёй многагодняй працы: архіў, бібліятэку, гістарычныя беларускія памяткі, сабранне ікон, абразоў, партрэтаў, нумізматаў і інш. Гэты надзычайна цэнны з навуковага боку дар, прыняты Таарыстам з глыбокай удзячнасьцяй, стаўся асновай Беларускага Музэю [імя Івана Луцкевіча], закладзенаго ўжо пасьля сьмерці ахвярадаўцы – у 1921 годзе – у Базылянскіх мурох" (Даклад Старшыні Ураду Беларускага Навуковага Таварыства А. Луцкевіча на паседжанні 22.XII.1932 // Гадавік Беларускага Навуковага Таварыства. Вільня, 1933. Кн. 1. С. 6. Перадрук: Луцкевіч А. Барацьба за вызаленьне. Уклад., каментары і прадмова А. Сідарэвіча. Вільня, Беласток, 2009).

*Характву спрыяючы*

Мецьме на ўвеце "нашаніўскі" класічны ўзлёт беларускага мастацкага слова, нацыянальнай думкі. Цётка, Якуб Колас, Янка Купала, Максім Багдановіч, Вацлаў Ластоўскі, Змітрок Бядуля, Канстанцыя Буйла, Алесь Гарун, Максім Гарэцкі, Ігнат Буйніцкі, Францішак Аляхновіч, Язэп Драздовіч, кс. Адам Станкевіч…Калі, у якім іншым адначассі нашаму пісьменству, мастацтву шчасціла на гэтак вабнае, шчодрае суквецце дзівосных талентаў? Праз якія маўклівы, пагарджаны мацнейшым суседам тутэйшы насельнік "Западного ("западлого") края", "kresów wschodnich" выказаў свету сваё духоўнае характво,



сваю нацыянальную душу, неадольнае ікненне да самараскрыцця сваіх творчых рэсурсаў, векавечнае ідэі "людзьмі звацца", народам стацца – годным высокага наймення Беларус, прыстойнага пасаду ў міжнароднай сябрыне.

Жыццёвыя пуцявіны згаданых, многіх іншых творцаў пазначаны выразнай пячаткай дабрадзейнасці лідараў "Нашае Нівы", менавіта братоў Луцкевічаў -- названых "душой беларускага адраджэння" (Якуб Колас), іхняга спрыяння кожнаму пакліканаму да беларускае справы, да асваення здзірванелых аблогаў нацыянальнай культуры, грамадскай думкі. Аб чым, дарэчы, неаднойчы ўдзячна пасведчылі самі творцы беларускага характва.

*Жыве Беларусь!*

Пра дзяржаўна-незалежніцкія парыванні неспатольнага Грамадоўца-"Нашаніўца". "Але найбольш шырокімі ды важнымі, ужо эўрапейскімі форумамі, на якіх давялося Івану Луцкевічу прадстаўляць беларускую справу, сталіся з`езды народаў Расіі ў Штакгольме і ў Лазане ў 1916 г. Газета "Гоман" пасьля гэтых з`ездаў у № 46 за 21 ліпеня 1916 г. у артыкуле "Першыя выступленьні" за подпісам "І. Мялешка" (гэтак падпісваліся артыкулы накіданыя Іванам, аканчальна апрацаваныя Антонам Луцкевічам) дала гэткую ацэнку гэным падзеям: "Народ, каторы сто гадоў маўчаў, губляе зусім свой голас, ня ўмее гаварыць аб сабе і за сябе. Але быаюць такія здарэньні ў жыцьці прыспаных народаў, каторыя прымушаюць іх падаць свой голас, вырываюць той голас з грудзей. У нас у беларусаў гэта першы раз зрабіла вялікая расійская рэвалюцыя [1905], тады вырваўся з грудзей народу крык: "Жыве Беларусь!" і пачалася ўнутраная творчая работа над абуджэньнем нацыянальнай

культуры, над агульным адраджэннем" (Адамовіч Антон. Як дух змаганьня Беларусі. Да 100-х угодкаў нараджэньня Івана Луцкевіча. Нью-Йорк 1983. С. 19).

Затым – архіўны дакумент. З рэзалюцыі Беларускай Рады 18 лютага 1918 г. у Вільні:

"Прымаючы пад увагу […] 4) Што Беларусь ад XIII да канца XVIII сталецьця была незалежна, творачы разам з літвінамі асобную дзяржаву (Вялікае Княжства Літоўскае) і – пасьля прылучэньня яе гвалтам да Расеі – праз 120 гадоў няволі і ўціску не пакідала дабівацца незалежнасьці нават з аружжам у руках (1812-1905 гг.) […], Беларуская Рада апіраючыся на рэзалюцыю Беларускай Канферэнцыі ў Вільні 25-26-27/I. 1918…і на пастанове разагнанага бальшавікамі Беларускага Кангрэсу у Менску 30-31/XII.1917 зьвяртаецца да ўсіх гасударств, прыняўшых прынцып самаазначэньня нацыянальнасцей,… з прызывам аказаць помач у справе адбудовы дзяржаўнай незалежнасьці колішняга Літоўска-Беларускага гасударства… Вільня, 18 лютага 1918 г." Подпісы-аўтографы: Антон Луцкевіч. Протоіерей М. Голонкевич, Уладзіслаў Толочко, Johann (так у тэксце—А.К.) Луцкевіч, Д. Семашко, Язэп Салавей, усяго 12 подпісаў (БДАЛМ. Ф. 3, воп. 1, адз.зах. 140, арк. 36—адв. Рукапіс-аўтограф А. Луцкеіча).

З адпаведным мандатам дэлегацыя беларускіх віленчукоў у складзе А., І. Луцкевічаў, Я. Станкеіча, Яз. Туркевіча, Д. Сямашкі падаецца ў Менск на паседжанне Ўсебеларускае Рады. Там, у будынку Дваранскага сходу з начы 24 на 25 сакавіка пасля зацята гарачай дыскусіі:

"Урэшце настаў станоўчы мамэнт: галасаваньне. Новыя спробы сарваць справу, новыя "адводы" з боку ворагаў незалежнасьці. Дарэмна! […] Каля шостае гадзіны раніцы старшыня ставіць на галасаваньне формулу: "Рада Рэспублікі аб`яўляе Беларусь незалежнай і суверэннай



дзяржавай і выдае аб гэтым устаўную грамату"… І яно сталася: новая ідэя нарадзілася. Вялізарнай перавагай галасоў формула прынята! Радаснымі клікамі нарушаецца ціша. Пачынаюцца гарачыя авацыі. "Новае сьвятло нарадзілася на Беларусі!" – кліча нехта ў экстазе… Тухнуць электрычныя лямпачкі… "А старое сьвятло загасла!"-- адказвае брат Іван. […] А з наступленьнем новае ночы мы ізноў у сьцюдзёных нятопленых, *намерзлых* "цяплушках". Мароз ажно трашчыць. На ўсёй дарозе ад Менску да Вільні нельга дастаць ані кроплі вады, ані чым сагрэцца. Але нам гэта – нічога! Бо цёпла і радасна на душы, бо мы, старыя дзеячы, першыя *сяўцы беларускае ідэі* (курсіў – А.К.) неўспадзеўку ўбачылі, як багаты плён дала наша сяўба, пераросшы самыя сьмелыя нашы спадзяваньні. І якой дзіўнай радасьцю, якой глыбокай верай і пераконваньем веець ад слоў брата Івана:

"Ну цяпер дык нам і паміраць ужо можна.." (Луцкевіч А. 25 марца 1918 году: З маіх успамінаў // Наша думка. 1921. 25 сакавіка. Перадрук: "Пра Івана Луцкевіча." С. 56, 58, 59).

### *Развітанне*

Вычарпаны ахвярнымі, да самаспалення, грамадскімі клопатамі, бытавой няўладкаванасцю, праняты хваробай сухотніка, неспатольны пасіянар наш дажываў апошні год наканаванага яму кароткага веку. "Стан здароўя Івана вельмі благі,-- натуе ў сваім дзённіку малодшы Антон,-- але ён працуе праз сілу і нават ходзіць на свае лекцыі (у гімназію). Свядомы крытчнасці сайго становішча, хворы тэлеграфуе з Вільні ў Петраград малодшаму брату-лекару: «Военно санитарный поезд 87а Степану Ив. Луцкевичу. Немедленно приезжай домой гимназии врача. Я болен серьёзно. Иван» (АР ЦНБЛ. F. 21-38. Аўтограф).

Радня, бліжэйшыя сябры наважваюцца скіраваць яго на лячэнне ў адпаведную здраўніцу польскага Закапанага. Туды 15 чэрвеня 1919 г. і падаецца знядужаны Іван у суправаджэнні Лялі Мэнке, малодшай сястры Юльяны – яго каханай і супольніцы ў беларускай справе. Па дарозе – марудлівае затрыманне ў Варшаве. Дзякуй, польскія калегі акажуць спагаду й спрыянне драматычным клопатам хворага беларуса. Анджэй Струг (Т. Галэцкі)-- пісьменнік і сацыяліст -- звяртаецца пісьмова да кіраўніка санаторыя ў Закапаным з просьбай паспрыяць уладкаванню й лячэнню “Яна Луцкевіча – асабіста мне знаёмага выбітнага беларускага дзеяча” (БДАЛМ. Ф. 3 воп. 1 адз.зах. 261 арк. 47).

Аднак ні лагодная цяплынь Прыкарпацкага прадгор`я, ні апека санаторных лекараў ужо не маглі прадухіліць сыход зняможанага пацыента. Ціха неабарачальна доўжылася яго дагасанне. Хаця яшчэ здолеў адгукнуцца лістоўна да А. Луцкевіча, які пад той час на Вярсальскай мірнай канферэнцыі правам Старшыні народных міністраў БНР адчайна бараніў дзяржаўныя інтарэсы паняволенай Беларусі. Гэтыя І.Л. “прадсмяротныя пісьмы з 16.VII.1919 да брата Антона” захоўваліся ў Віленскім Беларускім Музеі, адкуль у жніўні 1945 г. разам з многімі скрынкамі іншых бясцэнных матэрыялаў іх забяруць (изымут) супрацоўнікі НКВД (Лабынцаў Ю. Архіў беларускага адраджэння. Мн. 1993. С. 31).

Апоўначы 19 жніўня 1919 ён адышоў на вечны супакой – практычна на руках свае бліжэйшае сяброўкі Юльяны Мэнке. Яна з сястрою, купкаю спачувальных і правялі нябожчыка ў апошні шлях. “Нашы прыяцелі-украінцы, – спамінала пазней, – несьлі пекны вянок з галінаў лімбы, горнай сасны, і верасу, на істужках красаваўся надпіс: “Борцові Білорусі від братів українців”.



Кранальны жэст з боку “братоў-украінцаў” не быў выпадковым. Пэўна ведалі пра судакрананне абоіх Луцкевічаў з вызвольнымі парываннямі іхняе Радзімы, аб творчых узаемінах відных “нашаніўцаў” з вядомымі ўдзельнікамі украінскага руху – М. Грушэўскім, Дм. Дарашаэнкам, А. Шэптыцкім, іншымі. “Я пакалала яму вянок з беларускай істужкай: “Майму дарагому другу”. Ляля – вялізны букет ягоных любімых мечыкаў, шмат кветак прынесьлі й іншыя. І сьвежы насып тануў у зелені і кветках” (Вітан-Дубейкоўская Ю. Мае ўспаміны. Вільня 1994. С. 17О).

*Меморыя*

Асыпаны кветкамі надмагільны курганок фотавыявай засвеціцца на вонкаай старонцы газеты “Беларускае жыцьцё”, 21 кастрычніка 1919 г. Пад здымкам паведамлялася, што з надыходам маразоў цела памерлага будзе перавезена ў Вільню. У тым самым часе з палос беларускага друку прагучаць высока памінальныя галасы па нябожчыку - Зм. Бядулі, М.Гарэцкага, М. Краўцова, Янкі Купалы, П. Бадуновай, кс. Ул.Талочкі, іншых. Лістападовым надвячоркам 1923 ля таго ж курганка запыніцца ў журботнай самоце паэт Казімер Сваяк (кс. К. Стэповіч) і малітоўна пазначыць у сваім дзённіку: “Сумная адзінокая магілка ваякі ідэі беларускай Яна Луцкевіча. Вечны спакой яму, Божа, дай” (Сваяк К. Дзеля маёй мысьлі, сэрца і волі. Выд. другое. Лондан, 1991. С. 41). Пазней з берага Волгі спачувальным лістом адгукнецца да А. Луцкевіча 27 чэрвеня 1927 г. Адам Багдановіч, бацька Максіма: «…С грустью и сожалением узнал из Вашего письма о смерти Вашего доброй памяти брата Ивана. Я знаком с его и Вашей деятельностью по русской и польской печати и со слов

покойного сына, который восхищался его коллекцией слуцких поясов и другой белорусской старины..” (АР ЦНБЛ. F.21 239).

Вяртанне ж у родныя абсягі задоўжылася на многія, “маразлівыя”, дзесяцігоддзі. З пацяпленнем грамадска-палітычнага клімату, сонечным маёвым дзянёчкам 1991 г. на даўнінных віленскіх могілках Роса адбылося перазахаванне праху Івана Луцкевіча. Пры адкрыцці помніка Івану і Антону Луцкевічам ля сімвалічнае магілы выказалі ўдзячнасць іх неўміручаму подзвігу дзеля маці-Беларусі - Старшыня Рады БНР Язэп Сажыч, генеральны дырэктар Дэпартамента нацыянальнасцей Літвы Галіна Кабецкайце, віцэ-старшыня Рады БНФ Юры Хадыка, лідэр беларускае дыяспары ў Вільні Хведар Нюнька, іншыя прадстаўнікі грамадскасьці Мінска, Магілёва, Маладзечана (Мілаш Л. Таварыства Беларускай культуры ў Літве. Вільня 2000. С.39).

Наперадзе, трэба спадзявацца, падобнае ўшанаванне памяці абодвух нацыянальных прарокаў на іхняй Бацькаўшчыне. Новы, дапраўды беларускі Гаспадар (“Пад беларускі сцяг прыйдзі, Ўладар!”) краіны рушыць нашым Адвечным шляхам, вядучы за сабою, цвярэзячы, замбаваннем ачадзены, люд паспаліты. І тады –цалкам верагодна – на Плошчы Незалежнасці стольнага Менску ўзнясецца помнік з магчымай скрыжаляй на пастаменце: Івану і Антону Луцкевічам – вольная адроджаная Беларусь.

*Аляксей Каўка*
*кастрычнік 2015.*

1/ Каўка А. Тут мой народ. Мн. 1989. С. 211-214. Яго ж. Іван Луцкевіч – адраджэнец // Беларусіка Albaruthenica, Кн.1. 1993. С. 42-45.



2/ Прыняты ў навуковым абыходку як “Кітаб Івана Луцкевіча”. Пад такой назвай нядаўна выдадзены ў Літве – Ivano Luckevicius Kitabus / Китаб Ивана Луцкевича. Vilnius 2009.

3 / У закранутым “антыкварным” кантэксце прыкметнай падаецца архівальная зацемка аб набыцці ў 1904 г. князем Уладыславам Сапегам сямейных памятак роду Сапегаў“ад супрацоўніка Археалагічнага інстытуту ў Пецярбургу Яна Луцкевіча” (АР НБЛ. Ф. 444).

Скарачэнні:

АР ЦНБЛ – Аддзел рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Літвы;
АР НБЛ – Аддзел рукапісаў Навуковай бібліятэкі ім. В. Стэфаніка ў Львове;
АР РДБ – Аддзел рукапісаў Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі;
БДАЛМ – Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва;
БЛУ – Бібліятэка Лодзінскага універсітэта (Польшча);
ДАРФ – Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі;
НАКДБ РБ – Нацыянальны архіў Камітэта Дзяржаўнай Бяспекі Рэспублікі Беларусь;
ЦДГА – Цэнтральны гістарычны архіў у С.-Пецярбургу;
CA KC PZPR – Цэнтральны архіў ЦК Польскай Аб`яднанай Рабочай Партыі.

*Першапублікацыя: Дзеяслоў. №1 (80). 2016.*

**Цётка**

**Вера Беларуса**

Веру, братцы: людзьмі станем,
Хутка скончым мы свой сон;
На свет божы шырэй глянем,
Век напіша нам закон.
Не чарнілам на паперу,
Дзесь ў архівы не здаець,—
Ён збірае поту меру
І на ніву нашу льець,
Землю поіць, яна родзе
Сок у зярнятах нам на хлеб.
Спажываем, а ў народзе
Штось як шэпча: «Ўставай, слеп!»
Веру, братцы, ў нашу сілу,
Веру ў волі нашай гарт:
Чую агонь ў нас — не брыну,
Бачу, братцы, мы не з карт,
Мы не з гіпсу, мы — з камення,
Мы — з жалеза, мы — са сталі,
Нас кавалі ў пламенні,
Каб мацнейшымі мы сталі
Цяпер, братцы, мы з граніту,
Душа наша з дынаміту,
Рука цвёрда, грудзь акута,
Пара, братцы, парваць пута!

*Кастрычнік-лістапад 1905*



**Янка Купала**

**Маладая Беларусь**

Вольны вецер напеў вольных песень табе,
Бор зялёны ўзняў дружным гоманам,
Сонца полымем вызвала к слаўнай сяўбе,
Зоры веру ўлілі сілам зломаным.

І ў час буры, нягод і вялікіх надзей
Зацвіла, расцвіла даўгажданая,
І крыніцай жывой над айчызнай сваей
Паплыла, пацякла неспыняная.

Паплыла, пацякла з светлай казкай жыцця
Полем, лесам, гарой і далінаю...
З свойскіх кветак-пралесак — карона твая,
Уся сама — ясната лебядзіная.

Зіхаціш і гуслярскаю песняй звініш,
Узнімаеш мінуўшчыну даўную;
Час сягонняшні ўперад ісці не пыніш
І глядзіш смела ў будучнасць тайную.

Смела ў сонцы ідзеш, як жывы агняцвет,
Сееш ласкава сны залацістыя;
Не пужае сумежны дакучны сусед,
Не пужае пуціна цярністая.

Ад мяжы да мяжы, ад капца да капца
Абнаўлення павевы расходзяцца,
Абнімае душу без граніц, без канца
Маці-радасць, што лепшы дзень родзіцца.

Ужо не так тапары ў зялёным бары
Хвойю валяць зімой маразянаю.
Ужо не так касары ад зары да зары
Летам звоняць касой адкляпанаю.

Значан гарт у руках, чутна песня без слёз,
Грудзі славы надзеяй калышуцца,
Ў кнігі новы закон ёмка пёрамі з кос
Наўсяды людзьмі новымі пішацца.

Расцвітай жа, ўзнімай на арліных крылах
Душы, сэрцы і думы заспаныя,
Вызывай, выклікай на вялікі прасцяг
Сілу, ведзьмай-пятлёй не чапаную.

Высылай, рассылай на край свет пасланцоў,
Як з гнязда сакалінага сокалаў,
Хай лятуць, далятуць да байцоў-удальцоў,
Хай грымяць весткай добраю ўвокала.

Годзе ў полі, ў лясах ты, старонка, і так
Сіратой начавала забытаю,
Годзе выпіў крыві з сэрца крыўды чарвяк,
Косці вецер тачыў непакрытыя.

Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі;
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі!..

*[1906-1912]*



**Независимость**

Когда речь заходит о независимости какого-либо нового государства, освобожденного войной и революцией из-под российского ярма, то это, кажется, в порядке вещей, так и должно быть. Независимая Польша, Литва, Украина, Латвия и т. д. — все они имеют на то право, всех их можно признать, даже можно и помогать, будь то физически или морально, и независимость этих стран не вызывает больших споров. Так или иначе, они раньше или позднее обретут свое государственное независимое существование.

Но вот заговорите вы о белорусской независимости... Здесь вам наворотят кучу всяких препятствий, нелепостей, прямо уши вянут слушая. На всякую иную самостоятельность каждый с вами согласится, только бы не на белорусскую.

В чем же дело?

Белорусский народ самобытен — это признают уже даже и наши противники из польского или российского лагеря. Белорусская государственность также имеет свою историю — имею здесь в виду Великое Литовско-Белорусское княжество. Географическое положение Беларуси также не худшее, как у людей, ну, к примеру, как положение Швейцарии. Мы малость отодвинуты от моря, но ведь и Швейцария не имеет моря. Так почему же так страшна наша независимость?

А вот почему.

Наша независимость солью в глазах независимости наших соседей — Польши и России, ибо и та и другая хотели бы нашу независимость утопить в ложке воды своей независимости.

Для восстановления великой Польши «от моря до моря» надо переступить Беларусь; для восстановления

великой России от Белого до Черного моря тоже надлежит растоптать Беларусь.

Вот и получается, что Беларусь норовят устранить из истории, из географии, и вообще если не целиком присоединить ее к одному из соседних государств, то расчленить пополам, но сделать так, чтоб о ней и слуха не было.

Но Беларусь, как и каждая иная страна, имеет право и добьется раньше или позже этого права стать равным и свободным государством между своими соседями.

В пользу этого свидетельствует ее прошлое, ее настоящее. Ни для кого не секрет, что жилось и живется белорусам тяжелее, нежели всем другим народам, а все из-за треклятой зависимости от наших более сильных соседей. Однако разберем по порядку.

После унии с Польшей Великого Литовско-Белорусского княжества, когда белорусская культура высоко держала свое знамя в родном краю, — эта культура начала вытесняться польским господством. Белорусское боярство за польские шляхетские эмблемы и теплые у трона места начало отрекаться от всего родного, белорусского, и перескакивать на сторону чужую, польскую. Отрешилось боярство от обычаев и традиций белорусских, от своей истории, родного языка, литературы. Где больше позванивали золотом, там высшие сословия тогдашнего общества и служили, продавая себя, свой народ, свое отечество.

Так было и так есть всегда. Высшее, состоятельнейшее сословие за блеск золота предпочитают сильных, оставляя своих братьев более слабых на издевательство и безнадежность.

И случилось в Беларуси после унии с Польшей то, чего и следовало ожидать.



Массы, народ земледельческий, остались белорусами, а их боярство, высшие сословия стали поляками. Таким образом, двор сам по себе как бы отмежевался от села. Белорусский пан сделался чужим для белорусского крестьянина. Белорусское боярство стало чужеродным на своей белорусской земле. Те самые люди, только побогаче, начали разговаривать на различных языках, и сегодня они между собой ничего общего не имеют. Двор смотрел на крестьянина, как на «люд русский», как на быдло, над которым можно стоять лишь с плетью эконома, а село смотрит на пана, словно на приблуду с чужой стороны, который захватил его, крестьянина, землю да еще издевается над ним самим.

После унии с Польшей пришла на Беларусь опека московская. Цари нагнали сюда всяческих чинов, наводнили край всевозможной московской черной голытьбой, у которой здесь одно лишь на уме, как потеплее нагреть руки да прихватить «состояние». Но о белорусе-крестьянине, белорусе-гражданине никто и не подумал.

Прибавилась только к польско-панской плети чиновничья жандармская нагайка.

Зависимость от Польши сменилась зависимостью от Москвы, но к лучшему ничто не изменилось. Московский чиновник, как и польский пан, смотрел на белоруса как на быдло. И никто из этих опекунов даже пальцем не шевельнул для улучшения жизни белоруса, для заботы о его родном крае.

И те и эти смотрели искоса на Беларусь — то как на «кресы», то как на «окраину», только и того.

А белорус стонал и стонал.

Как показывает практика, испытанная нами на собственной шкуре, государственная зависимость, от кого бы то ни было, колом подневольному народу выпирает.

Вот почему лишь полная государственная независимость может дать и подлинную свободу, и зажиточность, и хорошую славу нашему народу.

Край наш сам по себе не бедный, только чужие хозяева его обездолили. Земли у нас много, леса еще больше; есть большие реки, озера, железные дороги, ухоженные города с фабриками, заводами и многим прочим добром. К тому же и численно народ мы не маленький — около 12 миллионов. Не ровня Швейцарии, Дании или Греции!

Так почему же нам, братья белорусы, не добиваться своей государственной незалежности?

Мы должны за нее бороться и мирно, и с оружием в руках, ибо время не ждет и враги наши не дремлют.

*1919*

*Перевод с белорусского*

**Паўстань...**

Паўстань з народу нашага, прарок,
Праяваў бураломных варажбіт,
І мудрым словам скінь з народу ўрок,
Якім быў век праз ворагам спавіт!
Збяры ў адну ўсю Беларусь сям'ю,
Вазьмі з яе прысягу і зарок,
Што не прадасць сябе, сваю зямлю...
Зняць путы Бацькаўшчыне ўстань, прарок!
Паўстань з народу нашага, пясняр,
Былых і будучых вякоў баян,
І ў бурны кліч, як буры ўдар,
З віхрамі загудзі пад звон кайдан!
Гудзі над Беларусяй з краю ў край,



У сэрцах спячых распалі пажар,
Над курганамі перуном зайграй!
Збудзіць нябожчыкаў паўстань, пясняр!
Паўстань з народу нашага, ваяк,
І волатам на вогненным кані
Народ аграблены — бы з торб жабрак —
За Бацькаўшчыну павядзі ў агні!
Да хвалы шлях айчыне пакажы,
Змяці з палёў яе чужых бадзяк,
На стражы стань гранічнае мяжы...
Свой край заваяваць паўстань, ваяк!
Паўстань з народу нашага, Ўладар,
Адбудаваць свой збураны пасад,
Бо твой народ забыў, хто гаспадар
І хто яго абдзёр з каронных шат.
На Ўладара жджэ Беларусь даўно,
І жджэ цябе ўладарства Божы дар,
Вялікае, магутнае яно...
Пад беларускі сцяг прыйдзі, Ўладар!
*1919*

**Максім Багдановіч**

**Пагоня**

Толькі ў сэрцы трывожным пачую
За краіну радзімую жах, -
Ўспомню Вострую Браму святую
І ваякаў на грозных канях.

У белай пене праносяцца коні,—
Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць...
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.

У бязмерную даль вы ляціце,
А за вамі, прад вам! — гады.
Вы за кім у пагоню спяшыце?
Дзе шляхі вашы йдуць і куды?

Мо яны, Беларусь, панясліся
За тваімі дзяцьмі уздагон,
Што забылі цябе, адракліся,
Прадалі і аддалі ў палон?

Біце ў сэрцы іх - біце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць!
Хай пачуюць, як сэрца начамі
Аб радзімай старонцы баліць...

Маці родная, Маці-Краіна!
Не ўсцешыцца гэтакі боль...
Ты прабач, Ты прымі свайго сына,
За Цябе яму ўмерці дазволь!..



Усё лятуць і лятуць тыя коні,
Срэбнай збруяй далёка грымяць...
Старадаўняй  Літоўскай Пагоні
Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.
*1916*

**Язэп Лёсік**

**“Вольная Беларусь”**
(Фрагмент)

Паўстаў народ і магутным рухам сваім разарваў векавыя кайданы.

Як трухлявае дрэва разбілася на друзгі царскае самадзяржавіе, гэты ідал крывавы, вінавайца нашага гора, слёз і пакуты. Зрабілася цуда. Раптам не стала цароў, зніклі прывілеі, усе сталі роўнымі і вольнымі. Разам з тым знікла, як дым, і тая розніца, што дзяліла мову людскую на панскую і мужыцкую. Усе яны - і польская, і расійская, як і наша беларуская – маюць права на жыццё і пашану; усе роўныя і аднакія, няма паміж іх ні горшай, ні лепшай, як няма сярод роўных большага ці меншага.

Дык устань, Беларус, пратры вочы свае і смела глянь на белбожы свет!

Падай руку братэрскі суседу свайму, прывітайся да усіх, як роўны з роўным, як вольны з вольным.

Будзь горд, Беларус! Ты маеш права, бо і твая кроў лілася за вольнасць Дзяржавы Расійскай, і твае дзеці ішлі на шыбеніцы, у вастрогі, на пакуту ў засланне за вольнасць, за шчасце, за вольнасць народа.

Будзь горд, Беларус! Ты маеш права на гэта, ты заслугаваў пашану сабе ад суседа і ад усяго белага свету. І твая цагліна лягла ў падмуроўку агульнай вольнасці, і твая слязіна цэментавала будынак лепшага жыцця.

Цяпер у нашых руках наша будучыня, ад нас саміх залежыць скаваць сабе лепшую долю. Памятайце гэта, злучайцеся ў гурткі, арганізуйце хаўрусы. «Вздувайце горна, куйце смело, пока железо горячо!»



Моцна стойце на родным грунце! Любіце бацькаўшчыну сваю ўсёю душою, усім сэрцам сваім, бо хто матку забывае, таго Бог карае. Шануйце мову сваю — гэта скарб наш, моц і аздоба наша. Вучыцеся, чытайце; чужому навучайцеся, але свайго не выракайцеся. Даглядайце свайго, як маці дзіцяці.

Тварыце культуру сваю, шырце свядомасць сваю! Тут наша спасенне. Толькі на грунце роднай культуры мы пабудуем лепшае жыццё, толькі пашана да роднай мовы звядзе нас на свет Божы. Інакш згінем, памром, як асобны беларускі народ, зробімся полем для чужынцаў, тым брудным гноем, які ўзгадуе смярдзючая зямля на страх і агіду суседзям. Праклінуць нас дзеткі нашы і адракуцца добрыя людзі!

*1917*

*Лёсік Язэп. Творы. Уклад., прадм., кам. А.Жынкіна. Мн., 1994.*

**Якуб Колас**

**“Брацьце мае, Беларусы!..”**
(З паэмы “Сымон-музыка”)

Брацьце мае, Беларусы!
Ў страшнай кнізе людзкіх спраў,
Мусіць, сам Бог для спакусы
Гэты край наш адзначаў.

Тут схадзіліся плямёны
Спрэчкі сілаю канчаць,
Каб багата адароны
Мілы край наш зваяваць,

А нас цяжка ў сэрца раніць,
Пад прыгон узяць навек,
Нашы скарбы апаганіць,
Душу вынесьці на зьдзек,

Каб у віры тэй ашукі
Зьнішчыць нашы ўсе сьляды,
Каб ня ведалі і ўнукі,
Хто такія іх дзяды.

Тут на нашых станавішчах
Польшча білася й Літва,
Каб на гэтых пажарышчах
Ўзмацавалася Масква.

І лілася кроў нявінна,
Швэд набытак наш паліў,
І Маскаль тут самачынна



Гвалт над намі утварыў,

Будаваў вастрог народу
І барбарскім капылом
Мерыў волю і свабоду,
А культуру нёс з калом,

І бяз жалю капытамі
Конь казацкі тут ступаў
І збажынку зь ярынамі
Талачыў і дратаваў.

Родны край! Ты разарваны,
Паабапал ад мяжы
Лях ліхі, Маскаль паганы
Моцна сьцягваюць гужы,

Каб з хаўтурнае майстэрні
Беларусу сшыць халат,
Ды ні пан, ні хам ня верне
Плынь гісторыі назад!

Эх, чаго нам ня прыйшлося,
Брацьце мілыя, ужыць!
Колькі талентаў зьвялося,
Колькі іх і дзе ляжыць

Невядомых, няпрызнаных,
Неаплаканых нікім;
Толькі ў полі адсьпяваных
Ветру посьвістам пустым!

Толькі-ж, брацьце, край ня зьгінуў,

Не пагнуўся яго стан
І із нас душы ня выняў
Ні Маскаль, ні польскі пан!

Дык хіба-ж мы праў ня маем,
Сілы шлях свой адзначаць
І сваім уласным краем
Край свой родны называць?

*Вольны Сьцяг. 1 ліст. № 4(6). Менск, 1921.*



**Максім Гарэцкі**

**Усебеларускі з’езд 1917-га года.**

Вясною 1918-га года, прыгожым цёплым раннем, дакляраваўшым добры дзень, пакінуў я Смаленск, выязджаючы дамоў на лета.

Падвазілі мяне кааператыўшчыкі, прыязджаўшыя ў Смаленскі Саюз па тавары.

Знайшоў я іх проста на рынку, дзе па нашскіх шэрых вопратках, па мяккаму абліччу, па гаворцы і нават па конях і вазах пазнаў, што людзі з нашага боку.

Яны ўсе аказаліся з воласці сумежнай з нашай, і адзін з іх зараз згадзіўся падвезць мяне за самыя малыя грошы.

Чалавечак гэты быў з сухой рукою, шапку насіў ссунутую з лобу назад, гаварыў казліным тэнарком і быў надта зюклівы. Зваўся Кузьма.

Вёрст дваццаць праехалі ўжо мы, а ён не сціх ні на мінутку і шмат чаго паспеў пераказаць аб цяперашнім жыцці ў нашых краях.

Разы два пачуў я ад Кузьмы, што іх кааператыў завецца «Беларус». Гэта мяне здзівіла. «Але,— падумаў я,— гэта, відаць, не мае ніякіх звязкаў з нашым адраджэннем», і з той назовы разінуўся на мяне страшэнны чупірадла яць (Ѣ) і закруціліся сабачымі хвастамі два русіфікатарскія эсы (с)...

Але ўсё ж было цікаўна. Аб’ехаўшы бязмальна ўсе буйнейшыя на бацькаўшчыне гарады, я толькі ў Магілёве відзеў гасцініцу з назваю «Беларусь», а то скрозь нічога не было ў падобных назвах, што б нагадала імя беларуса ў «СЃверо-Западномъ КраЃ Россіи матушки». Былі «Масквы», «Краковы», нават «Парыжы» і «Неапалі, а «Беларусі, за адзіным выключэннем, не было. Дык назва кааператыва мяне зацікавіла.

Тым часам пад'ехалі мы пад гару, і ўсе вылезлі з калёс. Вазы паціхеньку паўзлі наверх, падводчыкі ж сабраліся ў вадзін груд і заняліся кручэннем папіросак, каб, уз'ехаўшы і сеўшы, шпарчэй паехаць і курыць.

Аж неўспадзеўкі пытаецца ў мяне Кузьма пры ўсіх:

— А што цяпер з Беларуссю пасля таго леташняга з'езду?

— Якога з'езду? — яшчэ балей здзівіўся я, што землякі мае нават і пытаюцца аб Беларусі, бо прызвычаіўся раней да поўнай несвядомасці. Думаў, што ў нашай старонцы толькі наша ваколіца трохі ведае праз мяне аб сваіх нацыянальных справах.

Хлопцы ж паглядзелі на Кузьму і засмяяліся.

— Мы пасылалі яго летась дэлегатам на з'езд у Менск рабіць сваю рэспубліку,— сказаў адзін байчэйшы.

— Чаго ж, дурні, смяіцёся? — дабрадушна загневаўся Кузьма.

— А чаго ж ты ўцякаў са з'езду? — пажартаваў другі.

— Ці я казаў вам, што ўцякаў? — абурыўся Кузьма і потым з гонарам дадаў:— Як леў, бараніўся, а яны — «уцякаў»...

Бойкі хлопец прыжмурыў вока, ссунуў шапку на патыліцу, добра ўдаўшы Кузьму, і ягоным казліным тэнаркам, махаючы па-ягонаму сухой рукою, раптам зацягнуў:

Спрадвеку мы спалі, і нас узбудзілі,
Сказалі, як трэба рабіць,
Што трэба свабоды, зямлі-і-і...

Нават я не мог удзержыцца ад смеху. Смяяўся й сам Кузьма.



— Вот-то дурань,— плачучым галаском загаварыў Кузьма,— думаець, што з мяне смяецца... Ты, брацє, сам над сабою смяешся!

— А дзе вы наўчыліся пяяць нашу марсельезу? — спытаўся я ў хлапца.

— Ды ён жа, ён усю воласць навучыў,— увідзеў я палец, выстаўлены штыхам у грудзі Кузьмы.

Кузьма ўдарыў яго па руцэ, хлопец засмяяўся:

— Гэта ж наш герой! Рэспубліку сваю рабіў! '

— Вот-то цемната! Божухна-бацюхна, вот-то наша цемната! Што з вамі з такімі зробіш,— лямантаваў Кузьма, шукаючы ў мяне спагады.

Калі мы селі на вазы, ён закурыў, забыў на жарты і спакойна сказаў:

— А я хоць трошкі іх усведаміў. Самі захацелі назваць кааператыў наш «Беларусам»...

Усё чутае было для мяне незвычайнай навінаю. Нічога надобнага не чакаў я сустрэць у глухім закутку Смаленшчыны, ад якога бліжэйшая жалезная дарога за сто вёрст. Я не пазнаваў сваіх сялян.

— А дзядзька даўно... такі? — спытаўся я.

— З леташняга, брацє, году, пасля таго з'езду.

— Цікаўны быў з'езд? — прыкінуўся я нязнайкам, каб пачуць большую беспасрэднасць.

— Ці ж вы нічога не ведаеце? — з захаваным дакорам павярнуўся да мяне Кузьма.— А я, прызнацца, падумаў, што вы з «народных». Вучоны, з Смаленску едзець і па-беларуску гамоніць,— верна, думаю сабе, народны чалавек...

— Каго вы празываеце народнымі людзьмі?

— А гэтых жа, што хочуць, каб наша ўсё было, каб, значыцца, на ногі паставіць Беларусь.

— Га! Чаму ж дзядзька аб тое не спытаўся?

— Ждаў, можа, вы што скажаце. Дый цяпер...— патупіўся ён,— відзіце... свае ж смяюцца.

— Ну, хлопцы жартавалі, на іх няможна крыўдзіцца.

— А ці ж я думаў крыўдзіцца?! Вядома, хлопцы маладыя, ім абы з чаго дурэць. Дый яны не такія, як вы, можа, падумалі… Дружныя хлопцы... З мяне яны смяюцца, але каб вы ім, браце, што сказалі супроць беларусаў... пачулі б што іншае.

— А як на вас глядзяць бальшавікі вашае воласці?

— А хай сабе глядзяць як хочуць, я іх не баюся! Якія там бальшавікі — гора адно. Я добрых бальшавікоў яшчэ не відзеў. А таго п’янага чарнамазага падлу, што з’езд наш разагнаў, каб дзе злавіў, то зараз бы яму каюк зрабіў, хоць душагубства не люблю.

— За што ж такая злосць?

— За тое, браце, што ён біў нашых людзей, дэлегатку біў. Дзяўчына такая, што ён і ў падмёткі ёй не варты, а ён біў яе выспяткам, ботам, таптаў нагамі...

Кузьма ўздыхнуў.

— Як жа так? — паддаў яму ахвоты апавядаць.

— Быў гэта астатні дзень з’езду. Позна ўжо, ноч, а ў нас у тым тэатры ну вось якраз, як на вялікадні ў царкве. Нейк і радасна, і смутна, і хто ведае, што з табою робіцца, хрыстосавацца хочацца з усім народам. Гэта ж не жарты: рэспубліку сваю, Беларусь няшчасную, на ногі ставім, зараз правіцельства народнае выбіраць будзем... Аж тут і крыкні нехта: бальшавікі прыехалі нас разганяць. Што за ліха,— думаем сабе,— здаецца ж, супроць іх нічога не пастанаўлялі контррэвалюцыянераў сярод нас няма: усё мужыкі, салдаты, народныя людзі з мужычкоў. Хочам, каб усё пайшло народу, і зямля, й лясы, і ўласць,— за што ж яны разганяць нас будуць? Па-іхнаму ж хочам, толькі каб, знацца, без непарадку, без глуму. Мы ж на сваёй зямельцы, а сярод іх —



усякія прыблуды, што чужога краю не шчадзяць, без патрэбы нішчуць, вядома, за вайну сабралася іх на фронце розных, не столькі добрых, як нягодных. Не! крычаць: выхадзі! стрэльбамі пагражаюць, прысыпала іх да дзвярэй, як нячыстае сілы. І ўсё народ не нашскі, дзёрзкі, не панімаючы. Крычаць, гоняць, а чарнамазы, начальнік іхні, узлез наўперад і нешта п’янае там бруздзіць. Відаць, што чалавек упіўшыся і не разумеець, куды залез. Не дадзімся, думаем сабе! Загарадзіліся лаўкамі, хатылькамі сваімі харчавымі. Дзе ж там, хіба ж з голымі рукамі абаронішся супроць такой навалы. Віджу я з бліжэйшымі каля сябе, што кінулася гэтае звяр’ё, каб забраць нашых народных людзей. Кінуліся і мы наўперад ратаваць. Аж там цэлая бойка! Схапіліся нашы салдаты з тымі, што з’явіліся разганяць. Тузгаюцца, цягаюцца. Віджу я, што тут жа, дзе прадстаўляюць тэатры, наўперадзе бароніцца тая дэлегатка, бойкая дзяўчына, такія прамовы на з’ездзе казала, што прост за сэрца хапала. Тады падходзіць да яе чарнамазы падла і нешта, пасміхаючысь, ёй кажаць, відаць, зняважлівае нешта для яе. Раптам шчуп яна сабе ў кішэню, выцягнула маленькі чорны левальверчык і наставіла на яго,— аж мае сэрцайка замлела, кляпсь,— асечка. Тады яна тым левальверчыкам як тахнець яго па санках, аж пахіліўся. І што тады ўзнялося там, то й пераказаць мне трудна. Кінуліся салдаты на дзяўчыну і з ім разам. Павалілі, б’юць чым пападзя, прыкладамі, нагамі, за валасы цягаюць. Насілу нашы вырвалі бяднягу з іхных рук. Бараніў трохі і я, не стаяў рукі злажыўшы. Але зараз дастаў сабе такі ўдар у спіну, ці не прыкладам толькі, што думаю: хоць бы жывым ад гэтых бесцій вырвацца. Гляджу, а ўжо вядуць некаторых народных людзей пад канвоем ды на двор. Прапала наша справа, трэба ратавацца, уцякаць. Бягу ў дзверы: стой, кажуць, і ты там біўся? Я, доўга не думаўшы, шмык назад, схапіў на галаву

нечую вялікую чорную папаху, пад нагамі валялася, і йду назад. Стой — крычаць, і ты там біўся? — Не, кажу, таварышы, я не той, я не біўся, той з другімі разам выскачыў у заднія дзверы. Паверыш, не пазналі і пусцілі на вуліцу. А там уздоўж дзвярэй поўна грузавікоў-аўтамабіляў з кулямётамі, з салдатамі, і па вуліцы поўна салдатаў, не разабраць, хто свой, хто не. Тут мяне злавілі і пагналі з другімі арыштаванымі ў нейкі склеп. Праседзелі мы ноч. Крэпка ўзяло ўсіх за сэрца: вот табе, Беларусь няшчасная! — думаем сабе: біў цябе цар з панамі, а цяпер простыя прыблуды за тое ж узяліся. Не падняцца табе на свае ногі, бедная...

— А цяпер жа дзядзька спадзяецца, што будзе Беларусь?

— Цяпер! Цяпер, браце, уся наша воласць, як адзін, паставіцца грудзьмі за яе. Як жа ёй быць? Не мы, дык нашы дзеці паднімем-ткі яе на свае ногі.

Кузьма змоўк, гэйкнуўшы на каня і пагнаў яго, як бы хацеў ляцець – захоплены, узбуджаны, смелы.

*[1922]*

*Гарэцкі. М. Творы. Мн. “Мастацкая літаратура”, 1990. С.128-131*



**Игнат Абдиралович** *

**Извечный путь. Опыт белорусского мировоззрения.**

На белорусскую идею привыкли смотреть, как на нечто слишком уж неясное, неопределенное, не имеющее в себе живого духа, который мог бы дать белорусам право на законное существование среди других народов. В неопределенности белорусской культуры хотят видеть духовную смерть народа, его неспособность выразить свой собственный идеал. Формально мы должны согласиться. Наша культура неопределенна, неясен наш исторический путь. Но можно ли в этом усматривать духовную бедность народа, его неспособность собственной поступью идти к созданию собственных форм жизни? Нет. Обстоятельства говорят о другом. Даже менее способные и сильные народы создали культурно-определенную жизнь. И если белорусский народ не создал выразительной культуры, то лишь потому, что в историческом наследии его — великая трагедия народного духа, пережить каковую выпало только двум-трем европейским народам. Белоруссия от X века и до сих пор фактически являлась полем борьбы двух направлений европейской, точнее — арийской культуры — западного и восточного. Граница этих влияний, разделяя славянство на два лагеря, проходит через Белоруссию, Украину и прячется в балканских странах.

Десять веков колебаний свидетельствуют, что белорусы, как украинцы и балканские славяне, не могли решительно присоединиться ни к тому, ни к другому направлению. Мы не стали народом Востока, но не приняли и культуры Западной Европы. За это нас стали называть темным, диким народом.

Только по форме мы считались католиками или православными, гражданами Москвы и России или Польши. На самом же деле мы были плохими сыновьями и церкви, и костела, и ojczyzny [1], и "отечества". Только худшие, духовно развращенные элементы нашего народа (в прошлом — шляхта, а в последнее время — часть утратившей связь с народом интеллигенции) отошли от белорусских корней, бросая народ на произвол судьбы. И народ остался жить сам по себе...

(...) Колебание между Востоком и Западом и искренняя неприязнь к тому и к другому являются основной чертой истории белорусского народа. Пример Скорины, о котором до сих пор не известно, кто он был такой, католик или православный, и наверняка, что и тот и другой разом, отражает эту черту, это явление белорусского духа в индивидуальности, в душе нашего первого интеллигента. Эту черту белорусская народная интеллигенция сохранила и до наших времен, и, как увидим, на то есть исторические причины.

(...) Много веков белорусы вели борьбу с чужими, враждебными влияниями за свою душу, и, кажется, настают времена, когда она будет свободной. Жизнь отмежевывается от старых идеалов и зовет белорусский народ, униженный и забитый, идти наравне с другими на построение нового общечеловеческого идеала.

В такое время пусть будет нашим поводырем и светочем достославный Скорина, "доктор лекарских наук из славного места Полоцка", который желал исцелять белорусский народ лучами духовного просвещения. Он на себе почувствовал гнет чужих культур и не признал их своими в сердце своем. Раньше всех понял, что только через развитие личного и народного духа придем мы ко всечеловеческому идеалу, и на мужицкий простой язык [2]



перевел Святую книгу — тогда единственный проблеск всечеловечности.

(...) О духовном облике восточных славян сказано много. Наиболее выразительной чертой их характера является склонность ко всему крайнему, определенному, подчеркнутому. Восточный славянин не любит ничего половинчатого, всегда ищет некую общую, монолитную форму, которой и посвящает свою жизнь. Выкованная по византийским образцам, так выросла московская государственность, которой были посвящены все стороны культурной жизни края. Склонность к выразительной консолидирующей форме, к окончательному и безусловному проведению ее в жизнь определилась в идее единой политической власти. «Вся власть царю» — этот призыв так близок по своему политическому содержанию к лозунгу современных восточных максималистов: «Вся власть советам», и оба они показывают, что дух здесь не задерживается посредине, что всякую форму можно провести в наибольшей чистоте.

Коль любить — так без рассудку.
Коль ругнуть — так сгоряча,
Коль рубнуть — так уж сплеча...—

вот как характеризует себя великоросс. Если он не доволен существующим, то его охватывает зуд перевернуть все кверху дном. Такой чертой отмечена вся деятельность Петра, то же видии и в современности.

(...) Такая позиция совершенно неприемлема для Запада: его культура, наоборот, вся выросла из борьбы с крайними направлениями, которые хотели охватить жизнь целиком. В Западной Европе не выдержала испытания идея единой религии: католичество не овладело всеми странами, а породило множество протестанских учений, которые

далеко разошлись как от своего корня, так и между собой. Не реализовалась идея "Священной Империи", хотя в средние века она была весьма актуальна. Империя рассыпалась на пять-шесть несхожих между собой государственных организмов, разъединенных географически и также порознь идущих в своей культурной жизни.

Такова судьба каждой широкой идеи, котрая стремится охватить всю жизнь: ее в Западной Европе затрут, укоротят, обтянут тысячами компромиссов. Еще пример: европейский социализм. Второй Интернационал, разогнанный самой жизнью, теперь ищет себе должностей в канцеляриях капитализма... До той поры, пока нет значительного перевеса, основа западноевропейских отношений — компромисс.

(...) Мы, белорусы, колебались между двумя культурными типами, не зная к которому присоединиться. Нам нравилась простота, искренность, соответствие внешности внутренней сущности, определяющие человека Востока. Если он добр к кому-либо, то может положить за него свою душу; если он говорит, что любит, то не причинит никакого вреда. Старый пример — киевский князь Святослав: он никогда не использовал хитрость, измену. Идя на врагов, предупреждал их: "Иду на вы".

(...) Словом, нам нравились искренность и определенность Востока, а с другой стороны — большая объективность и более человечное самочувствие Запада. Жизнь потребовала синтеза, гармонии обоих направлений, что, как увидим, оказалось невозможным.

В определенности своих идей, склонность все доводить до конца, всему придавать одинаковую форму, Восток доходит до абсурда. Как частность, из этого подхода вышло и то, что Восток не признавал нас, как белорусов, а



треоовал от нас принятия своего, восточного облика, который, по восточному разумению, был обязателен. "Славянские ручьи сольются в русском море"[3] - вот как обосновывалась обязательность обмоскалиться. Отсюда происходит угнетение нашей индивидуальности, отсюда — насильственное желание отнять наш облик. Они не уразумели, что вместе с белорусскостью мы теряем и лучшую часть человечности.

Нашего освобождения, нашего спасения от насилия Востока мы ждали от Запада. Он шел к нам с приятной улыбкой на розовых устах, и мы исторически познакомились с этим ласковым обликом. Правда, нашим ближайшим Западом были славяне, поляки, и западные влияния приняли у них специфично-славянское выражение, но все-таки это был Запад. Принцип не только не считать серое черным, но и остерегаться белое называть белым был принят и нашими соседями. И глубокий народный исторический опыт научил нас, что если западный человек делает вам приятное, то это не значит, что с его стороны не будет неприятности. Его поцелуй свидетельствует не только о приязни, но и о возможности измены. Таков уж глубокий народный опыт.

Эта черта Запада сильно ощущалась в его отношении к нам. Он принес нам наилучшие идеи: гуманистические, либеральные, демократические, но рядом с красивыми словами всегда находилось место для насилия духовного и экономического, эксплуатации, угнетения, унижения. Красивые слова и дурные дела как-то странно и непонятно для нас ужи вались в западной жизни.

(...) За долгие века гнета и издевательства над нашей душой мы уразумели, что какую шкуру силой не набрось человеку, он останется недоволен, ибо всегда захочет перво-наперво быть самим собой, человеком, а не замороженным

католиком или православным, выбритым на один манер россиянином или поляком, правоверным буржуем или коммунистом. В эти тесные мизерные рамки не втиснуть великой души человека. Вековой опыт говорит нам, что свободного развития нашего духа не гарантируют ни западная, ни восточная культура, ибо они выступают в формах насильственного, людоедского мессианизма и разница между ними только в названиях, лозунгах, а их давящие цепи — одинаковы для нашего духа.

Нужно искать на других путях...

(...) Ибо на примере чужих мессианизмов мы видели, как невыносимо сдавливает жизнь получившая неограниченную власть форма. Из нашего высокого порыва индивидуального и народного возрождения да не создадим гнета и насилия ни другим, ни самим себе: не должно быть белорусского мессианизма. И в великом и малом, для своих и чужих он — гнет, издевательство и смерть. Собственной ценой — миллионами смертей, болезнями, скорбью платили мы чужим мессианизмам. Построим же наше будущее не на этой основе…

Нужно искать на других путях...

*Абдзіраловіч І. Адвечным шляхам. Дасьледзіны беларускага сьветагляду. Вільня, 1921.д Перевод с белорусского: "Нёман" 1990, № II.*

*/ Игнат Абдиралович – литературный псевдоним Канчевского Игната Владимировича (1896-1923), белорусского поэта, публициста, философа.

1. ojczyzna – польск. родина, отечество



2. Вопрос о языковом характере скорининского перевода Священных текстов до сих пор остается дискуссионным. Многие специалисты - аналитики, напротив, склонны видеть в этом переводе своеобразную разновидность высокого литературного стиля — синтез книжнославянского (церковнославянского) и тогдашнего (нач. XVI в.) письменного и отчасти живого, "бытового" языка белорусов.

3. Цитирование, не совсем точное, пушкинской строки "Славянские ль ручьи сольются в русском море?" (стихотворение "Клеветникам России")

**Вацлаў Ластоўскі**

**Чым можэм гардзіцца**

*Мы гардзімся, што мы Беларусы.* Бо мы народ здольны, з нашаго народу выйшло многа слаўных людзей, за якіх ніколі нівыплачаны доўг маюць перад намі і палякі (Касьцюшка, Міцкевіч, Сыракомля, Крашэўскі і шмат інш.) і маскалі (Дастаеускі, Сымон Полацкі і шмат інш.) і іншыя нашы суседзі. Пра нашу здольнасьць сьведчаць такжэ нашы звычаі і абычаі, нашае будаўніцтво, усякія культурныя памяткі і інш.

*Мы горды са свае мовы!* Бо наша мова мэльодыйная, багатая і вельмі надаецца да песьні і паэзіі. А да таго-ж яна адна з найчысьцейшых славянскіх моваў.

*Мы горды са свае песьні!* Беларусы маюць вельмі многа песень. Нота нашых песянь вельмі багата і адбівае у сабе душу нашаго народу. Наша народная песьня займае адно з выдатнейшых мейсц між песьнямі усіх народаў сьвету. Ею цікавяцца вучоныя людзі чужых народаў.

*Мы горды са свайго народу!* Усякі іншы народ, жывучы у такіх цяжкіх варунках, якія выпалі на нашу долю, загінуў-бы, а наш народ выказаў нізвычайную жыццевую сілу. Ён ператрываў усякія злыбяды, ліхалецце і напасьці, ды перахаваў у сабе сваю родную мову і любоў да свае Бацькаўшчыны Беларусі. Наш народ любіць праўду і красу, — ён спакойны і разважны, а пры гэтым цьверды.

*Мы горды са свае гісторыі!* Наша гісторыя—гэта ніупынная барацьба за волю, барацьба за захаванне свае нацыяналянае душы. Пры тым, мы ніколі ні галіліся на чужое. Наша гісторыя— гэта Гольгота нашаго народу, якая чыніць яму чэсьць і славу.



*Мы горды за сваю родную зямлю!* Наша Бацькаўшчына — пекны край. Многа ў ёй красы: пекная у нас весна і лето, восень і зіма. Нашы пушчы, лясы і абшары апавіты паэзіей, з якой праглядае наша мінуўшына.

Адным словам, *мы горды, што мы беларусы.*

*Што трэба ведаць кожнаму беларусу. Менск. Выданне “Вольнае Беларусі”. 1918*

***

О, Крыўская зямля!..
Чаму зняслаўлена,
Свабоды любае
здавён пазбаўлена,
о, Крыўская зямля!
Чаму ты поішся
слязьмі гаручымі,
чаму ты поўнішся
бядой пякучаю?..
Бо ты,
зямля крыві,
не валадарная
і не магутная,
раба бяздольная,
раба пакутная...
Раба,
не валадарная!
Дык вось чаму твой лік
загіджаны, красы пазбаўлены,
дык вось чаму ты, ясная,
зняслаўлена.
Зняслаўлена, пакрыўджана,

ў славян сям'і паніжана...
…………

Крывёй сыноў тваіх
куплялі славу гучную
на Грунвальду палёх.
Ад дзікае арды баронячы заход,
тваіх байцоў касцісты
вал палёг!
Безыменнаю, а ўсё ж тваёй крывёй
паліты Хоціма даліны
і па-над Калкаю-ракой
маскальскія нізіны...
Арошаны крывёй тваіх сыноў
Іпрайскі край,
Сьмо-Вьерра, Рэйн, Аора, По,
сівы Дунай!..
О так, гаротныя крыўцы
Ламалі косці за чужую справу,
сваёй крывёй і мазалём
ішлі купляць чужынцам славу!
Сабе ж? Ды што сабе
жадаці мог прадвечны раб
чужое думкі?
Найбольш хіба
прыгону лепшыя варункі...
Бо што ж, калі прывык
чужых багоў ў чужацкай мове славіць,
з чужыны браць чужацкі полер
і чціць чужы на сцягах колер!
Нясці свае чужынцам думы,
Адзетыя ў чужацку шату,
І верным быць сваёму кату…



…………
О, Крыўская зямля!
О, волатаў нашчадкі!..

*Ластоўскі В. Выбраныя творы. Мн.,"Беларускі кнігазбор", 1997*

**Антон Луцкевіч**

## Будаваньне Беларусі

А ўсё ж такі Яна будуецца!

Парэзаная жыўцом на кускі, падзеленая паміж прагавітымі суседзямі, выкасаваная з карты Эўропы і як быццам засуджаная на сьмерць і нябыт, Беларусь не памерла, і ў сэрцах і душах сыноў сваіх перажыла, ператрывала часы ліхалецьця, каб ізноў паўстаць да жыцьця.

Мы бачылі, як на маленечкім кусочку Беларускай Зямлі, у Меншчыне, засьвяцілася перш толькі слабенькая іскрачка — пачалося будаваньне Радавае Беларусі ў межах шась- цёх паветаў.

Будавалі яе: *беларускі селянін і работнік*. А кожын крок упярод трэба было рабіць з боем, перамагаючы цэнтралістычныя і нацыяналістычныя імкненьні „пануючага народу“, што ад царскіх часоў захаваў усе навыкі „дзяржаўнае нацыі“.

З боем здабывалі беларусы права на родную мову ў *сваей* Рэспубліцы. З боем ішло беларушчаньне школы, прызначанае дзеля абмаскоўленьня беларускага народу. З боем ачышчалася мініятурная Беларуская Рэспубліка ад чужацкіх элемэнтаў, што панаехалі сюды „валадзець і правіць“ намі. Але стойкасьць і цьвёрдасьць мужыцкіх сыноў і работнікаў, на долю якіх выпала вялікая і радасная праца — будаваньне Бацькаўшчыны, перамаглі ўсе перашкоды.

І мы бачылі, як тая сіла, што ўверх дном перавярнула жыцьцё старое Расейскае дзяржавы, прызнала нашае права на самастойнае нацыянальнае жыцьцё і на зьдзейсьненьне ў шырокіх межах нашага дзяржаўнага ідэалу.



Мы бачылі, як справа беларускага нацыянальнага адраджэньня і будаваньня беларускай нацыянальнай культуры была прызнана ня менш важнай, чым справа сацыяльнага вызваленьня беларускіх працоўных масаў. І да гэтай вялікай працы былі пакліканы ўсе тыя беларускія дзеячы, каторых учора йшчэ лічылі „контррэвалюцыянэрамі“ за іх умілаваньне ідэалу нацыянальнага адраджэньня свайго народу.

У працягу некалькіх гадоў на абшары шасьцёх паветаў Радавае Беларусі адбывалася гуртаваньне беларускіх сіл, якія прымушаны былі кідаць родныя месцы ў „дэмакратычнай“ Заходняй Беларусі: адбывалася ўзгадовываньне цэлае арміі новых маладых працаўнікоў на роднай ніве: тварылася кузьня палітычнае і культурнае працы, дзе выковываліся новыя цэннасьці беларускае мысьлі, навукі, літаратуры, мастацтва. А тое сьвятло, у якое разгарэлася гэная маленечкая іскрачка беларускага жыцьця ў Менску, асьвятляла ня толькі Меншчыну, але пранікала і ў Магілёўшчыну, і ў Віцебшчыну, і ў Смаленшчыну, і ў Чарнігаўшчыну. І на тых землях, што былі „прырэзаны“ да Маскоўшчыны, пачало будзіцца, і кіпець, і бурліць раней замершае тамака беларускае жыццё. Тварыліся беларускія школы і культурныя ўстановы; беларускі дух пранікаў і падчыняў сабе тамтэйшыя „рады“.

З абодвух бакоў граніцы Радавае Беларусі з Маскоўшчынай усё больш і больш востра адчувалася патрэба аб’яднаньня. І вось сьледам за ператварэньнем Радавае Расеі ў Саюз Сацыялістычных Радавых Рэспублік настаў мамэнт справядлівага разьмежаваньня нацыянальных дзяржаўных адзінак, што ўваходзяць у склад Саюзу. А перадусім настаў мамэнт аб’яднаньня ўсіх беларускіх зямель, што ляжаць на ўсход ад лініі Рыскага Міру, у адну *вялікую Сацыялістычную Радавую Рэспубліку Беларусь*.

Польскія газэты паведамляюць, што такое аб’яднаньне аканчальна пастаноўлена. У найбліжэйшым часе ў Менску мае адбыцца надзвычайны Ўсебеларускі Зьезд Радаў, у якім прымуць учасьце дэлегаты *ад усіх новапрылучаных беларускіх зямель*, каб супольна разьвязаць усе пытаньні, зьвязаныя з адміністрацыяй і арганізацыяй *новае Радавае Беларусі*.

Мы горача вітаем гэты незвычайна важны ў беларускім жыцьці факт. Як ні цяжка жывецца беларусам у Заходняй Беларусі, як ні далёкі мы тут ад зьдзейсьненьня ўсенароднага імкнення быць *гаспадарамі на сваей зямлі*, мы цешымся, што хоць за гранічнай мяжой гэтае імкненьне, гэты ідэал ужо зьдзейсьнены. Там — за мяжой — ідзе запраўднае *будаваньне і зьбіраньне Беларусі.* Там разгараецца вялізарнае беларускае нацыянальнае вогнішча, якое праз грашчныя слупы будзе асьвятляць і саграваць і нас, распаляючы ў душах і сэрцах нашых нязломную веру, што раней ці пазьней *адбудуецца Беларусь наша так, як у нашых снах-летуценьнях мы яе сабе выабражаем.*

*[1924]*
*Луцкевіч А. Барацьба за вызваленне. Уклад., прадм., кам. А.Сідарэвіча. Вільня, 2009*



**Кастусь Езавітаў**

**Каб здабыць незалежнасць…**

Беларускі народ на чале з Першым беларускім урадам [БНР] не аказаў патрэбнага адпору сваім акупантам. У гэтым сэнсе акурат і выявілася нацыянальная непадрыхтаванаць. Народ аднёсся пасыўна да свайго лёсу. Каб здабыць незалежнасць, мала толькі абвясціць яе на паперы. Яе патрэбна здабыць уласнымі рукамі, бо ніхто нам яе не падаруе. Але для гэтага трэба мець сілу і волю да незалежнага жыцця.

Беларускі народ у сярэднім высокамаральнага складу. І якраз гэтая маральнасць пазбавіла нас ініцыятывы, рашучасці, энергіі. Мы не пускаліся ў налёты, як нарманы, нашчадкі якіх сёння хоць і невялікія шведскі і нарвескі народы, але маюць і дзяржаўнасць, і культуру, і новыя маральныя пакаленьні. Мы не маем духоўнае цвёрдасці, каб даць адпор [чужацкаму] засіллю.

[1943]
*З ліста да М.Аўрамчыка, НА РБ. Ф.458. Воп. 1. Спр. 85. Л.1*

**Кс. Адам Станкевіч***

## О белорусском религиозно-национальном синтезе

(…) Не удивительно, что на землях, где соприкасались два типа христианской культуры — восточный и западный, восточный постоянно терял территорию и людей, одинаково то ли в церкдвной, то ли в национальной областях жизни. Это приводило к массовой денационализации высших слоев общества, к обездоленному и оставленому всеми положению крестьянства, лишенному не только государственной, но и какой бы то ни было защиты и поддержки. При сложившихся обстоятельствах жизни должен был появиться промежуточный (серединный) тип культуры. Основой к тому послужила идея церковной унии: сохранить, сберечь свою стародавнюю культуру, ее формы и традиции, влив во все это и новые жизненные соки, плывущие с запада. Борьба за эту промежуточную форму, за данный синтез нашей культуры, как известно, была и поныне остается весьма острой и затяжной и вообщем всегда велась и ведется на промежуточной линии между Западом и Востоком, точнее говоря, между Москвой и Варшавой.

Контраст — это всеобщая система жизни, общий закон природы. Индивидум и общество, тело и душа, чувства и разум, воля и совесть, центростремительная и центробежная силы, определяющие движение земли, подобные же силы заложены в каждом атоме, положительный и отрицательный заряды — и так до бесконечности. Даже Христианское учение — и оно сплошь система контрастов: мир этот и тот, жизнь и смерть, счастье и терпение, человек и Бог и т.д. Стало быть, понятие закона



контрастов — это ключ, достаточно надежный для решения различных жизненных проблем.

Таким образом, данный ключ, упомянутый нами закон контрастов должно использовать и белорусскому народу. Национальная идея белорусов проистекает, как известно, из политико-культурной противоречивости Запада и Востока, из контраста между этими двумя соседними с нами силами, базирующимися на различиях Православия и латинского Католичества. Первое выступает в форме московской, второе — польской. Опять же, согласно естественного закона контрастов, сохраняющих свое равновесие как бы на оси, — так и в случае с белорусской духовностью, призванной выработать серединный тип культуры, который, покоясь на своей национальной оси, ассимилировал бы восточные и западные элементы; в противном случае, если бы слишком отклонился в сторону, — на восток или на запад, — потерял бы равновесие и погиб. В этом именно и таится белорусская национальная и культурная отсталость. Пора уразуметь проблему и приступить к ее решению...

(...) Словом, белорусский народ, будучи раздвоенным в религиозно-духовном отношении, должен искать единства, искать своего религиозного и национального синтеза. Формальное соединение в церковной унии, как свидетельствует прошлое и настоящее, фактически не единяло, но порождало в народе еще больший разлад и распри. Вот почему, никогда не забывая слов Спасителя — чтобы все было едино — , в братской любви осмысливая эту проблему и молясь за религиозное единство в белорусском народе, осуществлять это единство следует прежде всего путем гармоничного национального и религиозного взаимодействия белорусов католиков к православных,

откладывая их формальное объединение до времен, когда те по-настоящему дозреют.

*Станкевіч.Ад. Хрысьціянства і беларускі народ. Вільня,1940. Перевод с белорусского.*

*/ ксенз Станкевич Адам Викеньевич (1892-1949), католический священнослужитель, публицист, культуролог, кандидат богословия, один из основателей и лидеров белорусского христианско-демократического движения, видный деятель национально-культурного просветительства в Западной Беларуси (директор издательства им. Ф.Скорины, Белорусской прогимназии, редактор газет «Беларуская крыніца», «Хрысціянская думка» ), автор научно-популярных книг о Ф.Скорине, М.Бобровском, П.Багриме, Ф.Богушевиче, К.Калиновском, Бр.Эпимахе-Шипилле, а также фундаментального богословско-философского исследования «Христианство и белорусский народ». Весной 1949 г. в Вильне, где кс. А.Станкевич служил настоятелем белорусской парафии при костеле св. Михаила, его арестовывают и вскоре этапируют в Озерный лагерь близ Тайшета, - там 4 декабря 1949 г. он скончался.



**Уладзімір Дубоўка**

**О Беларусь, мая шыпшына.**

О Беларусь, мая шыпшына,
Зялёны ліст, чырвоны цвет!
У ветры дзікім не загінеш,
Чарнобылем не зарасцеш.

Пялёсткамі тваімі стану,
На дзіды сэрца накалю.
Тваіх вачэй, пад колер сталі,
Праменне яснае люблю.

Ніколі пройме з дзікім ветрам
Не развіваць дзявочых кос.
Імкнешся да Камуны Свету,
Каб радасць красавала скрозь.

Варожасць шляху не зачыніць:
У перашкодах дух расце.
О Беларусь, мая шыпшына,
Зялёны ліст, чырвоны цвет!
*1925*

***

Гады ідуць…
Гады ідуць. Адказнасці ўсё болей
На плечы ложыцца. Гады ідуць.
Мне кажуць, што праз гэтае поле
Я многіх за сабой ужо вяду.

Яны ідуць і вераць, моцна вераць
І ім лягчэй, маім сябрам лягчэй.
Вось я – адзін шукаў на моры бераг
І ці знайшоў я? Не знайшоў яшчэ…
Знайшоў я мора: шырыню і сілу,
Бяскрайнасць беларускае душы.
Яна маю душу перапаліла
І загадала мне: стварай, пішы…
І я схіляўся перад тым загадам,
Прыняў яго як святасці закон.
У сэрцы у маім заўсёды радасць:
Я пазнаю жыццё не праз вакно.
Ў пазнанні тым салодкасць і пакута,
З якім пайду і павяду другіх.
А трэба будзе – вып'ю сам атруту,
Якую мне рыхтуюць берагі.
А перад тым завет адзін пакіну:
Шуканне вечнае вяло нас і вядзе.

………………………………….
На Беларусі, ў роднае краіны
Ня знойдзеце вы берагу нідзе…
Бязбрэжнасць – сіла і крыніца ўзлётаў,
Абмяжаванасць – паніхідны глас.

……….............................................
Гісторыя нас кінула ў балотах,
Узяўшы ўсё, нічога не дала.
А мы расцём, мацнеем паступова,
Бязбрэжнасці ня трэба берагі.
І дух наш будзе цераз наша Слова
Схіляць да нас працягі і вякі.
Гады ідуць. Адказнасці ўсё болей



На плечы ложыцца, на нас, сябры.
Няхай пакуль прасякнуты мы болем, -
Мы падначалім лёс, або згарым.

*1929, Масква*
*“Крыніца”, №8, 1997*

**Язэп Пушча**

**Лісты да сабакі**
(Урывак)

Жыву цяпер я ў шумнае сталіцы,
Далёка ад цябе, мой любы дружа.
Ляжыць акраец хлеба на стальніцы,
А ў збане на акне Юнацтва ружа.

Вятры павеюць хутка золкай сцюжай
І ліст крывавы свой яна ўроніць.
Праходзіцьме натоўп з душой няўклюжай
І ў гразь утопча, апусціўшы скроні.

І толькі я адзін, паэт бяздомны,
Над ім схіляюся і акраплю слязьмі,
Тады забросняюць душы затоны,
Калі ў грудзях мой дух зусім мне займе.

А покуль б'е жывой вады крыніца
І хваля творчая гарачым пульсам,
Нашто ж мне падхалімам быць, крывіцца
І ў хмары ўрэзвацца чырвоным буслам?

Лепш вольным птахам рэзаць шыр нябёсаў
І супраць ветру размахнуць крыламі
Хто хоча — кпіце над пяснярскім лёсам,
І бэсце,— лайце у гандлярскай краме.

Трывожнасць рытму песня агартае,—
Нязнаны востры боль у адчуваннях.
Мне лепей быць звычайным бы ратаем,



Чым грэх з сябе змываць ў атрутнай ванне.

Даруй, што я пішу табе аб гэтым,—
Тваё нутро гатоў яшчэ расчуліць.
Вартуй, вартуй лепш хату да рассвету,
Вуглоў каб не разнеслі людзі вуліц.

Я ведаю — цяпер у вас там восень,
І ночы чорныя жуду калышуць.
Вятры лісты ажоўклыя разносяць
І намятаюць гурбамі ў зацішак.

І ты адзін правёў у ноч такую,
Правёў мяне ў далёкую дарогу.
Гадзіну гэту кожны год святкую
І слухаю, ці ў дзверы хто не дрогне.

Ніхто, ніхто! Зацяты ланцугамі...
Хтось руку заламаў у далях сініх.
Вартуй, мой дружа, родны ганак,—
Пішу аб гэтым я табе з Расіі…

*1927*

**Уладзімір Жылка**

## Губляць жа болей немагчыма…

***

…Губляць-жа болей немагчыма
І зносіць болей немага:
Народ, Свабода і Радзіма, —
На ўсё прыйшла адна чарга.

Найдаражэйшае, сьвятое, —
Ўсё, чым натхнялася душа,
Чужою збэшчана рукою,
Сваволяй скута палаша!

Але пад лобам хмурым гэтым,
У гэтай думнай галаве
Імкненьне да апошняй мэты
Непераможнае жыве.

Неперможнай волі шалам,
Перамагаючы і лёс,
Зьвініць душа з былым запалам,
Зьвініць бяз сумлеву і сьлёз.

І покуль пруткі йшчэ цягніцы,
Пакуль у жылах точыць кроў, —
Ніхто ня ўбачыць голаў ніцы,
Пакорлівых ня ўчуе слоў.

І покуль сэрца поўна гневам,
І гнеў драпежней крумкача, —
Вітаю бой ваяцкім сьпевам



І звонам войстрага мяча.
Калі-ж няраз ад лучнай раны
Звалюся, сходзячы крывёй,
І вораг, перамогай п'яны
Накпіць нягожа нада мной —

Я і тады здалею гарда
Стрымаць гадзін апошніх золь,
Мая нянавісцьць і пагарда
Ня ўдасьць, ня зрадзіць люты боль.

*1927*

*Паводле: Жылка Ул. Творы. Пад рэд. і з камэнт.  Ант. Адамовіча. Нью-Ёрк, 1955.*

**Тодар Лебяда**

**[Надпіс на сцяне 95-й камеры]**

Мне лёсам вызначаны
Гэтакі прымус.
Аб шчасці сённья
Можна сніць і марыць.
За тое,
Што я толькі беларус.
Мне гэткая кара!
Я кару іхную
З пагардаю прыняў,
Бо я - сын верны
Маці-Беларусі
І я святога,
Гордага імя
Не адракуся!!!

*[1936]*
*Юрэвіч Л. Беларуская мемуарыстыка на эміграцыі. Нью-Ёрк: БІНІМ. 1999.С.133*



**Уладзімір Мароз**

**Анкеты арыштаваных нацдэмаў**

Незаўважна ўглядаюцца ў нас
Запытальнасцю вуснаў прымоўклых
З фотаздымкаў у профіль, анфас
На анкетах, ад часу пажоўклых.

Нехта проста — няголены зэк,
А другі — толькі выйшаў з цырульні.
Не на радасць сябрына, на здзек,
Дзе смяротныя ладзяцца гульні.

Не змаглі ўратавацца ад куль,
Не чакалі такога зыходу.
Хто мы, што мы, куды і адкуль? —
Распавесці хацелі народу.

Я гляджу — зразумець не магу:
Сам ці здолеў пайсці іхнім шляхам?
Поўна выпіць адчай і тугу,
Безвыходнасць нароўні са страхам?

Ім бы жыць ды зрабіць яшчэ шмат —
У дзяды мне трапляюць па ўзросту.
Ці нарэшце пазбавімся звад? —
Бо і зараз усё так не проста.

Бо пытанне і сёння стаць:
Быць — не быць ці Айчыне свабоднай?

А народ як заўсёды маўчыць
На зямлі сваёй быдта няроднай

*Мароз Ул. За брамай забытых мелодый. Мн., “Мастацкая літаратура”, 2004. С.182.*



**Максім Танк**

**Ты чуеш, брат…**

Ты чуеш, брат, як на прадвесні
Вятры, лёд крышаны гудуць
…
Глядзіце ў будучыню смела!
Настаў доўгачаканы час,
Пад сьцягам бел-чырвона-белым
Чакае перамога нас!
Няхай же меч Пагоні зьзяе!
Гартуйма нашу еднасць, моц!
Вядзе нас воля прасвятая
Да новай славы, новых сонц!
*13.11.1930*

*Танк Максім: Збор твораў у 13 тт. Т.1. Мн., “Беларуская навука”, 2006. С.193*

## Наталля Арсеньнева

### Малітва

Магутны Божа! Ўладар сусветаў,
Вялізных сонцаў і сэрц малых,
Над Беларусяй ціхой і ветлай
Рассып праменне Свае хвалы.
Дай спор у працы будзённай, шэрай,
На хлеб штодзённы, на родны край,
Павагу, сілу і веліч веры
У нашу праўду, у прышласць – дай!
Дай урадлівасць жытнёвым нівам,
Учынкам нашым пашлі ўмалот.
Зрабі свабоднай, зрабі шчаслівай
Краіну нашу і наш народ!
*1942*



## Алесь Салавей

### Мая Беларусь

І лясы, і лугі, і блакітныя нівы;
Неба — вечная сінь, дол — зяленівы шоўк.
О, мая Беларусь! Хто з Табой, той — шчаслівы,
Краю лепшага той, хто шукаў — не знайшоў.

Той, хто з ганьбай Цябе бястурботна пакінуў,
Хто забыўся, што ўскормлены быў ён Табой —
Як грудное дзіця, без апекі загінуў, дол ягоны
праклёнам зарос, як травой.

О, мая Беларусь! Я з Табой, я — шчасьлівы.
Не пакіну Цябе, покуль буду я жыць!
Гнеў мой тым, што Цябе адракліся й лісьліва
Перад сконам спрабуюць чужынцам служыць!

Гнеў мой грозны табе, вораг мой, чужаніца!
Не адзін я, такіх — міліёны! Зірні:
Выйшлі мы, каб стрымаць твайго зла навальніцу,
Каб зацемрыць ягонай няпраўды агні.

Сіла гневу майго навальніцу адгоніць, міліёны такіх:
сіле — межаў няма,
Нас, маўляў “старадаўнай крывіцкай Пагоні”,
У баёх “ні разбіць, ні спыніць, ні стрымаць!”

*1945, Берлін*

**Мікола Аўрамчык**

**Салдацкая сляза**

Нямала смерць яго сяброў скасіла
Па родных папялішчах, між руін,
А ён, плячысты беларус-асілак,
Упарта прабіваўся на Берлін.
Нямала вёрстператапталі боты,
Пакуль дайшоў ён да мяжы чужой,
Дзе ўпершыню зусім – не горкім потам –
Шчака на сонцы бліснула слязой.
Ён ірвануўся ў бой, без адпачынку
Папоўз па забалочанай лазе…
… І дрэвы, і цагляныя будынкі
Аж задрыжалі у яго слязе.

*“Крыніца”. 2003. № 5*



**Аляксей Пысін**

***

Палім мы маршанскую махорку,
Бачым мы Дняпроўскую граду.
Будзе сёння бой. На тым узгорку.
Можа, я таксама упаду.

Будуць травы над курганам. Будуць
Адлятаць у вырай жураўлі.
Нас, напэўна, ў свеце не забудуць,
Ўспомняць, што на свеце мы жылі.

…Я гляджу на даўняе курганне,
На траву, на рыжых мурашоў,
Ведайце: калі мяне не стане –
Я ў сваю дывізію пайшоў.

**Аркадзь Куляшоў**

**Сасна і бяроза**

Трымаюць Зямлю без падважнікаў тых,
Без мудрага троса,
Жывымі рукамі карэнняў сваіх
Сасна і бяроза.

Ад дыму да пары ў пякельных катлах
Судна, паравоза
Прайшлі яны поруч гарачы свой шлях —
Сасна і бяроза.

Лягла на іх плечы цяжарам вайны
Акопная проза:
Служыла салдатам сасна — для труны,
Для крыжа — бяроза.

Знікала з тузоў, гандляваўшых крывёй,
Пыхлівая поза,
Калі перад імі ўставалі з пятлёй
Сасна і бяроза.

Ад явы крывавай не вынашлі лек...
І ўзнікла пагроза,
Што могуць пад крыжам закончыць свой век
Сасна і бяроза.

Ужо на насенне, якое ў раллі,
Паглядваюць коса
Аратыя смерці, каб больш не раслі
Сасна і бяроза.



Над імі ракетны ўзрываецца гук
І гул бамбавоза...
А што, як Зямлю нашу выпусцяць з рук
Сасна і бяроза?

*1968*

**Ларыса Генію**ш

***

Мы – як зубры,
Мы ў сябе дома,
Тутэйшыя, што ад вякоў жывуць.
Мы – як дубы,
Нам можна знішчыць громам,
Але з зямлі нас роднай
Не скрануць.



**Уладзімір Караткевіч**

**Беларуская песня**

Дзе мой край? Там, дзе вечную песню пяе Белавежа,
Там, дзе Нёман на захадзе помніць варожую кроў,
Дзе на ўзвышшах Наваградскіх дрэмлюць суровыя вежы
І вішнёвыя хаты глядзяцца ў шырокі Дняпро.
Ты ляжыш там, дзе сіняя Прыпяць ласкава віецца,
Дзе Сафія плыве над Дзвіною, нібы карабель...
Там, дзе сэрца маё з першым крокам, як молат, заб’ецца,
Калі б нават сляпым і глухім я прыйшоў да цябе.
Што сляпым? Нават мёртвым успомню высокія зоры,
Над ракою чырвонай і цьмянай палёт кажаноў,
Белы ветразь на сініх, на гордых, як мора, азёрах,
І бары-акіяны, і неба — разлівы ільноў.
Дзе мой край? Там, дзе людзі ніколі не будуць рабамі,
Што за поліўку носяць ярмо ў безнадзейнай турме,
Дзе асілкі-хлапцы маладымі ўзрастаюць дубамі,
А мужчыны, як скалы,— ударыш, і зломіцца меч.
Дзе мой край? Там, дзе мудрыя продкі у хвоях паснулі,
Дзе жанчыны, як радасны сон у стагах на зары,
А дзяўчаты, як дождж залаты. А сівыя матулі,
Як жніўё з павуціннем і добрае сонца ўгары.
Там звіняць неўміручыя песні на поўныя грудзі,
Там спрадвеку гучыць мая мова, булатны клінок.
Тая гордая мова, якую й тады не забудзем,
Калі сонца з зямлёю ў апошні заглыбяцца змрок.
Ты — наш край. Ты — чырвоная груша над
дзедаўскім домам,
Лістападаўскіх знічак густых фасфарычная раць,
Ты — наш сцяг, што нікому, нікому на свеце, нікому
Не дамо абсмяяць, апаганіць, забыць ці мячом зваяваць.

Мы клянёмся табе баразной сваёй першай на полі
І апошняй раллёй, на якую ўпадзём у журбе.
Мы клянёмся табе, што ніколі,
Ніколі,
Ніколі,
Так,
Ніколі не кінем,
Не кінем,
Не кінем цябе.

*Караткевіч Ул. Мая Іліяда. Мн., 1968*



**Васіль Быкаў**

**Без надзеі - спадзяюся**

Свабода — найбольшая маральна-фізычная каштоўнасьць, дадзеная кожнай жывой істоце фактам яе нараджэньня. Усё жывое і карыстаецца тою каштоўнасьцю, наколькі тэта мажліва ў складаным, заблытаным сьвеце арганічнага існаваньня. Апроч хіба чалавека, якому мала прыроджанай свабоды. Каб у поўнай меры спазнаць і адчуць яе неабходнасьць, яму наканавана прайсьці праз хітрасьплецены лябірынт жыцьця, а то і застацца ў адным зь яго тупікоў. І там прызвычаіцца, змарнець, страціць прыроджаны дар свабоды, адаптавацца дзеля элемэнтарнае мэты біялягічнага існаваньня. Зрабіцца часткай натоўпу, грамадзтва, электарату —такім, як усе.

Але як быць асобе, калі яна выпадае з масы да сябе падобных, калі яна — творца, што дзеіць паводле ўнутраных імпульсаў самавыяўленьня? Як ёй пераадолець тую брутальную залежнасьць ад соцыюму, які нязьменна нівэлюе яе Богам дадзены дар? Ці, можа, ня трэба нічога пераадольваць, а падладзіцца, прыстасавацца, каб дамагчыся бесканфліктнага існаваньня? Дзясяткамі год у нашых вушах гучала нявольніцкая максіма: «Жить в обществе и быть свободным от общества нельзя». Сапраўды нельга, не дадуць, не дазволяць. Тыя, ад каго тэта залежыць, натхняюцца не зманлівай ідэяй чалавечай свабоды, а рэальнай патрэбай прыгнёту і сілы. І праўда, яны валодаюць немалой сілай, бо яны — заўжды гурт.

Мабыць, сапраўды, каб выжыць, варта згуртавацца, што робяць шмат якія істоты ў жывой прыродзе. Асабліва калі гурт мае ідэю — малаважна якую, добрую ці благую. Часам ідэяй робіцца інстынкт нацыі ці клясы, ці якога гурта,

і тады сьвет апынаецца перад імпэрскай, пралетарскай, нацысцкай ідэяй, якія заўжды каштуюць крыві. Апантаныя, так званыя папулісцкія ідэі каштуюць вялікай крыві і рэдка зьдзяйсьняюцца. Нават і сьвятая сярод іх ідэя свабоды.

Але ці дужа якая ідэя патрэбна творцу, калі ягоная душа ўжо захоплена ідэяй іншага кшталту — ідэяй праўды і прыгажосьці? Іншаму там мейсца няма, і ён — індывідуаліст. Усё значнае ў мастацтве спрадвеку ствараецца на грунце індывідуалізму. Спробы заарганізаванай мастацкай творчасьці /тым болей літаратурнай/ заўсёды зазнавалі фіяска.

Творцы — аднаасобнікі, яны твораць штучны тавар. Творчы альянс двух, нават калі кожны зь іх геній, неверагодны. Толькі паасобку. Нават калі яны адзінадумцы, адзінаверцы, належаць да адной партыі. Калектыўны элемэнт у мастацтве мае несумненна дэструктыўны характар.

Праўда, наш час асаблівы — крывадушны і жорсткі, а што да мастацтва — разбуральны па сваёй сутнасьці, толькі мы яшчэ ня надта ўцямілі тое. Мабыць, цяпер у першую чаргу трэба клапаціцца не пра росквіт, а пра выжываньне і захаваньне таго лепшага з нацыянальнай і сусьветнай культуры, што гэтак брутальна бурыцца ўладай і часам. Пэўна, зрабіць тое лепей агулам. Але ці можна не разумець, што і бурыць таксама выгадна агулам — усё адразу. Так дзешавей для ўладаў, якія звыклі ўладарыць ня толькі над целамі, але і над душамі людзей. З тае мэтай у нядаўнім мінулым яны стварылі партыю, калгасы, гулаг, каб заграбсьці ўсіх адразу. І сагналі творцаў у «творчыя» саюзы, дзе ўзялі іх у «творчы» палон. Тое яны найбольш рабілі рукамі саміх жа творцаў зь ліку найбольш спрытных калябарантаў. Паводле прынцыпу колішняга самаабслугоўваньня: самі пішаце, самі сябе і саджайце.



Нашая літаратура быццам бы пакрысе выкараскваецца з таго інтэлектуальнага гулагу, зь якога яшчэ належыць выбрацца нацыі. Свабода рабочых і сялянаў патрабуе, як кажуць, шмат валютных інвестыцыяў, якіх у дзяржавы няма. Літаратуры ж не надта патрэбны інвестыцыі, але ёй патрэбна — свабода. Аднак інтэлектуальная свабода каштуе яшчэ даражэй, чым свабода на карыстаньне зямлёй. Зрэшты, што да Беларусь дык вынік аднолькавы — ні сяляне ня маюць зямлі, ні пісьменнікі ня маюць свабоды. Хоць бы свабоды на родную мову. Нават на мяккі знак, каб ня корчыць язык у роце ад ненатуральнага, барбарскага вымаўленьня. Сапраўды, мова, паводле Генрыха Бёля, ёсьць апошняе апірышча свабоды.

Усё тое — непераможная сіла н я в о л і, зь якой нацыя звыклася, параднілася, ад якой адступаць рызыкова. Як павінны ставіцца да таго творцы? Томас Венцлова, напрыклад, піша, што найвялікшы патрыятызм у тым, каб ваяваць з комплексамі сваёй нацыі. Гэта сказана ў дачыненьні да не самай закамплексаванай нацыі, але тое праўда і, мабыць, адносіцца да ўсіх нацыяў без выключэньня.

Можна зразумець нашых калегаў, расейскіх дэмакратаў, якія нядаўна перажылі тое, што і мы, і цяпер памкнуліся да зманлівай, труднадасяжнай свабоды. Паяднаўшыся зь беларусамі яны маюць намер набыць дадатковы шанец на шляху да яе, кіруючыся ўсё той жа лёгікай — гуртам зручней. Але старая чэшская прымаўка кажа: не запускай млын, калі не маеш моцы яго спыніць. Ці маюць моц нашы расейскія калегі годна распарадзіцца хоць бы ўласнай свабодай? Ці ня болей рэальнай для іх і для нас застаецца рызыка страціць усё? Дзе гарантыя таго, што іхняя свабода дасягнута цалкам і назаўжды? Надта тое сумніўна ў краіне, дзе не спыняюцца ганебныя войны,

усюды ліецца кроў, нішчыцца свабода слова, а галоўнай дзяржаўнай ідэяй робіцца ўсё той жа нацыянал-імпэрыялізм.

У нас і ўласнага няшчасьця хоць адбаўляй. Рушыцца эканоміка, народ даведзены да галечы, гвалтам нішчацца нацыянальная культура і мова. Вельмі падобна, што дапамагчы нам ня можа ніхто — так глыбока завязьлі мы ў багне хлусьні і тыраніі, што ад нас адвярнуўся ўвесь белы сьвет. І ўсё ж нам, як тым зэкам, дужа непажадана *трапіць з адной камары ў такую ж іншую,* асабліва калі перапынак паміж допытамі апынуўся такі кароткі.

Мабыць, кожнаму свой шлях да свабоды наканавана прайсьці асобна. Усё ж індывідуалізм і ў гэткім абліччы — ня самы горшы кірунак да яе. Можа, не найлепшы, але і не найгоршы, — у аснове кожнай калектыўнай свабоды ляжыць свабода індывідуальная. Што да мяне, дык пэўне мой лёгас пэсымістычны, хаця мая душа прагне аптымізму. Як некалі пісала вялікаяя Лэся Украінка: «Без надіі такі сподюваюсь»...

*2002, Франкфурт-на-Майне*

*Быкаў В. Доўгая дарога дадому. Мн., 2002. С. 535-539*



**Владимир Конон**

## О белорусской идее
(В сокращении)

Записки эти — результат моего участия в работе трех форумов, организованных Национальным научно-просветительским центром имени Ф. Скорины: Международном конгрессе белорусистов (Минск, 25-27 мая 1991 г.), за Международным круглым столом «Беларусь в Великом княжестве Литовском» (Минск, 5-8 апреля 1992 г.) и в Международной научной конференции «Формирование и развитие национального самосознания белорусов» (Молодечно, 19-20 августа 1992 г.). В нашем Центре я вижу возможный прообраз будущей Белорусской Гуманитарной Академии, долженствующей свидетельствовать о духовном присутствии белорусов в мире. Скориновский Центр стремится по возможности объединить интеллектуальный потенциал белорусов у себя «дома» и белорусской диаспоры.

Речь идет о первых «подходах» к проблеме, над которой мне, возможно, предстоит потрудиться, — типологическом исследовании истории национальной культуры. Нужно ответить самим себе и миру на вопросы: для чего Создатель Вселенной, по словам нашего просветителя и патрона Франтишека Скорины, с того нашего белорусского языка нас «на свет пустил»?[1] В чем заключается наше славянское, европейское и мировое предназначение? Каков духовный аналог белорусского бытия в мире? Есть ли белорусская идея, в чем ее сущность и как она выявляется в историческом бытии народа? Создал ли наш народ самобытные духовные ценности? А если создал, то сумел ли донести их до мирового сообщества?

Наконец, вопрос, касающийся нашей национальной ментальности: как жили, о чем думали, как чувствуют себя белорусы среди близких и далеких народов? Останется ли наш народ навечно «младшим братом», иль «вечным студентом», или же предложит свой «урок» и свой «курс лекций»? Или, быть может, продолжит свой урок.

Есть, по крайней мере, три грани выявления национальной идеи каждого народа: его исторические деяния и геополитические проекты, национальный характер во всех его противоречиях, наконец, его самобытная культура, включающая эконономику (все сферы традиционного производства и распределения), мифологию, язык, искусство, религию, мораль, науку, философию, общественно-политические структуры и правовые институты. Все они так или иначе формируют то, что именуется национальным менталитетом. Под этим термином обычно понимали культуру и господствующий лад мышления в коллективной психологии народа. Известная монография французского этнолога Л.Леви-Брюля (1857-1939) «La mentalité primitive» (1922) переведена на русский язык под названием «Первобытное мышление» (1930).

Необходимо реабилитировать позитивный смысл понятия «миф», ведь оно в период господства нормативно-государственного материализма стало антиподом науке, философии и культуре, приобрело негативное значение вымысла, своеволия нетворческой фантазии. Наши энциклопедические справочники обычно дают второе, производное значение старогреческого слова mythas в смысле предания, легенды. Однако же первое, непосредственное значение слова «миф» — это слово, то есть язык народа. Постигая эмпирическую реальность посредством слов-образов, человек одушевлял бытие —



творил мифы. Если бы только удалось создать исчерпывающий этимологический словарь, то мы бы открыли целую систему народной культуры, основные архетипы национального менталитета.

Однако национальная мифология не ограничивается первобытными мифами эпохи словотворчества, а существенно затрагивает всю культуру — искусство, религию, философию, науку, систему ценностей. Российский философ Николай Бердяев (1874-1948) видел в исторической науке специфическое мифотворчество[2]. Нашу классическую литературу белорусский литературовед Владимир Колесник назвал «творением легенды», озаглавив так свою книгу литературных очерков и портретов. Искусство в определенном смысле есть рациональная мифология, иногда даже остроумная «игра в мифы» (она ярко выявилась в волшебных сказках), но эти мифы не претендуют на тождественность с эмпирической реальностью, а в системе культуры образуют духовно-ценностное бытие нации.

Геополитический аспект национальной идеи с российской «точки зрения» исследовал Николай Данилевский (1822-1885). «Всякая народность,— утверждал он,— имеет право на самостоятельное существование в той именно мере, в какой сама его сознает и имеет на него притязание»[3]. Для реализации национальной идеи — миссии народа служит государство — явление историческое, преходящее, цель которого — утвердить национальную самобытность народа, выполнить его историческое назначение — создать свой уникальный тип цивилизации. Каждая такая цивилизация всегда и везде односторонняя и временная и только субъективно, для национального или регионального самосознания она представляется универсальной и вечной. Общечеловеческая

культура реализуется в ходе истории как симфония самобытных, национальных и региональных культур. Однотипная «общечеловеческая» цивилизация, если бы только она вообще была возможна, оказалась бы не чем иным, как разрушением самобытных культур «мессианством» одного или нескольких могущественных народов.

Николай Бердяев в книге «Русская идея» реконструировал российскую ментальность и, шире, национальное бытие России посредством анализа русской классической литературы и философии XIX-начала XX в.в. «Русский народ,— писал Бердяев,— есть в высшей степени поляризованный народ, он есть совмещение противоположностей […]. Русский народ есть не чисто европейский, и не чисто азиатский народ. Россия есть целая часть света, огромный Восток-Запад, она соединяет два мира. И всегда в русской душе боролись два начала, восточное и западное […] Русский народ не был народом культуры по преимуществу, как народы Западной Европы, он был более народом откровений и вдохновений, он не знал меры и легко впадал в крайности […] Можно открыть противоположные свойства в русском народе: деспотизм, гипертрофея государства и анархизм, вольность, жестокость, склонность к насилию и доброта, человечность, мягкость; обрядоверие и искание правды; индивидуализм, обостренное сознание личности и безличный коллективизм; национализм, самохвальство и универсализм, всечеловечность; эсхатологически-мессианская религиозность и внешнее благочестие; искание Бога и воинствующее безбожие; смирение и наглость; рабство и бунт» [4].

Сегодня очерк «Русская идея» Бердяева весьма популярен в среде российской эмигрантской



интеллигенции. По радио «Свобода», кажется, уже третий год Борис Парамонов ведет философско-публицистическую программу «Русская идея». К сожалению, даже у нас мало кто ведает оригинального белорусского поэта и философа Игната Кончевского. А ведь это он под псевдонимом Абдиралович опубликовал за тридцать пять лет до выхода в свет очерков Бердяева свое философское эссе о белорусском мировоззрении «Извечный путь» (1921). В жизни этого белорусского пророка повторился трагический рок Максима Богдановича: И. Кончевский умер на 27-й весне своей от чахотки.

На основе философского обобщения духовного опыта нашей литературы Кончевский определил сущность исторической судьбы белорусов и белорусской идеи.

[…] Белорусская идея, как ее представлял Кончевский, - есть отрицание крайних, «мессианских» форм восточного «византизма» (унитарность общественно-политической жизни, нетерпимость к инакомыслию, концентрация власти в одних руках, общинность и слабо выраженная личностность, нередко еще и тотальный экспансионизм) и западной индивидуалистической демократии (в ней есть едва завуалированная тенденция к захвату в свои зоны влияния «слабейших» народов с последующим их поглощением — ассимиляцией).

Сущность бедорусской идеи – творческое отношение к бытию, неприятие раз навсегда определенных, объективизированных и дегуманизированных догм и принципов общественно-политического и экономического строя, будь то капитализм или социализм. Гегелевская антиномия тезиса “Всё существующее разумно” и антитезиса “Все существующее неразумно” решается синтезом: “Все существующее – творческое”. Вместо

революций – творческая эволюция опиращаяся на духовное обновление общества и личности.

Положение белорусов на меже двух социо-культурных типов, условно говоря, восточного и западного, по моему мнению, объясняется их собственной историей, географической средой (географический центр Европы) и обусловленным этими факторам их менталитетом. Между прочим, их этногенезом. Белорусский этнос складывался из предков-славян (кривичей, дреговичей и радимичей) и так называемого «балтского субстрата» — путем мирной славянской ассимиляции балтско-литовских, ятвяжских и иных племен. Следовательно, происходил синтез двух архетипов общественного бытия и сознания. По-видимому, имели здесь значение характер и «тональность» процесса крещения предков- белорусов. В отличие от силового, «революционного» крещения Киевского княжества в 988 году (об этом свидетельствуют ранние летописи), на землях Беларуси присоединение народа к новой религии происходило эволюционным путем и растянулось во времени по крайней мере на два столетия. Это была, главным образом, мирная «конвергенция» двух ментальностей — самобытной народной, языческой и христианской, привнесенной из эллинизированной Византии. Летописи и «Слово о полку Игореве» свидетельствуют: Всеслав Брачиславич, славный полоцкий князь (1044-1101) по прозванию Чародей, олицетворял это парадоксальное единство двух вер: строитель Полоцкой Софии — символа христианства, идеальный прообраз государственно-правового деятеля белорусов, он в то же время приобрел славу языческого провидца и чародея. Или, по словам поэмы: «Всеслав князь людемъ судяше, князем грады рядяше, а сам в ночь влъкомъ рыскаше: из Кыева дорискаль до куръ Тмутороканя, великому Хръсови



влъкомъ путь прерыскаше. Тому в Полотьске позвониша заутреннюю рано, у Святыя Софеи въ колоколы, а он въ Кыеве звонъ слыша».

Этот синтез христианской духовности и языческой христианской мифологии в истории национальной культуры – одна из причин расцвета белорусского фольклора.

[…] Однако нет оснований отлучать традиционную народную культуру белорусов от христианского менталитета, как это пытались делать некоторые этнографы и фольклористы, не говоря уже об идеологах-атеистах. Если даже допустить, что в древнюю эпоху были такие божества, как Рай или Спорыш, то после крещения народа, как об этом свидетельствует фольклор, они постепенно утратили свой хтонический, языческий облик, претворившись в мифо-логические архетипы осознания христианского Бога как Хозяина жизни, а его святых — ангелов, хранителей народного благосостояния.

Что же касается Рая в смысле греческого «Paradis», как места вечной жизни с Богом, то его белорусским художественным архетипом стала «малая отчизна», или «родны кут», как ее называл Якуб Колас. Эта симпатичная черта белорусской ментальности отразилась во множестве пословиц, например: «У сваім краю, як у раю.— Родная зямелька, як зморанаму пасцелька.— Для ўсякай птушкі сваё гняздо міла (или же, как возвышенно писал Ф. Скорина: «Птици, летающие по возъдуху, ведаюць гнезда своя... Тако ж и люди, игде зродилися и ускормлены суть по Бозе, к тому месту великую ласку имаюць»).— Ідзі ў родны кут, там і пад ёлкаю рай. — Чым за морам віно піць, лепш з Нёмана вадзіцу».

Архетипы «родного края» в национально-возрожденческую эпоху (конец XIX-нач. XX в.) стали универсальными символами воскресения Беларуси. Тайна

суггестивной силы поэмы Якуба Коласа «Новая зямля», написанной просто, как ежедневная молитва,— в художественном единстве сурового бытия дореволюционной деревни и райского мифа. Лирический облик этого рая читатель найдет и в другой поэме этого поэта — «Сымон-Музыка»:

О, край родны, край прыгожы!
Мілы кут маіх дзядоў!
Што мілей у свеце Божым
Гэтых светлых берагоў...

«Сымон-Музыка» — поэма о белорусском Орфее — античном архетипе художественной гениальности. Этот образ, замеченный Максимом Богдановичем и воплощенный им в рассказах-притчах «Музыка» и «Сон-трава», фольклоризовался в устно-поэтическом творчестве — в записанных А. Сержпутовским от сказителя Редкого («Музыка і чэрці»— возвышенно-драматический вариант) и Тычины («Цыган-музыка» — карнавальная травестация первой сказки). Народ и поэт — каждый по своему — свидетельствовал миру о рождении самобытной профессиональной поэзии, музыки и шире — художественной культуры белорусов.

А теперь попытаемся найти несколько выразительных примеров в истории Беларуси, подтверждающих пророчество поэтов и мыслителей о Беларуси как «срединноеевропейском» звене, соединяющем односторонность двух ментальностей и двух типов культур, условно говоря «восточных» (российская Евроазия) и «западных» (преимущественно романо-германская цивилизация).



Если дозволено будет мне позаимствовать религиозно-экзистенциалистское понятие того же Бердяева, то можно сказать: национальное мессианство «великих» народов (великих на самом деле или только по самомнению) есть не что иное, как «грехопадение» или «объективизация» христианского универсализма, его ниспадение с высот всечеловеческой духовности в долины грешных, отчужденных от человека социального бытия и политики. Политическое и культуртрегерское мессианство великих империй и сверхдержав есть идея антихристианская, подмена духовного небесного царства земною карикатурою на него. Подмена «рыбы» духовности «змеею» материальности, а «хлебов» жизни — «камнями» смерти. Вспомним сорокадневный пост Иисуса Христа накануне его земного служения и три искушения от дьявола. Они — парадигма всех искушений земной истории: «И возведя Его на высокую гору, диавол показал Ему все царства вселенной во мгновение времени, и сказал Ему диавол: Тебе дам власть над всеми сими царствами и славу их, ибо она предана мне, и я, кому хочу, даю ее; итак, если Ты поклонишься мне, то всё будет Твое. Иисус сказал ему в ответ: отойди от меня, сатана: написано: Господу Богу твоему поклоняйся, и Ему одному служи» (Лук. 4, 5-8).

По-видимому, не случайно искушение имперским псевдомессианством охватило царства и народы в конце их «национального поста»: Россию — после распада многовековой империи в 1917 году, Польшу — в годы обновления ее государственности в начале 1920-х годов через 150 лет после распада Речи Посполитой, Германию — после распада ее империи и версальского позора в 1918 году.

Было ли в истории белорусского народа свое мессианство? Полагаю, что не было — как законченной

геополитической программы. Белорусы были и остались свободными от искушения имперской властью и воинственного национализма. Есть иное понятие, обозначающее историческое предназначение народа: его «посланничество» в мире, или его миссия. Евангельская притча о «талантах» (Матв. 25, 15—30) имеет отношение не только к каждому человеку, но также к народам: ни личность, ни тем более нация не имеют права закопать свой талант в землю, они отдать его «в рост» всечеловеческой духовности. Правда, между полярными понятиями мессианства и миссии бывает иногда тонкая, не всегда уловимая межа. История знает немало таких прецедентов, когда носители религиозной или культуртрегерской миссии впадали в искушение земного, властного, то есть искаженного и греховного мессианства.

Но в чем же заключается историческая миссия Беларуси, белорусского народа? Каково содержание его национальной идеи? Аргументированный ответ на этот вопрос может дать только основательное исследование философии белорусской истории и белорусского культурно-исторического типа. Однако уже сегодня, с учетом духовного опыта белорусов, отраженного в его культуре, религии, философии, литературе, можно в общем плане определить нашу миссию: историческое предназначение Беларуси —созидание духовно-культурного и геополитического «моста» между Востоком и Западом; российской Евро-Азией, с одной стороны, Западной и Центральной Европой, с другой стороны.

Условно говоря, «восточный» тип менталитета (имеется в виду не азиатский, а восточноевропейский, главным образом, российский) характеризуется унитарностью сознания и политических структур (государства), приоритетами родового и коллективных



начал над индивидуально-личностной экзистенцией. Напротив, «западный» (главным образом, германо-романский) тип ментальности есть прежде всего плюрализм мировоззрения и национально-политических структур, склонных к компромиссам, приоритет индивидуальных интересов над родовыми и коллективными. Оба эти типа социальной жизни и культуры в прошлом и, быть может, в настоящем склонны к мессианству и «мирной» экспансии, к не всегда осознанному, иногда подсознательному подавлению «инотипных» культур. Самобытность же белорусско народа (и, кажется, также литовского, латышского и эстонского) в том, что он не присоединился ни к одному из этих полярных типов цивилизации, не принял их мессианства, стремился синтезировать позитивные достижения «восточной» и «западной» культур на основе своей собственной традиции.

Прототипом белорусского интеллекта, как уже отмечал И. Кончевский, был Франтишек Скорина: он первым постиг, что только посредством саморазвития народного духа белорусы придут к всечеловеческим идеалам.

[…] Если просветительская миссия Скорины была попыткой «духовной встречи» между Западом и Востоком, то геополитический проект канцлера Великого княжества Литовского Льва Сапеги (за ним стоял тогдашний виленский воевода Криштоф Николай Радзивилл по прозванию Перун) 1580-х годов — смелая идея политической интеграции Восточной и Центральной Европы. Начало этому процессу, по замыслу Сапеги и Радзивилла, должна была положить династическая уния России и Речи Посполитой.

[…] В политическом плане неудача проекта Сапеги-Радзивилла означала, что и дальше в Восточной Европе

будет усиливаться поляризация двух сверхдержав и даже усилится конфронтация двух культурно-исторических типов. Дальновидные политики (и среди них первым был Сапега) понимали, что такое противостояние в конце концов вызовет катастрофу и поглощение одной из враждующих стран другой. Политическая интуиция подсказывала Сапеге, что в дальней перспективе военная победа скорее всего окажется на стороне унитарной и деспотической России.

До конца своей жизни Сапега стремился так или иначе осуществить свой проект, объединить Россию и Речь Посполитую в конфедерацию, в которой доминирующее положение заняла бы не Польша и не Россия, а геополитическая «средина», объединяющее эти полюсы звено,— Великое княжество Литовское. В случае же неудачи этого мирного плана Сапега стремился ослабить Россию военными и дипломатическими средствами, заставить ее отказаться от мессианской идеи «Москва — третий Рим». В 1600 году он подписал с Россией «вечный мир». Вечного мира не получилось, но сама его идея остается вечно актуальной.

[…] Наконец, Брестская церковная уния 1596 года, поддержанная канцлером Сапегой, была смелой, но не вполне удавшейся попыткой духовно объединить христианские Восток и Запад, если не в глобальном геополитическом плане, то хотя бы примирить эти два типа культуры в Речи Посполитой и особенно на Беларуси. Если бы этот проект удался, то историческая судьба Восточной и Центральной Европы была бы иной, во всяком случае более счастливой.

И еще. Жизнь и творчество белорусского поэта и просветителя Симеона Полоцкого в Москве (1664-1680) — это не измена белорусским интересам на пользу Москвы, как сегодня думают некоторые искренние белорусские



патриоты, а продолжение в новых, неблагоприятных для Беларуси условиях, просветительской миссии Ф. Скорины — присоединение могущественной «евро-азиатской» державы к европейской цивилизации.

Неудача миссии Ф. Скорины и геополитического проекта Сапеги — Радзивилла в конце концов привела к разрушению Речи Посполитой — польского, белорусского и литовского федеративного государства. Но сегодня вспоминается афоризм Фридриха Ницше: уважать великую неудачу — это относится к моей морали.

После распада Советского Союза и создания на его геополитическом пространстве промежуточной в историческом времени политической структуры — Союза Независимых Государств, возникла проблема интеграции правопреемников СССР в европейском и мировом сообществе. Возникшая на этот счет эйфория в России и в иных возрожденных государствах не учитывает проблематичность слишком резкой стыковки качественно различных этносов с их самобытными менталитетами и культурно-историческими типами. Здесь и может пригодиться опыт истории. Речь идет о промежуточных социально-экономических и духовно-культурных сообществах Восточной и Средней Европы…

1. Біблія. Факсімільнае ўзнаўленне Бібліі, выдадзенай Францыскам Скарынаю ў 1517-1519 гадах. У 3-х тамах. Т. 3. Мн., 1991. С. 10.
2. Бердяев Н. Смысл истории. Опыт истории словеческой судьбы. Изд. 2-е. Париж, 1969. С. 29.
3. Данилевский Н. Я. Россия и Европа. Взгляд на культурные и политические отношения славянского

мира к германо-романскому. Изд. 4-е. СПб., 1889. С. 23.

4. Бердяев Н. Русская идея. Основные проблемы русской мысли XIX века и начала XX века. 1971. С. 5-7.

*“Нёман”. 1993. №3. С.126-131*



**Міхаіл Крукоўскі**

## Сучасны свет і беларуская ідэя*

Сярод найважнейшых праблем, перад якімі ў глыбокім роздуме спыняецца сучаснае чалавецтва, можа па праву быць названай праблема нацыянальнасці, ці, як у нас гавораць, нацыянальнай ідэі. Гэтая праблема даўно ўжо востра клапоціць свядомасць кожнага шчырага беларуса, якому яшчэ ў купалаўскія часы чалавекам звацца хацелася і для якога яна аказваецца цесна звязанай з такімі востра перажыванымі сёння жыццедайнымі пытаннямі, як становішча беларускай нацыянальнай культуры і асабліва лёс дзяржаўнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь. Але і ў агульначалавечым маштабе праблема нацыянальнай ідэі набывае сапраўды небывалую і нечуваную дагэтуль актуальнасць. Ва ўмовах апошніх распадаючыхся шматнацыянальных імперый, што трымаліся на традыцыйных каранях, заглыбленых ледзьве не ў феадальную мінуласць, як адносна нядаўняя Аўстра-Венгрыя і зусім яшчэ ўчорашні сацыяльна-гістарычны тандэм Расійская імперыя - Савецкі Саюз, так і ў абставінах узнікаючых новых фінансава-алігархічных імперый на аснове так званага глабалізму некаторыя нацыі застаюцца больш устойлівымі і жыццездольнымі сацыяльнымі ўтварэннямі, якія маюць больш-менш цвёрдую перспектыву выстаяць перад пагрозай сапраўды ўжо глабальнага крызісу, які ахапіў сёння нашу планету. Аб гэтым яскрава сведчаць канкрэтныя гістарычныя падзеі і факты канца XX- пачат- ку XXI ст., такія, як востраканфліктныя праявы нацыянальна-вызваленчых рухаў, што суправаджаюцца трагічнымі наступствамі ў выглядзе экстрэмісцкіх палітычных крайнасцей і нават тэрарызму. Пра тое ж гавораць і

навукова-тэарэтычныя абагульненні, замацаваныя артыкуламі, кнігамі і такімі важнымі тэкстамі і дакументамі, як, напрыклад, нядаўняя дэкларацыя ЮНЭСКА аб неабходнасці ўзаема- паважальнага дыялогу паміж нацыянальнымі культурамі як асновы ўсёй сістэмы міжнародных адносін. Адной з такіх навукова-тэарэтычных распрацовак праблемы нацыі з'яўляецца і прапанаваная беларускаму чытачу кніга Анатоля Астапенкі "Нацыянальная ідэя ў сучасным свеце".

<…> Тут нам хочацца засяродзіць увагу чытача толькі на двух, але асноўных і найважнейшых аспектах праблемы, узнятай аўтарам прадстаўленай манаграфіі, менавіта таму так актуальнай сёння.

Гэта, па-першае, цяперашні стан беларускай нацыянальнай культуры, якая знаходзіцца на стадыі адраджэння і адначасова востра перажывае крызісны перыяд у сваім гістарычным развіцці. Што ў нашай культуры была ўвогуле вельмі нялёгкая гісторыя і што яна амаль на ўсім пройдзеным ёю жыццёвым шляху знаходзілася ў перманентным крызісным стане, падвяргаючыся няшчаднаму ўціску і з Захаду, і з Усходу, - агульнавядома. Галоўнай прычынай такога стану была шматвяковая адсутнасць уласнай дзяржаўнасці, якая заканамерна вяла да адсутнасці суверэнітэту і незалежнасці, і гэта таксама сёння добра вядома. Апошнія, здавалася б, чыста юрыдычныя, фармальныя вынікі таго, што беларусы не мелі ўласнай дзяржавы, з'яўляліся ў той жа час прычынай глыбокага заняпаду самой беларускай нацыянальнай культуры як глыбіннага зместу і сутнасці дзяржавы ўвогуле. Тут сапраўды было нейкае двухбаковае, як сказалі б філосафы, узаемадзеянне зместу і формы, прычым узаемадзеянне не творчае, а разбуральнае. У стане нармальнага, сацыяльна здаровага існавання народу яго



незалежная дзяржаўнасць, яго суверэнітэт, як правіла, прыводзяць і да росквіту нацыянальнай культуры. Як і квітнеючая нацыянальная культура абавязкова патрабуе поўнай незалежнай дзяржаўнасці і суверэнітэту. У нас жа і раней і сёння ўсё было зусім наадварот.

<…> Эканоміка таксама ўяўляе сабою нацыянальную культуру і менавіта культуру матэрыяльную, цесна звязаную з духоунай культурай. Нацыянальная культура ўключае ў сябе не толькі каштоўнасці чыста духоўнага жыцця народу, але і каштоўнасці яго пачуццёва-матэрыяльнага бытавання. І тым болей далейшае развіццё яе магчыма толькі ў абставінах захавання незалежнасці і суверэнітэту як і наадварот суверэнітэт можа існаваць толькі на базе развітай нацыянальнай культуры. Усё гэта якраз і абыймаецца ў рэальнасці глыбокім і ёмкім па зместу словазлучэннем "нацыянальная ідэя". І разуменню ўсяго гэтага безумоўна садзейнічае змест прапаноўваемай увазе неабыякавага чытача манаграфіі Анатоля Астапенкі "Нацыянальная ідэя ў сучасным свеце".

Азначаная манаграфія мае і другі вышэйпамянёны важны аспект, пра што сказана ужо ў яе загалоўку. І тут таксама выразна выступае на першы план не толькі традыцыйнаагульная праблема існавання нацыянальнай культуры ў шматнацыянальным свеце, але і востра актуальны канкрэтна сучасны стан такога існавання. Маюцца на ўвазе дзве такія звязаныя паміж сабою сучасныя з'явы як глабалізм і постмадэрнізм, якія таксама штурхаюць беларускую нацыю, яе культуру і суверэнітэт зноў такі ў абдымкі нядобрага крызіснага стану. Так званая глабалізацыя ўжо па сэнсу свайго азначэння як з'ява глабальная, г. зн. звышнацыянальная, выступае сёння адкрыта варожай сілай як нацыянальнай культуры народу, так і яго дзяржаўнаму суверэнітэту, ламаючы пад

бездухоўна-матэрыяльнай, фінансава-алігархічнай калясніцай Джагернаута любыя праявы нацыянальнай своеасаблівасці народу, уключаючы і яго духоўную культуру і яго дзяржаўны суверэнітэт. У чым глабалізацыі адкрыта, як надзейны саюзнік, дапамагае так званы постмадэрнізм, раз'ядаючы, быццам ракавая пухліна, духоўную культуру народа. Усё гэта, хоць і не абмяркоўваецца непасрэдна ў тэксце, але таксама становіцца больш зразумелым, калі чытаеш манаграфію Анатоля Астапенкі.

Кніга А.У.Астапенкі дае нам, такім чынам, не толькі тэарэтычнае абагульненне такой складанай сацыяльнай з'явы як нацыя ў яе станаўленні як выніку пэўных абставін гістарычнага развіцця, але падводзіць і да ўсведамлення вельмі практычных аспектаў менавіта сучаснага стану праблемы, аспектаў, што даюць магчымасць правільна прадбачыць і пэўныя перспектывы далейшага яе існавання. За ўсё гэта і будзе, спадзяемся, удзячлівы аўтару зацікаўлены беларускі чытач.

**/ М.Крукоўскі, прафесар, доктар філасофсіх навук.*
*Прадмова "Ад навуковага рэдактара" да кнігі А.Астапенкі "Нацыянальная ідэя ў сучасным свеце". Мн., "Беларускі кнігазбор", 2003.*



**Анатоль Астапенка**

**Правы нацыі і правы чалавека***
(У скарачэнні)

Паняцце "правы чалавека" даволі трывала ўвайшло ў нашае жыццё і атрымала разгорнутае і глыбокае тлумачэнне ва Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, прынятай на сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у 1948 г. Але, як піша Л.Ф.Яўменаў у кнізе "Международная идеология прав человека: проблемы - решения"[1], паняцце правоў чалавека разлядаецца яшчэ ў Дэкларацыі незалежнасці Злучаных Штатаў Амерыкі 1787 г. і больш таго, вытокі гэтага паняцця трэба шукаць у законах Хамурапі (XVII ст. да н.э.), Вялікай хартыі вольнасцей (Англія, 1215 г.), Статуце Вялікага княства Літоўскага 1588 г. і многіх іншых дакументах мінулага.

На шмат менш мы ведаем пра іншыя правы - правы нацыі. Гэта і зразумела: само паняцце нацыі да гэтага часу не мае акрэсленага азначэння і наогул узнікла толькі ў XIX ст., пасля адзначанай вышэй публікацыі Эрнэста Рэнана. Прынцып жа правоў чалавека займае цэнтральнае месца ў адной з найбольш распаўсюджаных ідэалогій нашага часу - лібералізме. З пункту гледжання лібералаў правы чалавека маюць прыярытэт над правамі нацыі. Але нацыяналісты, як і прыхільнікі блізкіх да іх ідэалогій - кансерватары і хрысціянскія дэмакраты - ніолі не згодзяцца з такой формулай лібералаў. Такім чынам паміж ліберальнай ідэяй і нацыянальнай наступае сур'ёзны канфлікт. Гэтую супярэчнасць выявіў яшчэ ў канцы XIX стагоддзя К.Лявонцьеў, які лічыў, што ліберальны прынцып прыярытэту правоў чалавека над правамі нацыі вядзе да змяшэння нацый, касмапа- літызму, да бездухоўнага,

мондыялістскага грамадства[2]. Лібералы, ўбачыўшы безумоўную моц нацыяналізму, спрабавалі і спрабуюць увесці нацыянальную ідэю ў сваю ідэалогію. Аднак пры гэтым узнікае непазбежны канфлікт паміж ліберальным прынцыпам прыя-рытэту правоў чалавека над правамі нацыі і "іншародным", чужым прынцыпам - нацыянальнай ідэяй, якая патрабуе адваротнага - прызнання безумоўнага прыярытэту інтарэсаў нацыі над інтарэсамі простых індывідуумаў. На шляху развязання такіх супярэчнасцей нарадзілася нават новая ідэалогія-ліберальны нацыяналізм. Вядомым тэарэтыкам гэтага кірунку з'яўляецца І.Тамір[3]. Аднак і І.Тамір і іншыя даследчыкі не даюць адназначнага развязання згаданага канфлікту паміж нацяналізмам і лібералізмам, а абмяжоўваюцца паяднаннем гэтых ідэялогій толькі ў імя вышэйшай мэты - дабрабыту грамадзян і ўмацавання нацыі-дзяржавы.

Паказальным, у сувязі з вышэйсказаным, з'яўляецца эвалюцыя станаўлення дэмакратыі і нацыянальнага адраджэння ў постсавецкай Беларусі. Ужо ў 1991 г. у Беларусі існавалі палітычныя партыі як ліберальнага накірунку, так і нацыянальна-дэмакратычнага. Да першага належала Аб'яднаная дэмакратычная партыя (з 1995 Аб'яднаная грамадзянская партыя - АГП), да другога - Беларускі народны фронт (БНФ), Нацыянальна-дэмакратычная партыя Беларусі (НДПБ). Пазней НДПБ (у 1993 г.) раскалолася і ў выніку ўтварыліся дзве партыі: НДПБ (Нацыянальна-дэмакратычная партыя беларусаў) і Беларуская нацыянальная партыя (БНП). Апошняя ў якасці аднаго з галоўных праграмных прынцыпаў узяла ідэалогію нацыяналізму ў яе сучасным заходнім варыянце, якая ўдала спалучылася з асноўнымі хрысціянска-дэмакратычнымі прынцыпамі.



Маладыя партыі і грамадскія аб'яднанні ўжо на пачатку 1990-х гадоў пачалі шукаць шляхі магчымага аб'яднання на прынцыпах агульнасці сваіх платформ, галоўнымі задачамі ў якіх лічыліся: дзяржаўная незалежнасць, рынкавая эканоміка і правы чалавека. Менавіта па апошняму пункту і выяўляліся самыя істотныя разыходжанні паміж партыйнымі платформамі, якія звычайна вялі да безвыніковых спрэчак, а потым і да прыпынення ўсякіх аб'яднаўчых, "экуменічных" працэсаў.

Характэрны прыклад: увосень 1993г. у Беларусі стваралася аб'яднанне дэмакратычных сіл "Вясна-94". Былі прапанаваны прыкладна тыя ж прыведзеныя вышэй тры прынцыпы аб'яднання. У выніку НДПБ адразу адмовілася ад перамоў па аб'яднанню ў сувязі з непрыняццем трэцяга пункту. Партыя "цалкам ухваліла ідэю стварэння цэнтрысцкага блока і палічыла гэта важным крокам у жыцці, але члены НДПБ не згодны з прыярытэтам правоў чалавека перад правамі нацыі"[4]. БНФ таксама ўстрымаўся ад падпісання пагаднення і высунў у прынцып парытэту правоў чалавека і правоў нацыі.

На нашую думку, паняцце парытэт у разглядаемай праблеме можа мець месца толькі ў незалежных краінах, якой не з'яўляецца Рэспубліка Беларусь з зачаткамі дэмакратыі і вельмі слабым нацыянальным патэнцыялам. Любое абсалютаванне ліберальных каштоўнасцей, стаўка на прыярытэт правоў чалавека над правамі нацыі ва ўмовах Беларусі канца XX - пач. XXI ст. вядзе да вельмі простых і непазбежных вынікаў - поўнага вынішчэння беларускай нацыі, хуткага растварэння яе ў рускай. Прычым першы ўдар бярэ на сябе мова, як найбольш слаба абаронены сродак камунікацыі. Гэты працэс у наш час усё больш і больш набірае моц. Небяспека яго відавочная: пры дасягненні нейкай крытычнай мяжы працэс выцяснення

беларускай мовы рускай можа стаць незваротным. А знікне мова - знікне і нацыя. Ва ўмовах няспеласці беларускай нацыі, яе кволага абуджэн- ня - згаданы працэс можа пакінуць ад беларусаў толькі экзатычныя ўспаміны, ды паступовае зліццё дыялектных гаворак з пануючай рускай мовай.

Сказанае вымагае вельмі ўважлівага стаўлення да праблемы суадносін правоў чалавека і правоў нацыі. Яна становіцца праблемай першаступеннай важнасці для любой краіны, якая становіцца на шлях нацыянальнага адраджэння і пабудовы дзяржаўнай незалежнасці. Толькі ў выніку прадуманага дзяржаўнага падыходу магчыма знайсці кампраміс паміж канфліктуючымі варыянтамі і захаваць тытульную нацыю дзяржавы, не парушаючы правоў чалавека. Вось тады і магчымы парытэт правоў чалавека і правоў нацыі.

1/ Евменов Л.Ф. Международная идеология прав человека: проблемы-решения. Мн., 2000.
2/ Леонтьев К. Племенная политика как орудие всемирной революции. Избранное. М., 1993.
3/ Yael Tamir. Liberal Nationalism. Prinston, New Jersey, 1993.
4/ Палявікова Т. Ад таталітарызму да прававой дзяржавы // Добры вечар, 12 кастрычніка 1993 г.

***/** *А.Астапенка “Нацыянальная ідэя ў сучасным свеце”. Мн., “Беларускі кнігазбор”, 2003.*



**Анатоль Вялюгін**

**На плошчы Незалежнасці**

Ля хорама дзяржавы
Яліны і шынелі
На холадзе куржава
Дасвеццем заінелі.

Здароў, сухі аўторак!
На сесіі сягоння
У ляманце разборак
Агніцца меч Пагоні.

Ні меча, ні арала
Як след не браўшы ў рукі,
Гарлаюць генералы –
Акопнікаў унукі.

А іх, штабных у зорках,
Што спрытна зарабілі, -
Як снегіроў на горкай
Аснежанай рабіне.

Пасля крутой размовы
Аб мове і Расіі
Яны на час зімовы
Вакацый зноў прасілі.

З аўторка да суботы
Пасля агнішча духу
На гойданках дрымоты
Дабрэла пасядуха.

Сягоння ж ёй пабудка,
Парт-гвардыі Саветы, -
У сёдлах крэслаў пудка
Адкінуты газеты.

На плошчу кліча плошча
Галосна а зубаста.
Калоціць залу пошчак
Прысуду плошчы:
- Баста!..

Нямала ж перла бродам
Да вабных круч кар'еры,
Між імі і народам –
Міліцыі бар'еры.

Не злічыш да суботы
Пад ветласцю жалезнай,
На колькі тысяч ботаў
Падкута незалежнасць.

*1994*

*Літаратура і мастацтва. 1994, 29 красавіка.*



**Анатоль Вярцінскі**

**Варыяцыя на біблейскую тэму**

Спачатку мы — белорусы,
А потым яшчэ — славяне,
А потым ужо — зямляне,
А потым — усе перад Богам,
Схіліўшы галовы,стаім...

А Бог запытальна гляне:
— Знаю, што ёсць зямляне,
Здаецца, ёсць і славяне,
А гэта хто? — беларусы?! —
Хіба я ўчыняў землятрусы,
Хіба насылаў я потопы,
Каб недзе ў цэнтры Еўропы _
Такое ўчынілася племя,
Што сее чужое семя
І плён збірае чужы?
Вось ты мне, Міхайла, скажы:
Калі ў трубу залатую
Паклічаш паству зямную
На самы апошні суд, —
Няхай ён завецца Страшным,
Але ж застаецца нашым, —
Ён боскі, ён праведны суд...
Каго ж мы тут прывітаем,
Кого ад грахоў апраўдаем?
А пэўна, найперш таго,
Хто мову, што дадзена Богам,
Бярог ля прычасця святога,
Майна не цураўся свайго,

Хто дух мой адметнасцю множыў,
Каб мовіць “І гэта прыгожа...” —
Як мовіў “І гэта цудоўна”
У дні тварэння — я мог...

Дык з чым вы на райскі парог?..

Апостал Пётра, глядзі
І ўлік панародна вядзі:
Хто пнецца са скарбам чужым,
А хто прыйшоў са сваім?..

*“Полымя”. №4. 1999*



**Уладзімір Някляеў**

**Маналог Ягайлы з паэмы “Паланэз”**

На ўзгоркі Нальшы коса падаў
Срабрысты дождж, і ў срэбры тым
Стаяў Міндоўг, а поруч з ім —
Ягайла, пяты сын Альгерда...
— Калі ня ведаеш, дык ведай, —
Прамовіў ён, —
Я крыжакам
Пацьвердзіў Жмудзь пасьля Міндоўга,
Бо не яна Айчына нам —
І ў нас няма прад ёю доўга.

А доўг ва ўсіх у нас адзін:
Перад Літвою доўг вялікі
Яшчэ з пары, як Гедзімін
Заваяваў сталіцу вількаў.

Праз гэты доўг —
супроць Масквы —
Я з Польшчай ажаніцца мусіў,
Каб адстаяць Літвы правы,
Каб л ё с Вялікае Літвы
Не стаўся л е с а м Беларусі.

Ды ўсё дарма... Вы лес апелі.
Згубілі ўсё, што продкі мелі,
Ператварылі край ваўкоў
У край зайцоў...

Я маю права
Спытацца з глыбіні вякоў:
Вы хто — народ?
Вы што — дзяржава?
Адкуль, калі няма сьлядоў?

Пазнаўшы зайца па губе,
Вам Жмудзь пад нос паднесла дулю,
Як Беларусь вы на сябе,
На край літвінаў нацягнулі.

Вы разлучылі дух з крывёю
І, абрусеўшы пад Масквою,
Пад назвай, дадзенай Масквой,
Ня сталі нават маскалямі,
А толькі назваю адной —
І тая назва стала вамі.

Вы — беларусы? Хто такія?
Ёсьць Польшча,
Жмудзь,
Літва,
Расія —
Як вы ўшчыміліся сярод?
Адкуль зьявіліся? З балот?
З чаго зьляпіліся? З туманаў?..
Такіх падмен,
Такіх падманаў
Ня ведаў ні адзін народ.

І што цяпер? Хай так і будзе,
Абы ня горш? Вы што за людзі:
Вам звацца хочацца людзьмі,



Ці імі быць,
Ці біцца ў грудзі —
Ці ўстаць за крэўны край грудзьмі?

*“Дзеяслоў”, 24.12.2013*

**Алесь Разанаў**

**Слуп**

Старaслявянскі *столпъ* , нібы святочны стол, прываблівае да сябе людскія *толпы*.

Украінскі *стовп*, нібы пост, “стопае” ўсіх, хто ідзе, і таму ён – сто, і таму ён – стоўпішча.

Рускі *столб* стаіць пасярод дарогі, і той, хто разбівае аб яго лоб, лаецца: “Асталоп!”, а хто блытаецца ў трох соснах, вітае яго: “Апостал!”.

Сербскі *стуб* – тубылец: выступаючы над зямлёй, нібы ступае, ён нібы студня, уваходзіць у глыбіню.

Літоўскі *stulpas* адтуль і адсюль затуляе сваім тулавам Летуву ад непажаданых наступстваў.

Беларускі *слуп* лупаціцца ў наваколле, спрабуючы даўмецца, чаму ён усім слугуе, а ўсе яго лупцуюць.



**Рыгор Барадулін**

**Быць!**

Быць беларусам –
Гэта значыць,
За родны край згараць на дым,
Па-беларуску чуць і бачыць
На гэтым свеце і на тым.
Быць беларусам –
Гэта значыць,
Свайго ні гуку не забыць,
Усё чужое перайначыць,
Каб Беларусі вечнай быць!

*Барадулін Р. Выбранае. Мн., “Кнігазбор”, 2008.*

**Да беларусаў свету**

Беларусы ўсіх краёў яднайцеся!
Нас няшмат, а будзе менш яшчэ,
Як адступім, зломімся пад націскам,
Як ад нас рашучасць уцячэ.

Праз усе вякі нас толькі ціснулі
І хадзіць хацелі, як па тлі,
Нас душылі волгамі і віслямі,
Кожны тужаў зашмаргнуць пятлі.

Нас турнулі з Бацькаўшчыны, з Дзедзіны,
Нам, панам крывіцкае зямлі,
Кожнаму Чарнобылі адведзены,

Маем права мы на мазалі.
Нас палілі, катавалі, праталі,
Малацілі нас, нібы кулі,
Каралі, забойцы, імператары
І бацькі працоўных мас,

Калі Беларусь, як палатніну, кроілі
На мундзіры ды на каптаны,
Каб магілы з нашымі героямі
Уціскалі валуны-маны.

Над святынямі пазруйнаванымі,
Паклянемся дбаць пра карані.
Будзем Янкамі, а не Іванамі,
Што ня ведаюць свае радні.

Працавалі мы на ўсе імперыі,
Папрацуем на сябе, браты.
Дык адродзімся душой і вераю.
З намі Бацька Бог
І Дух святы!

*1992*

*Барадулін Р. Выбраныя творы. Мн., “Кнігазбор”, 2008. С.110.*

***

Дзімітру Паўлычку

Сплыве па Дняпры
Набрыдзь,



Навалач,
Хлюсь.
Майдан праз вякі
Прывітае быліна.
Не схіліць чало
Спадырыня Беларусь,
Незалежная, як жыццё,
Нэнька Украіна.

*11.11.2014*

*Дзеяслоў. №2(69). 2014. С.32*

**Генадзь Бураўкін**

**Народ мой, дзякую табе**

Народ мой,
дзякую табе,
Што і на міг мне не дазволіў,
Каб я кагосьці абязволіў,
Жыў у кагосьці на гарбе,
Што ў радаслоўную ўпісаў
Не гандляроў і прайдзісветаў,
А плытагонаў, і паэтаў,
І штукароў ганчарных спраў.

Народ мой,
дзякую,
што ты
Велікадушна даў мне ў рукі
Не алебарды і шчыты,
А лемяхі і першадрукі,
Што нашаптаць мне не забыў
Не грукатню бравурных маршаў,
А задуменнасць песень нашых,
Дзе столькі болю і жальбы.

Народ мой,
дзякуй,
што нідзе
Мяне балюча не ўпікнулі
За твой далёкі век мінулы,
За сённяшні твой сіні дзень.
І аднаго хачу ў жыцці,
Каб ты не паглядзеў з дакорам,



Каб за мяне ніколі сорам
Табе душу не засмуціў.

*Бураўкін Г. Варта вернасці. Мн., 1978*

***

Даўно мне ўсё з маёю доляй ясна.
Даўно ўжо адчуваю, як віну,
Што сёння я трагічна несучасны
І што мой час бязлітасна мінуў.

У жорсткі век махлярства і адкатаў,
Калі падман паўзе з усіх куткоў,
Чакаць не варта міласці ад катаў
І міласэрнасці ад жабракоў.

Усё ў жыцці цяпер ідзе іначай.
Спраўляе баль нахабства і “бабло”.
Грахі і прымхі маладосці нашай
Сышлі ў нябыт, як іх і не было.

Не веру, што зратуюць ад адчаю,
Маю душу ці поп, ці муэдзін…
Адно мяне хоць трохі суцяшае,
Што я такі на свеце не адзін…

*19-20.08.2012, Крыжоўка.*

*Бураўкін Г. Нагаварыцца з зоркамі. Мн., “Кнігазбор”, 2014.С.95*

**Юрка Витьбич**

## Мы дойдем!

Когда-то в прошлом обвила вас, подобно хмелю, неповторимая любовь. С того времени на суровом кремнистом пути остыло сердце, но любовь эта навсегда осталась с вами, как остается под толстым и холодным льдом бурный и неудержимый поток. Кажется, ее звали Марыля, а, может быть, иначе. Ее имя знаете сегодня только вы один.

Порою, в минуты поисков прошлого, вы радостно вздрагиваете, заметив впереди знакомую женскую фигуру. Вы невольно прибавляете шаг и, поравнявшись, сразу убеждаетесь в своей ошибке. Нет, это не она. Она имела привлекательное славянское лицо с тонким очертанием губ, с синими задумчивыми глазами, и волосы ее напоминали лен. Эта не она, не та. А иногда донесется до вас издали знакомый смех. Вы взволнованно спешите туда, откуда он долетел до вас и, еще не дойдя, останавливаетесь. Нет, это тоже не она. Ее смех напоминал и журчание лесной криницы, и песню жаворонка над нивой, и эхо далекой свирели. Это не она. Это не Марыля.

Почему же удивляются иностранцы, когда заметят, что мы с юношеским пылом спешим к как будто знакомым рекам, а потом смущенно смотрим на их берега. Кому-то из нас сперва вспоминается тихий Сож под седым Кричевом, кому-то быстрая Западная Двина под всегда непокорным повстанческим Велижем, а кому-то кажется, что это — овеянный преданиями батька Неман осторожно огибает порожденное им Гродно. И только очутившись на берегу, мы убеждаемся, что это немецкий идиллический Реген плывет к Дунаю, отражая в себе развалины замков



Оберпфальца, что это американский рыжий от нефти Делавер спешит чрез прокуренную фабричным дымом Пенсильванию, что это австралийский Муррей скатывается с возвышенности Уэлса к низинам кенгуровой Виктории. Не плывут по ним лайбы и плоты, не склонились над ними плакучие ивы и березы и не омывают они святые Борисовы камни. Нет, это не Сож, не Двина и не Неман...

Почему же они удивляются, когда мы, увидев впереди холмы, быстро взбегаем на них, а потом с недоумением осматриваемся вокруг. Одним из нас показалось, что это Витебская гряда, другим, что это Новоградский Горб, а третьим вспомнились живописные Панары под Вильно. Но с них мы видели не придорожные кресты и приречные курганы, не городищи и часовни, а небоскребы Нью-Йорка, копи Льежа и доки Буэнос Айреса. Нет, это не Витебская Гряда, не Новоградский Горб и не Панары...

Почему же удивляются они, когда мы, дети извечных пущ, увидев лес, бросаемся в его объятия и сразу же оставляем его. Одни из нас вначале вспоминают Беловежскую пущу, другие — Налибоцкую, а третьи — Оковский Лес. Но в действительности - это Иеллоустонский Парк на границе Вайоминга и Монтаны, а, может быть, амазонские джунгли Бразилии, если не канадийская тайга. Здесь не бродяжит зубр, не пророчит судьбу кукушка и не краснеет, словно облитый кровью, тернистый шиповник. Нет, это не Беловежа, не Налибоки и не Оковский Лес…

Почему же удивляются иностранцы, когда мы, услышав далекий звон, набожно поднимаем руку, чтобы перекрутиться и неожиданно опускаем ее. Нам кажется, что это колокола полоцкой Святой Софии, или минской Желтой Церкви, а, может быть, костелов Вильны, и Божья Матер с Острой Брамы осеняет нас своим омофором. Но ведь это

только кажется. Незнакомые праведники смотрят каменными глазами на наше бездомное кочевье.

И мы идем дальше. Идем и днем и ночью. Идем и летом и зимой. Идем и в бурю и в затишье. Мы несем с собой в своих заплатанных котомках неутолимую печаль, большую, чем Гималаи и Атлантика. И не может быть, чтобы в конце-концов мы не дошли до своей неповторимой любви, до синеокой Белоруссии. Ведь наша любовь к ней настолько велика, что должна осуществиться и наша надежда. Но я вижу, что спазма неожиданно сжала ваше горло и задрожали ваши губы. На наших ногах кровь, и кровью истекают наши сердца. Так дайте руку и пойдем вместе дальше. Вон, видите там, далеко-далеко, где ясное небо, снова синеют реки, чернеют леса и возвышаются холмы.

Мы дойдем! Вне всякого сомнения, дойдем! Помоги нам, Бог!

*17.02.1953*



**Масей Сяднёў**

**Калі я буду паміраць**

(…) У Судны дзень спытаюцца ў мяне,
апроч бацькоў, ці я любіў сваю Айчыну?
Скажу, любіў яе таксама над усё,
І гэта пацвярджу сваёй калымскаю пакутай.

Яшчэ хіба спытаюцца ў мяне,
Ці хто здраджаў мне? Адкажу:
уся зямелька нашая набракла здрадай.
Ды спахвачуся тут я і пачну:
О, не! О, не! О, Божа, што я гавару?
Ёсць у мяне Адна... Адна-адзіная,
што не здраджала мне. Вяла мяне, адданая,
пуцінаю, прадвызначанай Ёю.
Я слухаўся яе, і, шчырая, Яна не раз
мяне на гібельнай дарозе ратавала.
Я прызнаваўся у каханіі Ёй
і прысвяціў адзінай Ёй
усё, на што яна мяне натхніла —
ракі маёй вандроўнай песні.
Мо калі чулі іх? Яны
на мове матчынай маёй.
Дух гэтай мовы матчынай маёй
У далячынь завоблачную ўзносіць,
туды, дзе райская лагода і суцешнасць.
Там Усявышняму Яна хвалу складзе,
як яна тут і на зямлі складала...

Калі я буду паміраць, канешне ж,
я не забуду вас, мае сябры, сяброўкі.

Жывеце весела на гэтай на зямлі і дбайце
пра лёс краіны нашай занядбанай і мяне,
не помнячы грахоў маіх, часамі памяніце.
Я буду *стуль* вам слацьме прывітанні,
асветленыя сонцам райскім, а калі
надыдзе час вам у маю дарогу,
на райскім на парозе буду вас страчаць.

*1994, Глен-Коў, ЗША*

*Літаратура і мастацтва, 15 ліпеня 1994*



**Янка Брыль**

**Не быць вахлакамі***

Учора былі нанесены дзве чарговыя раны майму нацыянальнаму пачуццю, а трэцюю – нанёс сабе я сам. У бухгалтэрыі літфонда БССР мяне папрасілі заяву напісаць па-руску, каб ім было лягчэй чытаць… І я напісаў, а потым многа і балюча думаў пра тое, што многае мы робім самі, што самі мы вахлакі. І гадка было на душы, і думалася, што трэба не быць абыякавым да пытанняў, якія толькі мы, відаць, лічым няважнымі.
*1961*

***

Ціхі Буг каля заставы. Глядзеў на Польшчу, як нядаўна глядзеў на Кітай цераз Амур. За Бугам – беларуская вёска, куды цяпер цёткам дазволена хадзіць да сваякоў. […] Граніца – хутчэй у Кобрыне, дзе культ душыцеля Касцюшкаўскай волі – Суvotраў, які не мае нічога супольнага ні з нашай, ні з польскай інтэрнацыянальнай будучыняй, сучасным імкненнем да яе (калі яно не словы, а імкненне)…
*1962*

***

Намёк, які трэба расшыфраваць. Як я адчуваў сябе на першай сесіі, у ролі “члена ўрада”, у ролі апарата для падняцця рукі і пляскання далонямі. Пагана адчуваў, было няёмка і сумна, асабліва пасля таго, як на паседжанні камісіі па культуры нейкая фіфа-настаўніца выскачыла з першым пытаннем: “А что же будем делать с белорусским языком”…
*1963*

***

Толькі што вярнуўся з Масквы. […] Вось што хацелася запісаць яшчэ. Ад'язджалі пазаўчора ад Мінска. Рускі хлопец, ну, малады мужчына, нядурны, відаць, чалавек і на працы, і дома, і наогул, - а ўсміхнуўся і паведаміў мне ледзь не з палёгкай: "Ну вот, наконец-то не надо будет больше слышать белорусского языка…".

Да чаго ж яны ўсё-такі сталі адкрыта нахабнымі. Нахабства мацнейшых, каму не пагражае кара і сорам за гэта. Не толькі гэты, як потым, калі ён атрымаў ад мяне разоў некалькі пад дых, аказалася – абмежаваны чалавек, прасцяк, але ж і людзі інтэлігентныя. У Кактэбелі, абедаючы разам за сталом, драматург Любімава спыталася ў мяне, ці ёсць у нас у Мінску беларускія школы. Кажу, што няма. І яна мне, беларусу, беларускаму пісьменніку – спакойна так, культурна – кажа: "А это и правильно. Будут лучше говорить по-русски…"

*1965*

***

Раней я думаў так: калі б беларусу *дазволілі* быць беларусам, які гэта быў бы цудоўны беларус!.. Днямі на сесіі Вярхоўнага Савета, слухаючы, як здорава рэжуць некаторыя кіраўнікі па-беларуску, нават не проста з паперы, а так сабе, адрэгаваў свой ранейшы, горкі "афарызм" наступным чынам:

Калі б беларусу *загадалі* быць беларусам… і г.д.

*1966*

***

Назву вёскі Іконы на Барысаўшчыне, па загаду самаго прэзідэнта, што заязджаў туды, змянілі на Іканы, з націскам на "і". Барацьба з рэлігіяй? Чым маліцца на іконы, лепш *ікаць* ад гарэлкі.

*1973*

***



Польскае консульства – побач з Домам літаратара. На іхнім плоце – радасны стэнд: "Polak i Rosjanin w kosmosie!". Наш цудоўны Клімук, што ў палёце быў, з кнігаю Коласа, і другі беларус – Кавалёнак, імем сваім – беларусамі – дома, у СССР, не названы ані разу.

Яшчэ адно сведчанне няправільнай палітыкі. А мы, асуджаныя на асіміляцыю, усё яшчэ пішам… Адказваючы за сваё, не вінаватыя ў тым, што асабіста "не можам перайначыць".

*1978*

***

Спусціўшыся з групай памочнікаў на калгасны луг верталётам, Машэраў не збянтэжыўся, што луг далей быў мокры: разуўся, падкасаўся і пайшоў. Памочнікі – таксама. І тут прыбег старшыня калгаса. Зняў гумовыя боты, падкасаўся і за ім. Гэта – найцікавейшае.

*1979*

***

Як гэта цяжка – быць беларускім пісьменнікам у нашай мелкай, бесхрыбетнай правінцыі, у блакадзе "моўнага" бар'ера, без роднага дома, які ёсць у літоўцаў, армян, эстонцаў… У іх жа няма майго, нашага адчування: як пад нагамі адсоўваецца бераг, як звужаецца кола чытачоў, як мова наша адыходзіць…

*1980*

***

У Сямірэччы, на абласным святе чабаноў латыш В. пачаў сваё выступленне вядомым: "Я буду гаварыць на мове Леніна…".

Сакратар абкама, казах, у вайну баявы лётчык, засмяяўся: "А вы что думаете – мы здесь спрятались в горах, чтобы поговорить на своём языке?.. ".

*1982*

***

Як ні марудна пакуль што разгортваецца наша нацыя, нашае адраджэнне – ужо адчуваецца, што нас ўсё больш ды больш, і трэба думаць пра свой удзел, сваё месца, як пра месца *ўдзельніка* на сваім участку, работніка, які не павінен драмаць, каб не адстаць ад агульнага працэсу.

Пра гэта думаю даволі часта і часам з трывогай.

*1994*

***

На рэспубліканскай канферэнцыі абаронцаў міру малады актывіст зачытвае спіс прапанаваных у прэзідыум. Пра мітрапаліта, сівабародага велічнага святара ў белым клабуку, ён чытае: "… От Московского матриархата…".

Відаць, нядаўна канчаў таварыш партыйную школу.

***

Ян Павел Другі, выступаючы ў Вільні па радыё, па-беларуску і асабліва па-руску гаварыў з выразна польскім акцэнтам. Бо тут не выручае, - папу, і літаратара і навукоўца па сумяшчальніцтву, ратуе таленавітасць і праца над сабой, чаго яму, аднак, на ўсіх усюды не хапае. У Польшчы я чуў у восемдзесят сёмым: "Пан Буг ест ушэндзе, а ойцец свенты был *ушэндзе*". Толькі, на жаль, не ў нас. Хай бы ж прыехаў, засведчыў павагу да братняй мовы – хоць і з акцэнтам.

***

Добра думалася, як шчыра і плённа працуе для нашай літаратуры рускі Генадзь Кісялёў, як працавалі татарын Сцяпан Александровіч, яўрэй Рыгор Бярозкін…

***



На юбілейнай вячэры ў райцэнтры абруселая дамачка цераз стол: "Иван Антонович, ведь в Белоруссии националистов нет?".

- Ёсць, - адказваю. Толькі, на жаль, малавата. Назавём іх, патрыётаў, так.

***

Колькі нагаворана з іхняга і з нашага боку пра неабходнасць аб'яднання, але ж ні слова – ні ў друку, ні па тэлевізары ці па радыё – пра тое, што апаганьваецца, ліквідуецца мова нашага народа, найгоршым, найзлачыннейшым, як дагэтуль, чынам. Такое жахлівае "між іншым"!

***

Добра, хораша, а потым такі чалавек чалавецтва – Растраповіч – кажа, што на Украіну ён са сваёй бандурай не паедзе: "Подожду, пока отдадут Черноморский флот".

Чым не "подбрюшие России" ў Салжаніцына, - пра рэспублікі Сярэдняй Азіі, суверэнныя краіны з многавекавой гісторыяй?..

Ах, вялікія людзі мастацтва, - і чаго вам у палітыку?!

***

І такое днямі падумалася: якая ж кніга будзе ў мяне як чытача апошняй — значнае штосьці або і так сабе?..

А чытаю значнае. У «Скарынічы» (выпуск 3) — «Навальніца» М. М. Улашчыка. Пасля пазначанага ў канцы: «На гэтым рукапіс абрываецца» выразна ўявіў старога, якім бачыў яго, здаецца, апошні раз, у Каралішчавічах. Магутнага чорным памерам паліто, то сур'ёзна, нават нібы панура маўклівага дзеда, то няспешна, талкова гаваркога, каля ганачка ў вераснёўскім прысмерку. Гэта быў верасень восемдзесят трэцяга, канец месяца, мяркуючы па тым, што

мы прыехалі групай сяброў ушанаваць мілую Ніну Мацяш з 40-годдзем. Дачытаўшы яго незаконачаную аповесць, я падумаў, што, можа, якраз ад гэтага рукапісу ён, наш паважаны Мікалай Мікалаевіч, і выйшаў на гоман перад ганкам, зрабіўшы перапынак у сваёй працавітай самоце? Стан такі ведаю з павагай.

«Скарыніча» мне прывезлі ад Каўкі з Масквы, а з канца чэрвеня да палавіны лістапада ў Скарынаўскім цэнтры ляжала, чакаючы мяне, другая кніга, таксама ад Аляксея Канстанцінавіча: «Русь — Літва — Беларусь». Дзякуючы яму пісьмом, я напісаў, як гэта ў нашым шалёным часе хораша — шчыра-прыязная гутарка разумна дарослых дзяцей розных народаў, тут — рускага, украінскага, польскага, якім ёсць што сказаць пра вялікага сына Беларусі. Упершыню так кажу пра яго, шматпакутнага, непераможна працавітага, па-народнаму мудрага, таленавітага чалавека, з якім і мне пашчасціла сустрэцца ў жыцці, у абодвух пад канец яго. Належна разумець значэнне гэтага чалавека прыходзіцца ўжо наўздагон.

Падобнае адчулася праз некалью дзён у падоранай Зінаю Мажэйка кнізе «Белорусская этномузыкология», чытаючы пра Генадзя Цітовіча. Побач стаяў у кнізе артыкул пра Шырму, аднак падумалася, што пра Рыгора Раманавіча я ведаю дастаткова, і пачаў з Генадзя Іванавіча, каб заглянуць і на другі бок медаля ў таго, хто бываў такім весела-«брахлівым» на нашых сяброўскіх сустрэчах. Побач былі таксама велічныя вобразы яго папярэднікаў – Янчука, Федароўскага, Кольберга, Машынскага, у якасці дастойных сведак і яго, Генадзевай, значнасці.

**/ Выбрана з кніг пісьменніка: "Вячэрняе" (1994), "Дзе скарб ваш" (2003), "З людзьмі і сам-насам" (2003).*



**Пімен Панчанка**

**На парозе трэцяга тысячагоддзя**

Ці жыццё маё, ці выхаванне,
Толькі ў сэрцы рэзка правялі
Грань паміж біблейскімі валхвамі
І пастухамі роднае зямлі.

Грань паміж прамоўцамі застольнымі
Што ірвуцца вечна да трыбун;
І гадамі горкімі застойнымі,
Што народ хацелі ўзняць на бунт.

Разбярыся, палічы, падумай,
Дзе пачаткі тут і дзе канцы...
Той вайны начатак, поўны тлуму,
Помняць пасівелыя байцы...

Развялося розных экстрасенсаў,
І прарокаў грозных не злічыць.
Ды жыццё, відаць, не мае сэнсу,
І не ведаеш, як раны залячыць.

Племя дармаедаў... З дэфіцытам
Лезе так нахабна да людзей.
Божа, дзе знайсці такое сіта,
Каб прасеяць бурны бег падзей?

На марозе людзі у трывозе,
І мяне глынуў наш мінскі вір...
Хто там едзе ў «тачцы»?
Мафіёзі.

Хто насустрач прэцца?
Рэкецір.

Скрозь такая сумятня, неразбярыха...
Што нам адрываць: талон, купон?
Дзеці спяць,
А побач ходзіць ліха
За Чарнобылем атрутным наўздагон.

Гнеў і лютасць спеюць у народзе...
І ў каго спытацца, як сустрэць
Трэцяе тысячагоддзе?
Ці ў дваццатым веку дагарэць?

*1995*



**Ніл Гілевіч**

**Афарыстычныя радкі**

У век рэнегацтва
І гібельнай здрады, калі
Зрываюцца душы,
Не справіўшыся з ачмурэннем,
Адзіны ёсць выбар –
Трымацца бацькоўскай зямлі,
Як дрэва карэннем.

***
Няма Радзімы ў злыдняў хіжых
І Маці ў нелюдзяў – няма.

***
Шлях адзін: не ступай у чыжыя сляды
На бацькоўскай зямлі запаветнай.

***
А сваё? А хто мы самі?
Што мы – з роспач-бяды
Паўтыкаліся насамі
У суседскія зады?

***
Калі ёсць народ, то мова
Быць павінна, бо яна
Ёсць яго самаахова,
Без чаго яму – хана.

***

Ах, Расія ты, Расея,
Ці не чула ў гамане:
“Хто бяздумна вецер сее –
Буру страшную пажне!”?

***
Да чаго ж у нас пагрузлі
У халуйскі глей чыны!
Адраджэння Беларусі
Горш баяцца, як чумы!

***
Быў час, быў век, была эпоха,
Калі, наеўшыся ў адвал,
Сёй-той прыкінуў, што панчоха –
Зусім не кепскі ідэал.

***
Равуць вятры, грымяць грамы,
Пыл засціць вочы нам і ўсё ж,
І ўсё ж мы дойдзем, дойдзем мы
Да Беларусі.

*Народная воля, 30 верасня 2014*

**На закрыццё газеты “Раніца”**

“Зачэм рабятам засараць мазгі,
Какойта беларускай газяцёнкай?
Зачэм? Штоб тут свядомыя ўрагі
Пладзіліся ячшэ з малых дзіцёнкаў?”
*2011 Гілевіч Н. Эпіграмы. Мн., 2014*



**Які мы народ**

Народ мы вельмі старажытны,
Ад праславянства – па крыві,
Натурай – сціплы, неамбітны,
Душой – не хітры, не крывы.

У морду з ходу біць не любім,
Больш любім трапна абазваць.
(Ну, калі трэба, дык і ўлупім
Калі ўжо здзеку не стрываць)

Мы ў справядлівасць цэнім веру,
У Божы суд – па над усім.
А што ад д’ябла – на халеру!
Мы не хаўруснічаем з ім!

Мы – люд руплівы, працавіты,
Не любім плесціся ў хвасце,
І лёс наш намі не прапіты,
Хоць страх пагібелі расце.

Яшчэ ў нас ёсць на ўздым надзея,
На адраджэнне маем знак.
І ўсім зычліўцам-дабрадзеям,
Як і адвеку, кажам так:

Мы ў вас не просім піць і есці,
Прыдбаем самі для сябе.
Адно – не лезьце к нам, не лезьце:
Ні па траве, ні па трубе!

*2009*

## Развітанне з Паэтам

"Край гасцінца старога" сцішыўся здарожаны Паэт-Песняр - Мысляр зямлі беларускай - Годны наступнік Багушэвіча, Купалы, Коласа, Гарэцкага, творчы пабратым Барадуліна, Стральцова, Бураўкіна, Быкава. Дзве найсвятлейшыя іпастасі скрозь, да скону, хвалявалі яго трапяткое сэрца, лірычную душу, будзілі неспакойны розум. Гэта - абранніца па жыцці, працятая як і ён беларускім клопатам, Ніна Іванаўна Кавалёва - Да яе з "Флейтай самоты" падаецца асірацелы муж. І - маці-Беларусь, рыцарскаму слугаванню якой Сын аддаў свае боскія таленты, мужна выстаяў грамадзянскую варту вернасці.

Сёння краіна ў жалобе. Тая краіна, што духоўна не атлусцела, не анямела ў слове родным, не засмецілася хлуснёй і нагаворам. Смуткуе не толькі Беларусь геаграфічная. Смуткуюць беларусы Масквы, Расіі, Літвы, Польшчы, Чэхіі, Славакіі, Славеніі, Балгарыі, Амерыкі - усюды дзе гучыць, лунае працінальнае слова і песня, спавядальная думка Ніла Гілевіча.

Цяпер на развітанне паўтарацьме яго палымяны покліч - запавет нашаму нацыянальнаму Будамжыццю: не спыняць нас ні ветры , ні грамы. Святой дапасці мэты мусім. З Табою, Волат, верым, "дойдзем, дойдзем мы да беларускай Беларусі!". Бывай наш родны, наш Народны. Жыве Беларусь!

*Аляксей Каўка*
*Менск, Кальварыя*



**Яўгенія Янішчыц**

## Зона святла

Зялёны шум. Дарогі палатно.
І прагне, і шукае слова – слова.
Яшчэ не спіць у Мележа акно,
Яшчэ святло не гасне ў Куляшова.
Зялёны стятлафор а ці імгла,
Наперадзе дыстанцыя ці фініш?
Жыццё,
          жыцця ты іншага не мысліш
На катарзе любові і святла!
Аціхнуць спрэчак трэскі. Схлынуць стрэсы.
Дарога сцежку выбера ў глушы.
І некаму пажаліцца на бессень,
На непагоду ў свеце і ў душы.

*1986*

**Міхась Стральцоў**

***

Кіну, рыну – пакіну
Гэты дом на гары.
Горкі дым успаміну
Хай развеюць вятры.

Хіба гэтак няможна?
Дзе пасцелецца цень
Ад капы прыдарожнай,
Там і будзе пасцель.

Мо на Шчару, ці Піну,
Ці на Пціч, Вілію,
А мо на лугавіну
Я слязу пралію, -

Каб зрабілася парай
Над ракой, над ракой,
Каб здружылася з хмараў
Талакой, талакой, -

І каб коні крычалі,
Прадчуваючы гром,
Каб на дальнім прычале
Здрыгануўся паром!

*1984*



**Святлана Адамовіч**

**У тэатры – “Князь Вітаўт”**

У тэатры прэм'ера... Значыць, поўная зала...
І ўдзячныя вочы яе гледачоў.
У тэатры “Князь Вітаўт”: закаханая пара
У купальскую ночку сустрэнецца зноў.

Затрымайся, імгненне! У душы захавайся!
І збалелае сэрца суціш, супакой...
Ты сівой даўніны, беларус, не цурайся,
Тут са сцэны яна пагамоніць з табой.

Стрэнуць зноўку цябе слаўны Вітаўт, Ягайла…
Прыгажуня Алёна ахвяруе сабой...
І нябачная, лёгкая фея Кахання
Дакранецца пяшчотнай жаночай рукой.

О, мінулага постаці! Не адыходзьце!
Вашай мудрасці сёння нам так не стае!
У легендах да нас на спатканне прыходзьце.
Як душу зберагчы? Навучыце мяне...

Зноў Любоў пераможа і нянавісць, і здраду,
Пераможа няўмольнага часу хаду...
І Ягайла пачуе ксяндзову параду,
Вітаўт-князь адвядзе ад краіны бяду.

Брат не пойдзе на брата, Княства - супраць
Кароны...
І яшчэ шмат стагоддзяў Радзіме квітнець!
Хай чужынцы не шлюць векавыя праклёны:

Незалежнасць заўжды Беларусь будзе мець!
І адчуем мы гонар за краіну святую,
Да "купалаўцаў" у госці завітаем не раз,
Каб запоўніць у сэрцы мясцінку пустую...
... У тэатры "Князь Вітаўт". Прэм'ерны паказ.

*Адамовіч С. Роздум. г.Чэрвень, 2005*



**Уладзімір Арлоў**

**Незалежнасьць - гэта...**

Незалежнасьць - гэта калі ты зьявісься на сьвет у радзільні, дзе няма сама стэрыльных на зямлі прусакоў, затое ёсьць аднаразовыя шпрыцы й пялюшкі.

Незалежнасьць - гэта калі твой бацька пойдзе ў ЗАГС, каб атрымаць дакумент, што ты сапраўды нарадзіўся і што цябе назвалі ў гонар дзеда Рыгорам, і кабета, якая сядзіць там, спакойна выпіша яму гэты дакумент, а ня выцягне са стала «Справочник личных имён народов СССР» і ня будзе, размахваючы ім, гістэрычна тлумачыць твайму бацьку, што ён можа без праблем назваць сына Файзулой ці нават Мамаем, а вось Рыгорам - ня можа, бо такога імя проста не існуе ў прыродзе (а существует нормальное человеческое имя Григорий).

Незалежнасьць - гэта калі ты пойдзеш у школу і цябе будуць вучыць на тваёй мове (а дзяўчынку Гражынку, якая падабалася табе ў дзіцячым садзе, - на яе мове, а твайго суседа хлопчыка Мішу, тату якога завуць Ісакам, - на ягонай, а другога твайго суседа хлопчыка Алёшу, бацькі якога прыехалі сюды, бо ў іхнім горадзе на Волзе, каб купіць малому малака, трэба займаць чаргу а пятай гадзіне раніцы, - на ягонай). Цябе будуць вучыць на тваёй мове, і дзеля гэтага тваім тату й маме ня трэба будзе ўсё лета зьбіраць па кватэрах заявы бацькоў, якія не тое каб не хацелі вучыць сваіх дзетак так, як твае тата й мама, а проста ніколі пра гэта ня думалі, бо вырасьлі пры інтэрнацыяналізьме. І гэтыя заявы не трэба будзе губляць тры разы дырэктару й два - сакратарцы, і першы верасьнёвы дзень ты не пачуеш на ўрачыстай лінейцы, што «год от года хорошеет материально-техническая база нашей школы», а

прыйшоўшы ў сваю клясу не даведаесься, што дзякуючы няўхільнаму клопату партыі й ураду, у вас на ўсю клясу толькі адзін лемантар і дзьве «матэматыкі» на роднай мове.
Незалежнасьць - гэта калі твая дружына ня будзе змагацца за права насіць імя Паўліка Марозава ці Аляксандра Мясьнікова, бо ўсе вы цудоўна ведаеце, як любіў свайго татку Паўлік і як любіў беларусаў Мясьнікоў.

Незалежнасьць - гэта калі ты будзеш студэнтам і на лекцыі па вышэйшай матэматыцы твой смуглявы раўналетак з Мадагаскару, які вучыцца за грошы сваёй, а не тваёй краіны, нахінецца да цябе і запытае, што значыць слова «імавернасьць», і ты па-французку растлумачыш яму.
Незалежнасьць - гэта калі ты будзеш служыць у войску не далей за памежны горад ці вёску твае зямлі, затое табе ніколі не загадаюць фарбаваць траву і прыбіраць тэрыторыю «вот от сюда и до обеда». У нядзелю ты зможаш прыехаць да бацькоў ці да свае дзяўчыны, затое ніхто не назаве цябе «бульбашом», а твайго сябра - «черножопым» за тое, што вы думаеце й гаворыце ў сьне па-свойму, і выдатнікі баявой і палітычнай падрыхтоўкі ня будуць у працэсе гэтай падрыхтоўкі рабіць табе «велосипед», і табе ніколі не загадаюць гастрыць сапёрную рыдлёўку, каб акапацца ў Баку ці ў Тбілісі.

Незалежнасьць - гэта калі твая дзяўчына кажа, што хоча на выходныя ў Вену, і ты з чыстым сумленьнем абяцаеш ёй, што ў суботу вы вып'яце кавы насупраць палацу Шонбрун, і ведаеш, што перад вашай вандроўкаю ніхто не будзе высьвятляць у цябе, ці быў ты ў дзяцінстве жыдом, а таксама, ці быў ты раней за мяжою і калі вярнуўся адтуль, дык зь якой мэтаю.

Незалежнасьць - гэта калі на Дзяды, у Дзень памяці продкаў, ты ідзеш на могілкі й ведаеш, што паставіш сьвечку й пакладзеш кветкі, а ня станеш удзельнікам



выпрабаваньня балёнчыкаў з нэрвова-паралітычным газам ці новае мадэлі гумовага дручка.

Незалежнасьць - гэта калі твой сын прынёс са школы пяцёрку па гісторыі і ты хваліш яго за гэтую пяцёрку, бо ведаеш, што ён атрымаў яе не па тым прадмеце, дзе вучаць пра Лядовае пабоішча і перамогу калектывізацыі, а па тым, дзе вучаць пра Грунвальдзкую бітву, якая ўратавала твой народ ад сьмерці, і кажуць праўду пра тую ўладу, што растраляла твойго дзеда й задушыла голадам тваю бабулю.
Незалежнасьць - гэта калі да цябе завітае сьпявак зь Нью-Ёрку, і ты вып'еш зь ім добрую чарку вішнёўкі, і пасьля ветлівыя дзяцькі ў цывільным не запрапануюць табе падрабязна напісаць, дзе й што вы пілі й каго пры гэтым лаялі.

Незалежнасьць - гэта калі ты пазбаўлены магчымасьці пачуць, як твой прэзыдэнт вучыць з экрану суайчыньнікаў: «Хто как хаціт, той так і гаварыт», бо твой прэзыдэнт - чалавек пісьменны і хоць адну мову ўсё ж ведае.

Незалежнасьць - гэта калі з тэлеперадач і газэт раптам зьнікаюць лісты нястомна-таямнічых вэтэранаў і вусьцішныя паведамленьні пра нацыяналістаў і экстрэмістаў з народных франтоў, якія нават ў начы ня сьпяць, а распальваюць паміж табой, Алёшам і Мішам, тату якога звалі Ісакам, а таксама Гражынаю, якая даўно ўжо твая жонка, міжнацыянальную варожасьць, каб учыніць сярод вас крывавую разьню й пусьціць пад адхон цягнік перабудовы.

Незалежнасьць - гэта калі ніхто ня страшыць цябе, што твой народ ня зможа выжыць без вялікага старэйшага брата, бо ня мае сваіх баксітаў ці алмазаў, і ты разумееш, што зусім дарэмна шкадаваў гарапашных галяндцаў ці

бэльгійцаў, якія ня маюць ні баксітаў, ні алмазаў, ні нават старэйшага брата.

Незалежнасьць - гэта калі велізарныя фуры з надпісам «Центровывоз» (ці бачыў ты хоць раз такія фуры з надпісам «Центроввоз»?) падрулюююць не да чужых, а да нашых крамаў.

Незалежнасьць - гэта калі раптам высьветліцца, што разумныя людзі ёсьць і ў нас, і калі - крый Божа! - выбухне завод ці прычыніцца якое іншае ліха, ня трэба будзе чакаць, пакуль прыедзе камісія з маскоўскіх разумнікаў.

Незалежнасьць - гэта калі на Божай пасьцелі ведаеш, што пасьля таго, як ты памяняеш гэты сьвет на лепшы, на месцы царквы ці касьцёла, дзе цябе хрысьцілі і дзе ты вянчаўся, не выкапаюць сажалку з брудным лебедзем і не пабудуюць басэйн імя XVIII зьезду КПСС, а могілкі, дзе будуць спачываць твае косьці, не зьнясуць і не ператвораць у закіданы пустымі пляшкамі парк культуры й адпачынку імя таварыша Гарбачова або імя таварыша Лігачова.

Незалежнасьць - гэта...

Незалежнасьць - гэта калі ад нараджэньня да скону пачуваесься сваім чалавекам на сваёй зямлі.

Я веру, што калі-небудзь так будзе.

Бо іначай проста ня варта жыць.

*Люты, 1990 г.*



**Эдуард Акулін**

**Рэквіем парэзанаму “Радну” ***

Хоць не калхідскае руно –
Сатканае з суворых нітак –
Ад прадзедаў спакон – Радно –
Наш скарб духоўны
і нажытак.

І гэты скарб на гвалт, на здзек
Пусцілі кніжныя вандалы.
О як пажадна рэзаў-сек
Драпежны нож ад Волі мары…

Не ў кінавары, а ў крыві
Лязо сталёвае кіпела…
На часткі – поўнае Любові
Душу, што ў вершы заляцела.

*2000*

**/ Назва паэтычнага зборніка Э.Акуліна, наклад якога паводле афіцыйнага акта выдавецтва “ПаліБіг” ад 03.03.2000 г. быў цалкам зрэзаны “на макулатуру”.*

**Уладзімір Дарагуж**

**Каменьчыкі з нашага поля**

*Наш аўтар з Чэрвеня (Ігуменя) – сябра маёй маладосці – нядаўна адзначыў пашанотны юбілей. З Масквы падбадзёрана яго нязмушоным экспромтам: "Няхай сабе пярэчыць нехта, Але ўстрапечацца душа, Калі не вуліцай Лібкнехта, А Бальшаком Дарагужа Рушэнцы выйдуць Грамадою Край уздымаць, край бараніць – Балей парыванне святое Ступой чужацкай не стлуміць".*

*Дзе тая Грамада, дзе той Бальшак? Пакуль метафара стане явай – некалі ж стане – Грамадзянін-адзіночка, настаўнік-фізік, краязнавец, літаратар, пільна трымае варту вернасці Радзіме, Беларушчыне. Пажадаем яму надалей непахіснае мужнасці, руплівага неспакою над каменьчыкамі роднага палетка. Крушню з тых апошніх ласкаю Ўладзіміра Георгіевіча прапануем чытачам "Скарыніча". А.К.*

*Чарга па хлеб*

Сярэдзіна дзевяностых... Людна ў краме дрэваапрацоўчага камбіната: са сталіцы прывезлі хлеб. Ён нашмат смачнейшы за мясцовы, ды і таннейшы. Стаю ў чарзе, нягучна перакідваюся некалькімі словамі з суседам. Раптам падскоквае хударлявы мужчына ў жакейцы, гадоў сямідзесяці. Паказваючы на мяне пальцам, крычыць:

- Фашист! Полицай! Он говорит по-белорусски!

Я нічога не адказаў, толькі глянуў нядобра на вар'ята. А той не сунімаецца:

- Вот такие пытали наших в концлагерях!



Тут слова бярэ высокі саракагадовы бландзін, што стаіць перада мною:

- Ну, раньша вы, наверна, не гаварылі па-беларускі…
- Чаму так думаеце? – кажу. – Я роднай мовы ніколі не цураўся... А вы, шаноўны, на якой мове размаўляеце?
- А мы па-нашаму, па-калхознаму…
- Я – настаўнік, - кажу, - і павінен карыстацца літаратурнай мовай, а не трасянкай, як былыя двоечнікі.

У размову ўмешваецца з прыемнай знешнасцю пенсіянерка:

- Вот я родилась в России. Что, прикажете мне учить белорусский язык?! Так ведь и президент наш не любит вашу "мову" и не пользуется ею. Неужто вы умнее его?!
- А хіба ж да ўлады дарываюцца самыя разумныя, адукаваныя і сумленныя? – пытаюся.

Наўрад ці мае словы дайшлі да сэрца і розуму гэтых людзей. Але чарга наблізілася да прылаўка, і мае апаненты, атаварыўшыся, разышліся, радыя што хапіла.

Божа, чаму беларусы дазволілі прыезджым сесці сабе на карак і адракліся ад матчынай мовы? Чаму наш народ жыве толькі "хлебам адзіным"? Пэўна таму, што яго, хлеба, ніколі не было ўдосталь…

*Тамбоўскі сабака*

З маленства ведаю тамбоўскага ваўка, таго самага, які пасля краху камунізму крыўдзіцца, калі яго называюць таварышам. А вось цяпер спаткаў тамбоўскага сабаку.

Закінуў яго лёс да нас, у Беларусь. І хоць пораху ён не нюхаў, вайну бачыў толькі ў кіно, блытаў нейкія паперкі ў ваенкамаце, але даслужыўся да маёра і атрымаў неблагую пенсію, якой пазайздросціць кожны лекар ці настаўнік. У лазні, чуючы маю беларускую гаворку, крычыць:

- У него отец поляк!

Я гляджу на голую плюгавую постаць, і мне хочацца плюнуць у яго чырвонашчокі вусаты твар, у яго нахабныя вочы. Але я раблю выгляд быццам апраўдваюся:

- Ды не... У майго бацькі ўсё ў парадку і з нацыянальнасцю, і з веравызнаннем. Ён праваслаўны беларус... Але чаму вы лічыце, што палякі горшыя за вас, рускіх?

Прыкра, крыўдна бачыць гэтакае “торжество общеславянской идеи”.

*Пенсіянер-дысідэнт*

Калі ў яго запытаеш ”Як жыццё? “– заўсёды адказвае:

- Якое можа быць жыццё пасля шасцідзесяці, ды яшчэ ў наш час.

І, уздыхнуўшы, дадае:

- Скінуць бы гадоў дваццаць... і дыктатара.

*Туман*

Зайшоў неяк у канцы лета на двор да бабкі Ганны і, убачыўшы яе памідоры, ледзьве не заплакаў:

- Фітафтора,- кажу, - пашкодзіла.
- Якая птора?! - залемантавала бабка. – Туман з’еў!.

І вось такія чарговы рэферэндум выйгралі…

*Сардэчныя размовы*

Размовы з гэтым чалавекам я называю сардэчнымі, бо пасля іх у мяне заўсёды баліць сэрца.

Вясковы хлопец, ён завочна скончыў гістфак Магілёўскага педінстытута і вельмі ганарыцца, што мае



адукацыю, аднолькавую з прэзідэнтам. Атрымаўшы пэўную дозу марксізму і абэцэдаршчыны, ён ніколі не паступіцца прынцыпамі, бо захоўвае чысціню сваіх поглядаў і трываласць перакананняў. Гэтаму спрыяе “Советская Белоруссия” – адзіная газета, якую ён чытае, і “Панорама” – асноўная інфармацыйная праграма БТ, якую ён рэгулярна глядзіць. Іншай інфармацыі ён ніколі не меў, ды і не хоча. І старэнькі лямпавы радыёпрыёмнік, які сапсаваўся яшчэ ў пачатку перабудовы, у рамонт ніколі не павязе.

Пакуль ён настаўнік у сельскай школе. Але ягоны кругагляд дазволіў бы яму заняць пасаду калгаснага брыгадзіра, ротнага зампаліта ці нават узняцца на самую вяршыню выканаўчай улады. Ён заўсёды падзяляе думку начальства, трэцца, як кот, ля яго ног і тыграм кідаецца на іншадумцаў. Менавіта на такіх трымаецца рэжым.

Мае словы адскокваюць ад яго што гарох ад сцяны. Дык можа мне плюнуць на ўсё і паберагчы сваё сэрца... Вось яны – сейбіты разумнага, добрага, вечнага...

*У майстэрні*

Здаю ў рамонт чаравікі.

- Вы пэўна настаўнік, - кажа дзяўчына-прыёмшчыца.
- Як вы пазналі?
- А вы размаўляеце па- беларуску.
- Ну, вядома ж, я не прэзідэнт...

*Хто ў нашым доме гаспадар?*

Неяк у інтэграцыйным запале кіраўнік дзяржавы прамовіў:

- Беларусь, Белорусь, Белоруссия… Это та территория, где русский человек чувствует себя как дома. Даже лучше, чем дома.

А як адчувае сябе беларус у Беларусі?

Прадуктовая крама. Стаю ў чарзе, ціха размаўляю з суседам. Абураецца сівая жанчына, што стаіць спераду:

- Что вы тут разговариваете по-белорусски?! Я русская! Тут все русские!

Я запярэчыў:

- Не, - кажу, - у нашым раёне рускіх толькі чатыры працэнты, а беларусаў дзевяноста два.

- Вот, уже подсчитал...

- Без мяне падлічылі.

- Подличили... подличили... – передражнівае старая. – Если хочешь говорить по-белорусски, уезжай в Польшу или Штаты!

- Гэта ў вас, рускіх, ёсць другая радзіма – Расія. Там, за Смаленскам. У нас, беларусаў, радзіма адна – Беларусь. Гэты кавалачак Зямлі даў нам Бог, і мы будзем жыць тут вечна!

- Подохнете! - сыкнула старая.

- Выжываем! – упэўнена адказаў я.

*Сумная вестка*

Сумную вестку прынесла радыё. Міністэрства асветы выкінула з праграмы сярэдняй школы творы Наталлі Арсенневай, Ларысы Геніюш, Рыгора Барадуліна, Ніла Гілевіча, Масея Сяднёва. “По требованию родителей», якое зразумела ініцыявалася зверху.



*Адносна русафобіі*

Калі мяне абвінавачваюць у русафобстве, паўтараю словы, сказаныя вялікім сынам беларускай зямлі, нашым сучаснікам:

- Я паважаю рускіх людзей, люблю рускую мову, высока цаню рускую культуру. Але я выступаю супраць вялікадзяржаўнай, імперскай палітыкі расейскага кіраўніцтва.

*Дзе Пазьняк?*

- Дзе ваш Пазьняк?!

- Нічога... Ленін таксама доўга быў у эміграцыі. А затым вярнуўся, напісаў “Апрельские тезисы” і ўчыніў Кастрычніцкі пераварот.

*Пра меншасць*

Ісус Хрыстос таксама быў іншадумцам, апазіцыяй. І натоўп, падбухтораны чыноўнікамі і папамі, лямантаваў: “Распні яго!”. А выявілася, што Ён – Збавіцель, Сын Божы.

Большасць – гэта напоўп, якім маніпулююць розныя прахадзімцы. Трэба пагэтаму прыслухоўвацца да меншасці. Без апазіцыі дзяржава не можа нармальна функцыянаваць.

*Пачуццё сораму*

Кожная нацыя хоча быць не толькі сытай, але і вечнай. Мы, ліцьвіны-беларусы, існуем на гэтым свеце, пакуль помнім сваю тысячагадовую гісторыю і пакуль гучыць наша родная мова. Інакш Беларусь стане адсталай правінцыяй Расеі, а мы знікнем як нацыя, ператворымся ў танную

рабочую сілу для расейскіх алігархаў і гарматнае мяса для расейскай ваеншчыны.

*Старая дурніца*

Яна:
- Не дать ему пенсию: он не любит президента!
Ён:
- У мяне нармальная арыентацыя. Я жанчын люблю!

*Нос па ветру*

Пасля доўгага перапынку наведаў вучылішча будаўнікоў, дзе працаваў васямнаццаць гадоў і адкуль пайшоў на пенсію. Перамены непрыемна ўразілі. У вестыбюлі знікла партрэтная галерэя "Нязгасныя зоркі Беларусі", да стварэння якой і я некалі спрычыніўся. А там жа былі Еўфрасіння Полацкая, князь Вітаўт, Францыск Скарына, Леў Сапега, Кастусь Каліноўскі, Станіслаў Манюшка, браты Луцкевічы, Янка Купала, Максім Багдановіч - слаўныя постаці нашага народа. Затое ў чытальнай зале адзін насупраць другога два вялізныя зусім аднолькавыя вусатыя партрэты... Гэтак адміністрацыя вучылішча дэманструе сваю адданаць (не Беларусі, не!), адданасць пануючаму рэжыму. Як кажуць, трымаюць нос па ветру.

*"Суворовский" хлеб*

Дачка прывезла з Гародні бохан тамтэйшага хлеба. Ну, думаю, пакаштую. Але глянуў на этыкетку, і настрой сапсаваўся: "Суворовский". Хлеб не палез у горла. Кажуць, Аляксандр Васільевіч Сувораў – вялікі палкаводзец, але ён



двойчы заліў Беларусь беларускай крывёю. Ды і расейскай крыві не шкадаваў. А мы, беларусы, як тыя мазахісты, услаўляем гэтага ката: і музей у Кобрыне, і вайсковае вучылішча ў Менску носіць яго імя.

*Рысы*

Няўжо нацыянальныя рысы беларусаў – абыякавасць, баязлівасць і халуйства?..

*Выбары*

Наша суседка, мацерына сяброўка Ганна Макараўна, адразу пасля вайны настаўнічала ў Свіры. Аднойчы, прыехаўшы пасля выбараў, яна распавяла, як гэтыя „заходнікі" не любяць савецкую ўладу і камуністаў, а ў дзень выбараў, каб не галасаваць, хаваюцца ў лесе. "Але мы ўсяроўна пішам тое, што трэба", - дадала цётка Аня.

А на пачатку шасцідзесятых я, малады камуніст, быў назначаны намеснікам старшыні ўчастковай выбарчай камісіі. Да абеду выбаршчыкаў трохі было, а затым не стала. Дырэктар школы, старшыня камісіі, адправіў настаўніц, членаў камісіі, на абед. Падлічыўшы "галасаванцаў", ён схапіўся за галаву – завал! Хутка напісаўшы "да" супраць прозвішчаў у спісках выбаршчыкаў, падае мне стос бюлетэняў: ідзі, ўкінь у урну. Я знепрытомнеў: як гэта можна?! "Ты што першы раз у камісіі? – пытаецца дырэктар. – Калі б гэтага не рабілі, ніколі не было б патрэбных дзевяноста дзевяці і дзевяці дзесятых". Не памятаю, колькі разоў я (партыйная дысцыпліна!) і сам дырэктар насілі бюлетэні ў урну, але вынік быў не горшы, чым у іншых.

І яшчэ я быў сябрам участковай камісіі ў 1996-м. Другі рэферэндум... Падлічылі галасы, запоўнілі і падпісалі пратаколы, якія нашая старшыня павінна везці ў райвыканкам. І раптам мне падаюць такі ж, але незапоўнены пратакол, у якім стаіць ужо чатыры-пяць подпісаў маіх калег: падпішы! Майму абурэнню не было мяжы. Я, чалавек, які перажыў перабудову, галоснасць, развал імперыі зла, зноў у нейчых злачынных інтарэсах павінен займацца фальсіфікацыяй! Я прылюдна парваў паперку на дробныя кавалачкі.

Больш у склад выбарчых камісій мяне ўжо ніколі не ўключалі. А бедныя настаўнікі пад дамоклавым мечам кантрактнай сістэмы прадаўжаюць падпісваць незапоўненыя пратаколы, валачы дзяцей на "лінію Сталіна" і заганяць іх у БРСМ.

*Партрэт*

Заходжу ў кабінет да знаёмага чыноўніка. На сцяне, якраз над ягонай галавою, вялізны вусаты партрэт у зашклёнай раме.

- Зваліцца - можа пакалечыць, - папярэджваю.
- Ды не, ён крэпка сядзіць! – адказвае той.

*Папа*

У 1979 годзе ў Гданьск прыехаў Папа Рымскі Ян Павел Другі. Выступаючы перад мільёнамі палякаў, ён сказаў: "Зямля павінна перамяніцца. Гэтая зямля". І яшчэ ён сказаў: "Не бойцеся!" І калі перад гэтым у Леха Валэнсы ў "Салідарнасці" была нейкая сотня сяброў, то пасля візіту Папы ў Польшчу іх стала дзесяць мільёнаў! Вельмі хутка народ скінуў камуністычнае ярмо, і Польшча зрабілася



вольнай, дэмакратычнай краінай, якую паважаюць і шануюць у свеце. Там ужо чацвёрты прэзідэнт! Чаму ж ніхто не накіруе на правільны шлях нас, беларусаў?..

*Стары аптыміст*

Па вуліцы Урыцкага, над Ігуменкай, жыў стары яўрэй Каждан. Калі ў яго пыталіся пра здароўе, ён усім весела адказваў: «Не дачакаецеся!». Яшчэ ён не турбаваўся, што будзе пасля яго канчыны: «Паляжу дзень, паляжу другі, пачну смярдзець – закапаюць!»

*Тэчка без каньяку*

Пасля заканчэння работы чарговага так званага Усебеларускага народнага сходу ягоныя ўдзельнікі атрымліваюць падарункі. Гэта або вырабы беларускай прамысловасці, што не карыстаюцца вялікім попытам у насельніцтва, або тэчкі (сумкі, партфелі), напоўненыя харчамі - каньяком, сухой каўбасой, цукеркамі і да т.п. Але аднойчы чэрвеньцы атрымалі пустыя тэчкі: напаўняльнікаў не хапіла. Раёны ў спіску ідуць у алфавітным парадку, і Чэрвень займае адно з апошніх месцаў. Далей хіба толькі "Чечерск" і "Щучин".

І вось аб чым я падумаў. Калі б у канцы васьмідзесятых раённае начальства паслухала нас, краязнаўцаў, і вярнула гораду гістарычную назву "Ігумень", то раён апынуўся б недзе ў сярэдзіне спіска, і нашыя дэлегаты вярталіся б дадому з поўнымі тэчкамі.

*Сапегі і Радзівілы*

Прыдворныя гісторыкі, наступні Абэцэдарскага і Трашчанка, запелі старую бальшавіцкую песню аб тым, што Сапегі, Радзівілы і іншыя магнаты нашай старажытнай дзяржавы – Вялікага княства Літоўскага – палякі і не маюць ніякіх адносін да нашай дзяржавы, нашага народа, бо размаўлялі па-польску.

Ну, дык скажыце, а ці беларусы нашыя цяперашнія кіраўнікі – прэзідэнт, прэм'ер, міністры, дэпутаты... Чаго маўчыце?! Толькі не кажыце, што па канстытуцыі ў нас дзве дзяржаўныя мовы. Гэта довад для ідыётаў.

*Аб чым я прашу*

Аб чым я прашу Бога не адзін ужо год... Каб дазволіў дачакацца канца аўтарытарнага рэжыму. Каб даў магчымасць пасля гэтага пажыць яшчэ ў дэмакратычнай беларускай Беларусі. Але ж... Чалавек мяркуе, а Гасподзь кіруе.

*Бацькі*

Мой бацька Юрка (Георгій) Данілаў Дарагуш нарадзіўся ў 1899 годзе ў вёсцы Машніца на Койданаўшчыне (цяпер Дзяржынскі раён Мінскай вобласці). У 1918 годзе ён, сын звычайнага селяніна-серадняка, скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, а ў 1926-м - гісторыка-геаграфічны факультэт Белдзяржуніверсітэту. З 1926 па 1935 год працаваў дырэктарам Раваніцкай школы.

Маці - Чахавец Алена Алесева - нарадзілася ў 1906 годзе ў г. Ігумені. У 1929 годзе яна скончыла Белпедтэхнікум імя Усевалада Ігнатоўскага і была



накіраваная на працу ў Раваніцкую школу. Бацькі пажаніліся ў 1931-м, у канцы 1933-га нарадзіўся я.

У 1935 годзе бацькі пачалі працаваць у першай Чэрвеньскай сярэдняй школе. Тады ж маці завочна скончыла настаўніцкі інстытут.

*Мова*

Беларуская мова не адштурхвае беларусаў. Яна адштурхвае акупантаў.

*Гарэлка вінаватая*

Разумею, што чэкісты – благі народ, ад іх чаго хочаш чакаць можна. Мільёны пагубленых жыццяў, мільёны сапсаваных лёсаў на рахунку гэтых нелюдзяў. Але ніколі не паверу, што яны вінаватыя ў смерці Ясеніна і Маякоўскага. Піць трэба менш!

*Выціскаць з сябе раба*

У канцы 18-га стагоддзя нас, ліцвінаў-беларусаў, пасля трохсотгадовай вайны нарэшце перамог усходні сусед. Рымскі гісторык Карнелій Тацыт сказаў, што мова пераможцы ў вуснах пераможанага заўсёды ёсць мовай раба. Людцы-беларусы, і ў першую чаргу настаўнікі! Давайце ж выціскаць з сябе раба. Увесь час, па кроплі. Як вучыў вялікі рускі пісьменнік Антон Паўлавіч Чэхаў...

...Але ж ці варта выціскаць з сябе раба?! Бо быць рабом вельмі зручна. Выгадна! Начальнік цябе заўважыць, пахваліць, граматай узнагародзіць, а мо нават і прэмію выпіша. А калі ты гэтае рабства пачнеш пакрыху выціскаць, загаворыш па-беларуску, то адразу пачуеш сыканне:

"Националист!",  “Сьвядомы”, "Пятая колонна!", "Враг белорусского народа!". Нават мой любімы літаратурны герой Ланцэлот (Григорий Горин. "Убить дракона") казаў: "Завидую рабам. Они знают, что надо делать. У них твёрдые убеждения... А рыцарь - всегда на распутье"...

### *Лёс мовы*

Я за лёс беларускай мовы не хвалююся. Бо, як сказаў паэт,

"Пе       ражыла наша родная мова
і Бенкендорфа, і Мураўёва,
панскія здзекі,
чэкісцкія чысткі,
рогат імперскі,
вырак фашысцкі…
Тых, хто з мякінаю у галаве,
перажыве!"                  (Генадзь Бураўкін).

Шкода згубленага часу. Дваццаць гадоў змарнавана... І настаўнікаў шкода, такіх паслухмяных, рахманых, ручных. І яшчэ больш шкода іх вучняў...

### *“Аблажылі”*

За савецкім часам было прасцей: на адно дэпутацкае месца – адзін кандыдат. Цяпер жа вырашылі пагуляць у дэмакратыю.

У зале раённага цэнтра культуры і адпачынку передвыбарная сустрэча з кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў. Малады прадпрымальнік, сын паважаных у раёне лекараў. Разумны, ініцыятыўны. Добра ведае беларускую мову і абяцае карыстацца ёю. Але ж ён не праўладны кандыдат , а “самавыдвіжэнец”. Трэба яго



заваліць. Для гэтага ў зале знаходзяцца дзве “спецыялісткі” ідэалагічнага аддзела райвыканкаму. Яны па чарзе кідаюцца на яго, намагаюцца збіць з панталыку, прынізіць. Дзесьці падобнае я ўжо сустракаў... У памяці ўваскрасае карціна Аляксея Сцяпанава “Аблажылі”: лес, велічны лось і дзве мізэрныя шаўкі, якія на яго брэшуць. Брэшуць гучна, каб чуў гаспадар, які знаходзіцца недзе непадалёку, каб ведаў, што недарэмна іх корміць.

Вядома, у “палатку” прайшлі толькі “свае”, правераныя... Чарговая перамога дэмакратыі!

### *“Прарок”*

У сусветнай паэзіі ёсць шмат вершаў з такой назвай. “Прарок” Аляксандра Пушкіна – гэта верш аб прызначэнні паэта:

...И Бога глас ко мне воззвал:
“Восстань, пророк, и виждь, и внемли,
Исполнись волею Моей,
И, обходя моря и земли,
Глаголом жги сердца людей”.

Прарок павінен рабіць сваю справу нават тады, калі народ тут зусім не змагар, “не вдавсь на борця”. І слава пра народ загрыміць на ўсесь свет, бо ёсць з гэтага народа такі прарок. Аб гэтым верш Лэсі Украінкі.

Прароку, які ў вершы Янкі Купалы кліча людзей з рабства на волю, яны адразаюць:

- Па колькі ж нам дасі чырвонцаў,
Калі мы пойдзем за табой?

Вось гэта сапраўдныя беларусы, людзі, што ўспрыймаюць свет не душой, а страўнікам. Ім не патрэбныя ні родная мова, ні дэмакратыя, ні незалежнасць. Іх ідэалогія - “чарка і скварка”.

*Такое супадзенне*

Мяне завуць Уладзімір Георгіевіч. І ён – педагог, кінасцэнарыст, рэжысёр Колас – таксама Уладзімір Георгіевіч. Мой бацька – Георгій Данілавіч. І яго бацька – Георгій Данілавіч. Больш таго, мая бабка Караліна Станіславаўна з хутара Забельшчына, што быў ля вёскі Дзерці, а яго бабка Ганна Апанасаўна – з суседняга хутара Куцень.

*Сажалка*

Сажалка са стаячай вадою зарастае, робіцца смярдзючай. Нават жабы ў ёй перастаюць пладзіцца. Гэтак і дзяржава. Калі доўга не змяняецца ўлада, адбываецца грамадскі застой. Гэта зусім ніякая не стабільнасць.

*Нашы Краснагіры*

Пасля паразы пад Палтавай частка жаўнераў пайшла на поўнач, каб неяк вярнуцца на радзіму. А іншыя, напэўна, маладзейшыя, што пазнаёміліся з мясцовымі дзяўчатамі, здружыліся з імі, перайшоўшы ў праваслаўе. Хлопцы працавітыя, высокія, прыгожыя, крыху рыжаватыя, як большасць шведаў. Насілі яны форменныя камзолы з блакітнымі адваротамі. Заглядзенне! І тутэйшы люд называў такіх: *красны гір*, красны – прыгожы (не чырвоны); гір (шведскае heer) – пан, спадар. Так узнікла прозвішча *Краснагір*, шырока распаўсюджанае ў Чэрвеньскім раёне. Гляньце у тэлефонны даведнік “Чэрвень”: трыццаць два Краснагіры! А Дарагуш усяго адзін… Каму радавацца, Але ж мая прабабка Параска Ладуцька родам з Іванічаў. То можа і ў маіх жылах цячэ нейкая кропля шведскай крыві. Ды ці ў



гэтым справа. Якая б кроў не была, абы чалавек быў прыстойны.

Мой заклік: “Пакуль жыве беларуская мова — жыве Беларусь!”

**Уладзімір Содаль**

## Выток

*Ён нядаўна пакінуў нас, адышоўшы ў іншы свет – следам за Барадуліным, Бураўкіным, Дамашэвічам, Кудраўцом, яшчэ раней – Кісялёвым, Конанам, Скалабанам… Сыход Уладзіміра Содаля – таксама балючая страта для Беларушчыны, якой праз болей паўвеку ўпарта слугаваў гэты глыбокі, найшчырэйшы Беларусін-Скарыніч. Засталася яго спадчына – Содаля ціхае колкае слова, трапяткі працяг Багушэвічавага "каб не ўмёрлі". Светлая памяць.*

*А.К.*

***

Часам у мяне пытаюцца: як я ўзбіўся на Францішка Багушэвіча? Гэтага я і цяпер не ведаю... Але ж быў якісь пачатак, штуршок, імпульс. Самае цікавае, калі ўсё гэта здары- лася, я быў малады, і мне, грамадзяніну развітога сацыялізму, будаўніку камунізму, ягоныя творы здаваліся старызнай, не вельмі абробленымі грувасткімі, цяжкаватымі, перапоўненымі нязвыклымі для мяне дыялектызмамі, гістарызмамі. Тым не менш, я пацягнуўся да Багушэвіча, інтуітыўна адчуў якуюсь гарманічнасць гэтай асобы з яго словам, думкамі, настроямі... Мабыць, гэта найперш знайшло водгук у маёй душы і павяло Багушэвічавымі сцежкамі. А тут выпала мне рыхтаваць на тэлевізіі перадачу пра Францішка Багушэвіча. А як расказаць пра песняра, не пабыўшы на яго радзіме?..

Было гэта ў годзе шэсцьдзесят дзявятым... Я тады толькі шчэ пачынаў на тэлевізіі. Памятаю, склаў сцэнар. Уключыў у яго Багушэвічавы творы. А некаторыя з іх



доўгія, як сюжэтныя вяроўкі. Я не ведаў, што з імі рабіць. Так цалкам і ўключыў у сцэнар. Пасля мне зрабілі заўвагу, што гэтак будзе не вельмі тэлевізійна. Вялікія творы разбураюць стылістыку экрана. Глядач не можа доўга слухаць. Яму патрэбна відовішча. То параілі з вялікіх твораў вылушчыць самае яскравае, трапнае, удалае. А зрабіць гэта з Багушэвічавымі творамі не проста. Яны пераважна сюжэтныя. І, папраўдзе, мне не хацелася гэта рабіць, парушаць Багушэвіча, урывацца ў яго творчую задуму... Ну, але раз гэтага вымагае тэлевізійная спецыфіка, то ўсё ж мусіў. Гэта змусіла мяне як след учытацца ў Багушэвічавы творы, каб вылушчыць з іх тыя ці іншыя радкі, зрабіць з іх выняткі, а не проста пазначыць для машыністкі старонкі для перадруку. Мо тады я ўпершыню сур'ёзна прачытаў Багушэвічаву спадчыну, адчуў яе самабытнасць. Але найбольш за ўсё, пэўна, уразіла прадмова да «Дудкі беларускай». Яна і накіравала мяне у Кушляны, каб паглядзець на той кут, дзе жыў і тварыў вялікі пясняр, найсумленны чалавек сваей эпохі Францішак Багушэвіч.

Памятаю, была восень: ці канец кастрычніка, ці пачатак лістапада. Цёмныя хмары віселі над зямлёю. Кінааператар бедаваў: змрочныя будуць здымкі. Каб хоць трохі сонца пасвяціла. Галінкі дрэў былі ўсе ў расінках, як у срэбных пацерках. Гэтыя расінкі былі сугучныя з паэтавымі настроямі. Прыгадайма:

Вун стаіць бярозка тут ля самай хаткі,
Косы папусціла... плача, кажуць людзе...
Чаго ж мне маркотна? Ты ж скажы, бярозка,
Маўчыш як нямая, і сама смутная!..
Мусіць-такі праўда — гэта яе слёзка,
Што кажуць другія — капля расяная.
Мне жаль і бярозкі, чаго ж яна плача,
Калі ўжо долі не пераінача?

...Кушляны сустрэлі нас глыбокай зачараванай восеньскай цішынёю, сцішанасцю. Наўкола ні душы. Усё — і дрэвы, і зямля — былі набрынялыя вільгаццю. Усё прыглушанае, прыціхлае. Знайшлі ў хаце дзядзьку Міхала. Ён узрадаваўся людзям з Мінска. Дагэтуль ніякая тэлівізія ў Кушляны не прыязджала.

[…] Кінулася і колішняя ўтульнасць і асірацеласць, занядбанне і пасільная рупнасць. І загадкавасць, жаданне распазнаць тое жыццё, якое тварылася калісь тут. З такім настроем і пакінулі Кушляны. Ва ўсякім разе я адчуў, што гэта толькі разведка, што гэтую сядзібу трэба ажывіць — што праз жывых людзей, што праз архівы, што праз дакументы... За гэтую працу я і ўзяўся, нават не ведаючы, куды яна мяне павядзе, куды выведзе, дзе што я буду шукаць і ці знайду.

*Содаль Ул. Благаславёныя Кушляны. Мн., “Кнігазбор”, 2006. С. 3-4.*



# БРАТЫ –СЁСТРЫ - СУСЕДЗІ

**Ніл Гілевіч**

**Ведаць і помніць**

Далучыўшы гвалтам Вялікае княства Літоўскае да Расійскай імперыі, Кацярына II агаласіла ўказ:

«Великое Княжество Литовское впредь именовать только Белой Русью, а народ ее белорусами, чем на века привяжем ее к России. Закрепить Белую Русь силой невозможно. Эту миссию мы возложим на русского чиновника, русского учителя, русского попа. Именно они отнимут у белорусов не только их язык, но и саму память про самих себя».

Як у такім разе кажуць, каментар не патрэбны. Гадоў праз 70, задушыўшы паўстанне, якім кіраваў Кастусь Каліноўскі, губернатар Паўночна-Заходняга краю Мураўёў (Мураўёў-вешальнік) пісаў:

«В Северо-Западном крае так называемый белорусский язык необходимо низвести на ничто, ибо если этого не сделать, он постоянно будут инсценировать мысль об отдельном белорусском и о праве этого народа на этническую самостоятельность и национально-государственную суверенность, чего допустить нельзя».

І зноў жа: каментар непатрэбны.

Але ведаць і помніць гэта мы, беларусы, павінны. Калі хочам заставацца сабою – свабодным, самастойным, паважаным у свеце народам.

*2002*
*Гілевіч Ніл. У віры быцця. Мн., “Кнігазбор”, 2015. С. 42*



**Дзмітрый Караў***

**Беларусазнаўства в Расіі XX – пач. XXI ст.**
(традыцыі і сучасны стан)

Неабходнасць правядзення гэтага даследавання абумоўлена не толькі той вызначальнай роллю, якую адыгрывае Расія ў сенняшнім геапалітычным і сацыякультурным жыцці Беларусі, але і тымі глыбіннымі даўнімі гістарычнымі сувязямі, якімі пераплецены лесы народаў усходнеславянскага свету на працягу апошняга тысячагоддзя. На гэтым гістарычным шляху асаблівае месца займае эпоха XVI –пач. XXI ст.

Пачынаючы з XVI ст. абвастраецца праблема гістарычнага выбару і цывілізацыйнага развіцця беларускага і вялікарускага народаў. Праблема далейшага гістарычнага шляху развіцця Беларусі з XVI ст. па сённяшні дзень апынулася цяснейшым чынам звязанай з расійскай цывілізацыяй.

Адносіны паміж Расіяй і беларускімі землямі ВКЛ да ўключэння іх у склад Расійскай імперыі развіваліся далёка не бязвоблачна. Плённыя эканамічныя і культурныя сувязі паміж свойскімі народамі нярэдка перарываліся перыядамі вострых трагічных ваенна-палітычных канфліктаў. У межах Расійскай імперыі, асабліва з другой паловы XIX ст., і ў савецкі перыяд гісторыі беларускае грамадства і яе культура шчыльна ўваходзяць у арбіту ўздзеяння расійскага геапалітычнага і сацыякультурнага поля. Расійскі фактар, настолькі значны ў гісторыі беларускага этнаса і культуры, не мог не прысутнічаць у філасофска-гістарычных працах, рэлігійнай думцы, грамадска-палітычнай публіцыстыцы, гістарычных напрацоўках беларускіх і расійскіх аўтараў, прыцягваючы асабліва пільную ўвагу расійскай грамадскай

думкі да Беларусі ў крызісныя эпохі, калі адбываліся радыкальныя пераўтварэнні сацыяльна-эканамічных і палітычных структур расійскага і беларускага грамадстваў. У цэнтры праблемы палягала імкненне беларускай і расійскай інтэлектуальных эліт XVI – пачатку XXI ст. зразумець характар узаемадзеяння Беларусі з расійскай цывілізацыяй, выпрацаваць аптымальную формулу далучэння да ўсходнеславянскіх хрысціянскіх, пераважна праваслаўных, каштоўнасцей пры захаванні ўласнай этнічнай і сацыякультурнай індывідуальнасці.

Даследванне пастаўленай праблемы важна не толькі ў аспекце вывучэння развіцця беларускай і расійскай грамадскай, гістарычнай думкі, але і неабходна для разумення сутнасці сучасных грамадскіх дыскусій па праблемах развіцця Беларусі і Расіі, якія адлюстроўваюцца ў пэўнай палітычнай лініі гэтых дзяржаў. Гістарыяграфічны аналіз дазваляе, на наш погляд, выявіць пазітыўнае ядро ў разнастайных канцэпцыях і накірунках грамадскай, гістарычнай думкі ўсходнеславянскіх народаў, у якіх рабілася спроба асэнсаваць багаты досвед зносін з Расіяй у пошуках свайго шляху развіцця, вызначэнні перспектыў далейшага суіснавання этнічна і культурна блізкародная [аднак адметных – рэд.] этнасаў. Вызначэнне ступені ўздзеяння расійскага фактару на грамадскую свядомасць Беларусі і значнасці беларускага фактара ў фармаванні культурных традыцый Расіі, характару іх уздзеяння і тых сацыякультурных і палітычных наступстваў, якія ўплываюць на выбар гістарычнага шляху Беларусі і Расіі ў будучым – адна з актуальнейшых задач гістарычнай культуралогіі нашых краін. Адной з мэтаў праекта стала даследванне сацыякультурных заканамернасцей і спецыфікі фармавання вобраза ВКЛ і Беларусі у грамадскай,



гістарычнай думцы Расіі, у расійскай гістарыяграфіі XIX – пачатку XXI ст.

Для рэалізацыі мэты праекта яго распрацоўшчыкі імкнуліся вырашыць наступныя задачы:

даследаваць інфармацыйныя магчымасці крыніц па указанай праблеме (іх колькасць, спецыфіку жанра, характар рэпрэзентатыўнасці і даставернасці, праблемы відавой класіфікацыі);

вызначыць спецыфіку ўздзеяння фактараў ВКЛ і Беларусі на грамадскую свядомасць, гістарычную думку і гістарычную навуку Расіі ў межах XIX – пачатку XXI ст.;

вызначыць ступень і каналы ўздзеяння расійскага фактару на грамадска-палітычную думку і беларускую гістарыграфію XIX – пачатку XXI ст.;

прааналізаваць прычыны грамадска-палітычнага і сацыякультурнага характару, якія вызначалі спецыфіку вобраза ВКЛ і Беларусі ў гістарычнай думцы Расіі і расійскай гістарыяграфіі адзначаных перыядаў.

Нам хацелася б спадзявацца, што рэалізацыя падобнага праекта будзе цікавай не толькі прафесіным гісторыкам, але і ўсім неабыякавым да культуры і гісторыі ўсходнеславянскага свету, унясе пэўную навізну і будзе карысным для выпрацоўкі збалансаванай нацыянальна-культурнай палітыкі ў абсягу беларуска-расійскіх адносін, арыентаванай на стварэнне клімату талерантнасці ў міжкультурным дыялогу, захавання сумеснай культурнай спадчыны [1, с. 308 - 309].

Па вызначанай праблеме спецыяльных абагульняючых гістарыяграфічных і гісторыка-культуралагічных даследаванняў у Беларусі і Расійскай Федэрацыі не праводзілася, але яна закранался ў дзесятках

прац, прысвечаных гісторыі беларускай і расійскай грамадскай думкі XVI – пачатку XXI ст. У той жа час мы маем вялізныя пласты слаба распрацаванай крыніцазнаўчай інфармацыі.

Адно з першых і сутнасных пытанняў, якое можа быць пастаўлена аўтару гэтага тэсту – пытанне аб тым, чаму менавіта перыяд канца XIX –пачатку XXI ст.для расійскага беларусазнаўства з'яўляецца значным? Нам уяўляецца, што адказаць на гэтае пытанне можна наступным чынам:

- да канца XIX – пачатку XXI ст. у межах гістарыяграфій Расійскай імперыі разам з фармаваннем інтэлектуальных эліт Беларусі, Вялікаросіі і Украіны адбываецца станаўленне і нацыянальных гістарыяграфій гэтых народаў;
- у XX ст. фармуюцца самі гэтыя нацыі як феномены не толькі этнічнай, але і палітычнай гісторыі Еўропы.
- Беларусь як заходні фарпост Расійскай імперыі і Савецкага Саюза ў тэктанічных, геапалітычных зменах Еўропы адыгрывала значную ролю ў гэтых працэсах і не магла не закрануць увагу расійскіх грамадазнаўцаў, перш за ўсе, гісторыкаў, моцна павязаных з дамінуючымі плынямі ідэалогіі эпохі.

Нельга не адзначыць, што ў гэтыя часы істотна мянялася сэнсаавае напаўненне паняцця "Расія", і не толькі ў тэрытарыяльных аспектах.

Ужо да пачатку XX ст. вызначаюцца тры існуючыя да сённяшняга дня канцэптуальныя падыходы ў трактоўцы разглядаемай праблемы, гістарычнага лесу беларусаў і іх культуры у расійскай навуковай традыцыі.

Першы з іх быў прэзентаваны такой неадназначнай з'явай у гісторыі грамадска-палітычнай і гістарычнай думкі



Беларусі і Расіі як "заходнерусізм" (М. Каяловіч, А. Сапуноў, П. Бранцаў, П. Бацюшкаў, І. Саланевіч) [2, с. 195 - 224]. "Заходнерусізм" не вытрымаў навуковай канкурэнцыі ў трактоўцы гісторыі ВКЛ і Беларусі з ліберальнымі пазітывісцкімі версіямі расійскай універсітэцкай прафесуры В. Антановіч – у Кіеве, А. Праснякоў – у Пецярбургу [3, с. 210 - 250]. , М. Любаўскі – у Маскве) [4]. Але гэта не перашкодзіла яму атрымаць моцную падтрымку з боку ўрадовай Расіі. Больш таго, пасля надзвычайных падзей 1905 – 1907 гг. гэтая ідэалогія перажывае "другое дыханне". У сваей дакладной запісцы на імя Міністра ўнутраных спраў Расіі мінскі губернатар Гірс прапаноўвае новыя ідэі вырашэння старой праблемы "Паўночна-Заходняга краю" – выцясненне "польскага ўплыву". Галоўная ідэя Гірса – стаўка на фарміраванне мясцовай інтэлігенцыі Беларусі пад кантролем ураду. Гэтыя прапазіцыі былі ўлічаны. Знаёмства з урадавай прэсай "Паўночна-Заходняга краю" тых гадоў ("Виленский весник", "Минское слово", "Окраины России") дэманструе, што ў сваей праграме выхавання казенакоштнага "патриота-белоруса" Гірс не астаўся ў адзіноце. Для гэтай часткі расійскага адукаванага грамадства, нават кадэты-лібералы з ліку прафесуры (А. Пагодзін, Бадуэн-дэ-Куртэнэ) і прафесар М. Любаўскі, былі гісторыкамі і публіцыстамі "левого направления", якім патрэбна "дать бой" [5]. Нельга не прызнаць, што ў значнай меры асноўнай сваей мэты – русіфікацыі края і масавай гістарычнай свядомасці беларусаў да 1914 г. "заходнерусізм" дасягнуў.

У той жа час к пачатку XX ст. у беларусазнаўстве Расіі нараджаецца новая плынь гістарыяграфіі Беларусі як *гістарыяграфіі нацыянальнай.* Яна высоўвае на авнсцэну гісторыі лёс народа, а не дзяржавы і яе правячых эліт. Адбудоўвае канцэпцыю гістарычнага мінулага Беларусі і

беларуска-расійскіх стасункаў з пазіцый этнацэнтрызму (М. Доўнар-Запольскі, В. Ластоўскі, І. Луцкевіч)” [6, с. 16 – 18; 25- 26]. Ліберальная плынь расійскага беларусазнаўства (А. Шахматаў, Я. Карскі, А. Праснякоў, М. Любаўскі) прамога ўздзеяння на фарміраванне нацыянальнай гістарычнай свядомасці беларусаў не аказала, але ўскосна стварала грунтоўны, фактурны і канцэптуальны падмурак для нацыянальнай беларускай гістарыяграфіі.

Параўнальна з дакастрычніцкім перыядам у савецкую эпоху гістарычная навука беларусазнаўства Расіі звузілі і палітызавалі гістарычныя гарызонты свайго погляду на Беларусь і гісторыю яе культуры. Шмат у чым былі згублены здаровы акадэмізм і спробы аб’ектыўнага падыходу да распрацоўкі складаных гістарычных праблем беларуска-расійскіх стасункаў XV – XX ст. Трактоўка якіх адлюстравала дамінуючае ўздзеянне зменлівай палітычнай кан’юнктуры тых гадоў: ад разгляду Беларусі як “калоніі” або “напоўкалоніі” Расійскай імперыі ў гістарыяграфіі 20-х - пач. 30-х гг. XX ст. да палітыкі Расійскай дзяржавы XVI – XVIII ст. як палітыкі “уз’яднання” у 40-х – 60-х гг. XXст ( працы У. Пічэты, М. Доўнар-Запольскага, В. Шчарбакова, І. Лочмеля і інш. ). Гістарычная думка Расіі пасляваеннага часу амаль да перыяду паловы 80-х гг. XX ст.знаходзілася пад пільным кантролем ЦК КПСС, што адмоўна адлюстравалася на канцэптуальных падыходах да праблем сацыяльна-палітычнай і культурна-рэлігійнай гісторыі беларускага народу. У 1970 – 80-я гг. вывучэнне беларускай культуры і спецыфікі беларуска-расійскіх стасункаў новага часу набыла больш салідную, збалансаваную, з апорай на грунтоўны корпус крыніц, трактоўку. Не апошнюю ролю ў гэтых пазітыўных зменах адыгралі працы расійскіх гісторыкаў і культуролагаў, па этнічных карэннях звязаных



з Беларуссю (М.Улашчык, Г.Харашкевіч, А.Каўка, Ю.Барысёнак).

З 90-х гг. XX ст. расійскае гістарычнае беларусазнаўства ступіла ў складаны, пленны ў колькасным аспекце (інтэнсіўнасць і маштабы напрацовак – Д.К.), але адначасова вельмі “разнагалосы”па сваіх адзнаках беларускага мінулага і беларуска-расійскіх адносін XVI – XXст, перыяд, які можна адзначыць як час *сістэмнага крызісу пераходнай эпохі*, тыповага для ўсіх постсавецкіх рэспублік сенняшніх суверэнных дзяржаў СНД. Ен цесна звязаны з пераасэнсаваннем карэнных тэарэтычна-метадалагічных асноў гістарычнай навукі, сваей гісторыі і гісторыі народаў-суседзяў. Цягам шматлікіх канферэнцый і вострых дыскусій 90-х гг. XX ст. – пач. XXI ст. карэнная канцэптуальная рэвізія закранула літаральна ўсе знакавыя праблемы беларускай гісторыі і культуры, дзе роля беларускага і расійскага фактараў найбольш адчувальны:

- працэс фарміравання дзяржаўнасці ў Вялікім княстве Літоўскім і І Рэчы Паспалітай і роля ў гэтым працэсе знешнепалітычнага фактара;
- роля хрысціянскіх канфесійі, іудаізму ў гісторыі Беларусі і яе культуры;
- роля ваенных канфліктаў і характар знешнепалітычных стасункаў беларускіх зямель і Расіі ў XV – XXст.;
- гісторыя беларускага шляхецтва і расійскага дваранства заходніх губерній Расіі;
- сацыяльныя канфлікты (паўстанні, рэвалюцыі канца XVIII – пач. XXст.).

У цэлым можна казаць, што беларуская праблематыка дастаткова шырока прэзентавана ў гістарыяграфіі і гістарычным беларусазнаўстве Расійскай Федэрацыі 90-х гг. XX – пач. XXI ст. Але “прадстаўнічасць”

гэта лакунарная, нярэдка палітызаваная і тэндэнцыйная, з вялікім "роскідам" падыходаў і ацэнак. На сенняшні дзень у гістарычнай навуцы і гістарычнай культуралогіі Расіі няма *ніводнай манаграфічнай працы,* якая магла б ўзяць на сабе нялегкую задачу разгляду расійскага "бачання " Беларусі і беларуска-расійскіх стасункаў у межах вялікіх гістарычных эпох (Сярэднявечча, Ранні новы час, перыяд Расійскай імперыі, савецкі і постсавецкі перыяды) у якасці *самадастатковай даследчыцкай праблемы.* Цяперашнія працаўнікі вядучых навуковых устаноў Расіі, нешматлікія беларусазнаўцы (Інстытут славяназнаўства РАН, Расійскі інстытут стратэгічных даследаванняў, МДУ ім. М. Ламаносава, Санкт-Пецярбургскі ўніверсітэт, Інстытут краін СНД) арыентаваны на вельмі разнастайную па часе (пераважае цікавасць да сучаснасці – Д.К.) і па прафесійнай спецыялізацыі адзінкі (гісторыкі, філолагі, эканамісты, палітолагі). Таму нам здаецца, што найбольш перспектыўным шляхам вырашэння адзначанай праблемы з'явілася б стварэнне сумеснай беларуска-расійскай "каманды" для рэалізацыі яе ў фармаце міжнароднага праекта. Цікавасць да гэтага ў сучасных расійскіх і беларускіх славістаў адназначна ёсць [7; 8].

**/ Гродзенскі Дзяржаўны Універсітэт імя Я.Купалы.*
*Спавешчанне на VI з'ездзе Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.*
*Мінск, травень 2015 г.*

*Крыніцы і літаратура:*

1. Карев Д.В. Беларусь – Россия: диалог народов и культур(белорусско-российские отношения в исторической памяти белорусов XVI – нач. XXI вв. / Д.В. Карев // В кн.:



Россия, Беларусь, Украина: история, современность, будущее. – Мн.: Медисонт, 2014. – 363 с.
2. Карев Д.В., Литвинский А.В. Западноруссизм в российской историографии XIX – начала XX вв. (монография) / Д.В. Карев, А.В. Литвинский // У кн.: Стэфан Баторый угістарычнайпамяці народаў Усходняй Еўропы.- Гродна: ГЦДУЕ, 2004. – с. 195 – 324.
3. Карев Д.В. Белорусская и украинская историография конца XVIII – нач. 20-х гг. XX в.: в процессе генезиса и развития национального исторического сознания белорусов и украинцев / Д.В. Карев. – Вильнюс: ЕГУ, 2007. – 302 с..
4. Карев Д.В. Академик М.К.Любавский: Вехи судьбы и творчества // В кн.: М.К.Любавский. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно./ М.К. Любавский: Подгот. к печати Д.В. Карев; ст. Д.В. Карева. - Мн.: Белнавука, 2012. – С. 5 – 93; Карев Д.В «Очерк» Любавского в контексте восточнославянских историографий России Х1Х – начало XX в. // В кн.: М.К. Любавский. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно / М.К. Любавский: Подгот. к печати Д.В. Карев; ст. Д.В. Карева. – Мн.: Белнавука, 2012. – С..94 – 106.
5. НАРБ. – Ф. 60 (Белистпарт. Конец Х1Х в. – 1930 г.). Оп. 3., д. 114, лл. 9 – 9 об.
6. Караў Д.У. Даследчык гісторыі ўсходнеславянскіх народаў (М.В. Доўнар-Запольскі:старонкі жыцця і творсая спадчына) / Д.У. Караў // У кн.: М.В. Доўнар-Запольскі. Дзяржаўная гаспадарка Вялікага княства Літоўскага пры Ягелонах. – Мн.: Беларуская навука, 2009. – С. 5 – 26.
7. Русское наследие в странах Восточной и Центральной Европы: материалы межгосударственной научной конференции 5 – 8 июня 2010 года (г. Брянск), приуроченной 600-летию битвы при Грюнвальде. – Брянск: РИО БГУ, 2010. – 587 с.
8. Карев Д.В. Изучение истории Беларуси в белорусской историографии 90-х г XX- нач.XX1 в (основные проблемы и тенденции изучения истории феодальной Беларуси, белорусской историографии и источниковедения). // Вестник ПГУ: А Гуманитарные науки. – 2012, №9. – с.6 – 16.

**Дарота Міхалюк**

**Да беларускага чытача ***

Напрыканцы Першай сусветнай вайны беларуская палітычная эліта пабачыла магчымасць для здабыцця ўласнай дзяржаўнай незалежнасці. Была ўтворана Беларуская Народная Рэспубліка, а затым, 25 сакавіка 1918 г., абвешчана яе незалежнасць. Беларускі нацыянальны рух упісваўся ў еўрапейскія нацыятворчыя працэсы XIX і XX стагоддзяў, але таксама ён меў сваю спецыфіку, якая вынікала з асаблівасці гісторыі гэтага рэгіёна, на якую значна ўплывала размяшчэнне Беларусі на сутыку розных культур, веравызнанняў, цывілізацый. У памкненнях да здабыцця ўласнай дзяржаўнасці, абапертай на дэмакратычныя асновы, беларусы не былі выключэннем. Да гэтай мэты імкнуліся іх найбліжэйшыя суседзі: літоўцы, латышы, палякі, украінцы, гэтым самым шляхам ішлі і іншыя народы, якія жылі на ўскраінах былой Расійскай імперыі, тую ж дарогу абралі народы Цэнтральнай і Паўднёвай Еўропы, а таксама Каўказа.

Пасля Першай сусветнай вайны палітычная карта рэгіёна зазнала прынцыповыя змены: замест шматнацыянальных манархій узнікалі новыя незалежныя дзяржавы. Ва ўсходняй Еўропе дадатковым фактарам, які вызначаў барацьбу за дзяржаўную незалежнасць, была дзейнасць расійскіх «белых» і «чырвоных» урадаў, якія, хоць узаемна змагаліся адзін з адным, у прынцыпе, усе стаялі на пазіцыі аднаўлення расійскай мяжы па стане на пачатак вайны. Каб карціна была поўная, трэба тут яшчэ згадаць пра польскія тэрытарыяльныя памкненні, якія галоўным чынам замыкаліся на жаданні далучэння Гарадзеншчыны і Віленшчыны, бо напрыканцы Першай



сусветнай вайны польскія палітычныя эліты ўжо добра ўсведамлялі, што вяртанне да межаў Рэчы Паспалітай, якія існавалі перад яе падзеламі, або канцэпцыя стварэння федэрацыі ў яе даўнейшых межах — нерэальныя.

Нельга, аднак, забывацца, што новыя дзяржавы, якія ўтвараліся ў той час, беручы за аснову т. зв. этнаграфічную тэрыторыю, уступалі паміж сабой у спрэчку за правядзенне межаў. Як беларусы, так і літоўцы прэтэндавалі на Вільню, Горадню, Белавежскую пушчу. Аб'ектам спрэчак на беларуска-латвійскім памежжы быў Дзвінск (цяперашні Даўгаўпілс), а на беларуска-украінскім памежжы — Заходняе і Усходняе Палессе, Берасцейская і Бельская землі. Планы і надзеі беларускіх нацыянальных дзеячаў не мелі поспеху. Ва ўсходняй Еўропе прызнанне на міжнароднай арэне здолелі здабыць толькі Літва, Латвія, Эстонія, Фінляндыя, Польшча, а праз пэўны час і СССР. Беларуская Народная Рэспубліка не адбылася як незалежная дзяржава, а беларускія землі паводле артыкулаў Рыжскай дамовы былі падзеленыя паміж Польшчай і Савецкай Расіяй. Апошняя падчас змагання беларусаў за незалежнасць супрацьпаставіла Беларускай Народнай Рэспубліцы мадэль цалкам залежнай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы. Пасля няўдачы ў здабыцці дзяржаўнай самастойнасці Беларуская Народная Рэспубліка стала ідэяй, якую можна было агучваць толькі на эміграцыі. Пасля рэалізацыі мадэлі Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі традыцыю змагання за незалежнасць і дамаганняў уласнай дзяржаўнасці пад бел-чырвона-белым сцягам намагаліся сцерці са старонак афіцыйнай гісторыі і свядомасці чарговых пакаленняў беларусаў.

Акрамя кампраметацыі гэтай ідэі словамі ці шляхам замоўчвання, рабіўся пераслед палітыкаў і жаўнераў, што

змагаліся за незалежнасць Беларусі; мнопя з іх заплацілі найвышэйшую цану.

Пра спробу здабыцця беларусамі ўласнай дзяржаўнасці пасля Першай сусветнай вайны распавядае мая кніга пад назвай «Беларуская Народная Рэспубліка 1918-1920 гг. Ля вытокаў беларускай дзяржаўнасці», якая праз чатыры гады пасля выдання ў Польшчы патрапляе ў рукі чытачоў у перакладзе на беларускую мову. У гэтай працы я намагалася як мага паўней прадставіць нараджэнне і развіццё беларускай дзяржаўнцікай ідэі, а таксама дзейнасць, якая прывяла да стварэння і абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Разгляду гэтай праблематыкі папярэднічаюць уводзіны на тэму грамадскіх, культурных, нацыянальных і палітычных пераўтварэнняў. Хоць бы схематычнае акрэсленне працэсаў, якія ў той час адбываліся, а таксама іх вынікаў, падалося мне неабходным для таго, каб лепш зразумець рэаліі і магчымасці выбару людзей таго часу. У маёй працы ставіцца шмат пытанняў, сярод іншага пра развіццё беларускай дзяржаўніцкай ідэі, утварэнне розных палітычных стратэгій і саюзаў. Адно з галоўных пытанняў — прычына няўдачы беларускіх дзяржаўных планаў: чаму беларусы не здолелі здабыць незалежнасць пасля Першай сусветнай вайны? Я, аднак, не даю на гэтае пытанне адназначнага і наўпраставага адказу, бо ён утрымліваецца на старонках усёй кнігі.

Мяркую, што пасля азнаямлення з яе зместам чытач сам абярэ тыя пытанні, якія пададуцца яму найбольш важнымі, а магчыма, што сфармулюе і ўласныя, іншыя адказы. Такая наша, гісторыкаў, роля — заахвоціць да роздуму і да раблення новых даследчыцкіх крокаў. Думаю, што яны дакладна будуць, бо тэма яшчэ не вычарпаная, а для беларускай гістарыяграфіі вельмі важная. Пашырэнню



даследаванняў павінна паспрыяць тое, што адкрываюцца новыя крыніцы, якія не былі мне вядомыя пры працы над гэтай кнігай. Маю на ўвазе адкрыццё ў 2012 г. Літоўскім цэнтральным дзяржаўным архівам доступу да новых дакументаў, датычных Беларускай Народнай Рэспублікі.

На заканчэнне гэтай прадмовы хачу выказаць падзяку ўсім тым людзям, якія спрычыніліся да выдання гэтай кнігі ў беларускай моўнай версіі, дзякуючы чаму значна пашыраецца кола яе чытачоў. Вельмі дзякую Валеру Булгакаву за прапанову друкавання гэтай кнігі па-беларуску і нязломную веру у тое, што, нягледзячы на ўсе перашкоды, яна ўсё ж такі ўрэшце рэшт выйдзе ў свет. Асаблівыя словы падзякі выказваю Станіславу Рудовічу, аўтару адной з найважнейшых кніг, датычных гісторыі Беларусі XX ст., пад назвай «Час выбару. Праблема самавызначэння Беларусі ў 1917 годзе» (Мінск, 2001). Ён правёў вельмі ўнікліваю і ўважлівую навуковую рэдакцыю беларускамоўнай версіі маёй кнігі. Цешуся, што я магла з ім супрацоўшчаць, бо пастаўленыя сп. Рудовічам пытанні і зычлівыя заўвагі дазволілі мне праясніць ці ўдакладніць пэўныя моманты, у выніку чаго ў некаторых месцах праца нязначна адрозніваецца ад польскамоўнай версіі. Дзякую сп. Аляксандру Пашкевічу за апошнія рэдакцыйныя праўкі і канчатковую адшліфоўку тэксту кнігі. Падзяку выказваю таксама Алесю Пілецкаму, які зрабіў пераклад з польскай мовы на беларускую з першапублікацыі, здзейсненай у 2010 г. навуковым выдавецтвам Універсітэта Мікалая Каперніка ў Торуні.

*Прадмова да кнігі Д.Міхалюк ”Беларуская Народная Рэспубліка” . Пераклад з польскае. Мн., 2015.*

**Язэп Літвіновіч**

**Душэўнай хвалі ўзлёт**

Можна спрачацца наконт таго, якім быць стасункам Беларусі з Расіяй. Адно несумненна: дзве літаратуры – буларуская і руская – заўсёды былі блізкімі, як і кантакты нашых пісьменнікаў. А яшчэ нельга забываць, што ў абедзвюх літаратурах ва ўсу часы моцна гучалі матывы любові да суседзяў, захаплення іх набыткамі, прыгажосці тамашніх мясцін, а ячшэ прысутнічала жаданне ўзнавіць агульныя старонкі гісторыі. Іншая справа, што яны не заўсёды пазначаны светлыіт фарбамі, ставала і драматычных, нават трагічных момантаў. Ды ў гэтым лепш разбірацца гісторыкам – прынцыпова, аб’ектыўна, не ва ўгоду пэўным кірункам, а дзеля яе вялікасці праўды.

Усё гэта міжволі згадваеш, калі знаёмішся з кнігай “Роднасць”, выпушчанай выдавецтвам “Беларуская энцыклапедыя” імя Петруся Броўкі. У падзагалоўку яе пазначана: “Анталогія братэрства”. Так, гэты дыхтоўна выдадзены том, прыгожа аформлены (знайшлося нават месца каляровым ілюстрацыям) – анталогія беларускай і рускай літаратур. “У гэтай кнізе, - як гаворыць у прадмове да яе адзін са складальнікаў Генадзь Пашкоў (а другім з’яўляецца Браніслаў Спрынчан), - спроба вярнуцца да каранёў, прайсці праз гісторыю, глянуць з сённяшніх дзен у будучыню нашчадкаў. Гэтаму паспрыяюць крынічныя галасы ад паэтычных радкоў нашага агульнага літаратара, філосафа і грамадскага дзеяча і, па словах Васіля Традзьякоўскага, самага першага вершатворца ў Вялікай Расіі на славянскай мове Сімяона Полацкага да твораў сённяшніх літаратараў Беларусі і Расіі”.



Адпаведна кніга складаецца з двух раздзелаў. Першы – “З братняю Руссю” – склалі творы беларускіх паэтаў пра Расію, нашу агульную гісторыю, хараство прыроды суседняй краіны, водгулле асабістых кантактаў літаратараў. Эпіграфам узяты радкі Максіма Танка:

Пра вас нашы песні складаліся шчыра,
І колас, засмяглы, у полі звінеў,
І кожнай вясною, вітаючы вырай,
Лавілі мы ўсходняга ветру павеў.

Прадстаўнічае кола аўтараў: ужо згаданы Сімяон Полацкі з яго «Приветственными «Метрами», Максім Багдановіч з перакладам са “Слова аб палку Ігаравым” (так назва гэтага твора падаецца перакладчыкам) “Песні пра князя Ізяслава Полацкага ”, Янка Купала, Якуб Колас, далей аўтары ідуць у алфавітным парадку: Мікола Аўрамчык, Раіса Баравікова, Анатоль Вялюгін, Уладзімір Глушакоў з яго публіцыстычным роздумам “На кругі своя” (адметнасць “анталогіі братэрства” ў тым, што яна і паэтычная, і празаічная, і публіцыстычная адначасова), Казімір Камейша, Уладзімір Карызна, Аркадзь Куляшоў, Валянцін Лукша, Мікола Мятліцкі, Іван Навуменка, Уладзімір Някляеў, Міхась Пазнякоў, Сяргей Панізнік, Пімен Панчанка, Алесь Пісьмянкоў, Алесь Савіцкі, Эдуард Скобелеў, Іван Шамякін, Яўгенія Янішчыц – усяго 82 аўтары.

Назву другому раздзелу – “Белорусы мои, белорусы…” – далі радкі Яраслава Смелякова, якія сталі і эпіграфам:

Вы родня мне мне по крови и вкусу
По размаху идей и работ,
Белорусы мои, белорусы,
Трудовой и веселый народ.

І гэткае ж прадстаўнічае кола аўтараў – 68! А сярод іх – Мікалай Асееў, Сяргей Гарадзецкі, Аляксандр Грыбаедаў, Гаўрыла Дзяржавін, Юлія Друніна, Міхаіл Ісакоўскі, Пётр Кошаль, Апалон Маякоў, Барыс Пастэрнак, Аляксандр Пракоф’еў, Канстанцін Сіманаў, Якаў Хелемскі… Апошні выступае з вершам “***Люблю поэтов белорусских”, у якім гучыць і замілаванне беларускай мовай:

Живут в мелодике стихов
Свобода первозданной речи,
Жужжанье пчел, журчанье речек
И журавлей осенний зов.

О, эти ДЖЫ и ДЗЕ и ЦЕ!
Дзяўчына,
    збожжа,
        дзень,
            дзівосны
Созвездьям слов созвучны сосны,
Лозняк в закатном озерке.

А завяршаецца кнігай падборкай “З фоталетапісу”, якому папярэднічаюць радкі Г.Пашкова:

Вазьмі старое фота,
Угледзься пільна ў нас,
    адчуй пару
        ўзлёту
    настрой,
        парыў
            і час…



Кніга неардынарная. І анталогія незвычайная. І стаўленне да яе, безумоўна, будзе螺 рознае. Адно хацелася б сказаць напаследак: гісторыю можна спасцігаць глыбей, пераніцоўваць – справа няўдзячная. Гісторыю ўзаемасувязяў беларускай і рускай літаратуры – тым больш!

*Літаратура і мастацтва, 30.10.1998 г.*

**Александр Федута**

**Да – культуре, нет – войне.**

Дорогой Алексей Константинович!

Вы спрашиваете меня, как я понимаю «русский мир». То есть, разумеется, никакого более «простого» вопроса задать белорусу, которого другие белорусы с плохо скрываемой иронией называют «пушкинистом», Вы не можете.

Придется отвечать.

Есть такая пословица советских времен: «Два мира – два Шапиро». Сейчас ее можно переделать к случаю: «Два Иванова – два мира».

Существует мир высокой русской культуры. От Андрея Рублева до Рафаила Фалька. От протопопа Аввакума до Иосифа Бродского. От анонимных авторов партесных распевов до Дмитрия Шостаковича. Наконец, от нестяжателей до Андрея Сахарова. Люди там разные, с разными судьбами, разными – противоречащими друг другу зачастую – взглядами. Среди них есть фанатики, есть имперщики, есть либералы. Но все они – носители идеологий, не направленных на уничтожение иных идеологий и тех, кто их исповедует. Многие из них – жертвы, но не палачи. Даже стихотворение Бродского на отделение Украины, стыдливо не включенное его наследниками в полное собрание стихотворений гениального поэта, является выражением крайне резкой позиции – однако не призывом к уничтожению народа, государства, их культуры и языка.

И существует другой мир – но от этого не менее русский. Где-то там, в этом мире, большевик Эдуард



Лимонов пожимает руку большевику Петру I. Сыноубийца Иван Грозный любуется предавшим собственного сына на смерть Иосифом Сталиным. Железной рукой загонявший народы в светлое будущее Лев Троцкий подписывает воззвания в тех же журналах, что и пламенный реакционер Константин Победоносцев. И кто бы из них ни был палачом или жертвой, все они едины в желании любой ценой добиться поставленной цели и навязать эту цель другим.

Какой из этих миров – русский? Или, скажем так, – более русский? Не знаю.

Но попытаемся вдуматься в историю и культуру Франции и Великобритании, Германии и Японии, Испании и Италии – и мы увидим, как идет водораздел по тем же самым принципам. Мы с Вами оба сдавали когда-то кандидатские экзамены по марксистско-ленинской философии, и учение Ленина о двух культурах в рамках одной национальной культуры изучали. Только речь идет не о культуре угнетателей и культуре угнетенных. Речь теперь идет о мире человечности и мире агрессии. А уж аргументы в пользу того, что «русский мир» или «японский мир» является миром человечности или миром агрессии, каждый сколько-нибудь образованный человек в состоянии подобрать – и в интернет лезть не нужно.

Проблема в том, что в разные эпохи разные поколения одного и того же народа востребуют разную идеологию. И обосновывают свой выбор, апеллируя к Истории и Культуре. А их оппоненты, доказывая, что этот народ совершил неправильный выбор, начинают воевать с Историей и Культурой.

Так мы дошли до Пушкина, дорогой Алексей Константинович. В Могилеве, как Вы помните, какие-то недоумки решили поставить ему очередной памятник и украсить его цитатами из стихов, смысла и исторического

контекста создания которых они не понимали. Виновен ли в этом Пушкин? И если да, виновен, то как оценить первые два тома собрания сочинений Максима Танка, почти сплошь состоящие их похвал Иосифу Сталину? Вырвем их из контекста, издадим отдельной книгой и без комментариев – и вот Евгений Иванович Скурко уже слагает хвалу одному из величайших убийц всех времен и народов. Стихи-то его…

Пытаясь оправдать свое откровенное пренебрежение сложившейся системой международного права, действующая российская власть ищет оправдание в концепции «русского мира», которая якобы может объединить всех, кто говорит или пишет на русском языке, молится в православных храмах, любит русскую культуру. А на деле это – фантом. Теоретически я понимаю, что святой митрополит Филипп (Колычев) молится за душу Ивана IV, а Николай II – за Свердлова и Юровского, но нет единства меж ними. Нет и быть не может. И «русского мира» в трактовке Владимира Путина и Владислава Суркова, стало быть, тоже не может существовать – выпадают из этой концепции Модест Мусоргский и Петр Чайковский, Валентин Серов и Михаил Врубель – вот хоть убейте меня, но выпадают. И не только они.

И тогда возникает встречный вопрос. Те из оппонентов Путина и Суркова, кто радостно воспринимают путинско-сурковскую концепцию единого «русского мира» как адекватную действительности, – им-то зачем это нужно? Затем, чтобы оправдать самих себя, собственную воинственность? Чтобы не дурацкую и бестактную цитату из Пушкина с памятника снять, а и все памятники поэту повалить на землю? Зачем?!

Я теперь работаю в Киеве, Вы, вероятно, знаете об этом. На улице Терещенковской стоит памятник Илье



Репину. Висят мемориальные доски в честь Михаила Врубеля и Александра Вертинского. В театрах идут спектакли по пьесам Антона Чехова и Ивана Тургенева. И это никому не мешает. И даже тома исторических трудов Карамзина и Соловьева продаются в книжных магазинах совершенно беспрепятственно.

Это – позиция народа, свободного от предрассудков. Украинцы развивают собственную культуру, а не сражаются с чужой. Есть, конечно, разные люди, с разной позицией. Но одно дело – внести в «черный список» Иосифа Кобзона (хотя и это граничит с идиотизмом, не должно быть «черных списков» и запретов), и совсем другое – запрет на язык и на культуру целого народа, которые из мировой культуры не вычеркнешь. Слава Богу, до этого дело не дошло.

Дорогой Алексей Константинович!

У меня много друзей в России. И они остаются моими друзьями. Я люблю и уважаю их. А тех, чьи взгляды по проблеме украинско-российских отношений начали расходиться с моими собственными, я попросил: давайте не комментировать по этому поводу позицию друг друга. Мы ведь не знаем, кому именно из нас будет стыдно через лет десять. Каждый верит, что – не ему.

Вы знаете, они согласились со мной. Так мы и не комментируем позицию друг друга. Потому что трудно перечеркнуть свою жизнь и то, что связывает тебя с другими. Не хочется. Один раз перечеркнешь – на всегда потеряешь самоуважение.

Что же касается Пушкина, о котором Вы не спрашивали, но тень которого все равно витала над нашей перепиской… На том свете, в литературном раю, они с Адамом Мицкевичем и Янкой Купалой обсуждают

проблемы адекватного перевода «Трех Будрысов» – а где-то рядом, на соседнем облаке, Рабиндранат Тагор спорит с Редьярдом Киплингом не о проблемах распада Британской империи, а о величии Данте и Фирдоуси. И борец с империей Тарас Шевченко, и слуга империи Федор Тютчев вместе проводят автограф-сессии для пролетающих на юг ангелов.

Это и есть – мир культуры.

Тот мир, к которому я хотел бы принадлежать.

С уважением и благодарностью за возможность высказаться

Ваш АиФ.

*2015*



**Віктар Шніп**

**25 сакавіка 1994**

Ячшэ далёка нам да Волі,
Але ідзём, ідзём штоміг.
Не здай нікому і ніколі
Свой Дзень і Край.
Людзей чужых
Ва ўсе вякі між нас хапала,
Ім вечна трэба быў хамут,
Каб наша Беларусь “пахала”
І памірала ад пакут.
Жыве і будзе жыць наш Кут!
І хай не думае сусед,
Што мы рахманыя і нас
З дарогі зб’е і да яго
Мы пабяжым, як у калгас
Калісьці беглі, каб пасля
Не мець нічога з мазаля…
Ячшэ далёка нам да Волі,
Ды ёсць наш дзень, і ёсць наш Край.
Ты іх нікому і ніколі
Нат перад смерцю не аддай!

*“Наша слова”. 1994. №12*

**Сяргей Панізнік**

**Хварэю на суседзяў**
(жарт)

Хочу любіць суседзяў,
Вакцыну дзе дастаць?
У Латвіі падгледзеў:
Каштуе латаў пяць.
Не прадаюць: баяцца
Лівонію аддаць.

У Летуве ёсць помач.
Але пачуў, бядак:
- Калі б не Ермаловіч
і Молатаў-ядак, -
Лек аддалі б за так.
Хай выручыць паляк!

Да Рэчы Паспалітай
Я быў даўно прышыты.
З Варшавы зык: - Ідзі ты…
Браслаўе маеш? Квіты!
На санацыйных Крэсах
Лячыся сам, агрэсар.

Чарнігаўшчына лашчыць,
Лячыць гатовы Львоў:
- А як жа: у вашай пашчы
Наш паляшук гуляшчы…
Каб не валыніў нашча, -
Прышчэпка ёсць: "Любоў!"



Абдымачкі Смаленска
Падціснуў Петраград:
- Адзінакроўны брат!
Мы вылечым "до блеска"
Саюзны апарат.
Прышчэпку дасць Крамлёвец,
Пахваліцца: - Мы – раць!

…З дыфузіяй у свеце
Нам добрасці ствараць
Сяброў не выбіраць.

А хітрыкі не згледзеў, -
Адно магу: суседзяў
Любоўю пакараць.

*2010-06.08.2011*

**Міхась Скобла**

## “Пагоня” з вуснаў расіянкі

Мой знаёмы масквіч-беларус аднойчы скрушліва прызнаўся: цягам доўгага жыцця ў расійскай сталіцы не пачуў з вуснаў маскоўскіх калег-пісьменнікаў, перакладчыкаў жывога слова па-беларуску. Мне ў гэтым сэнсе пашанцавала больш — падчас чацьвёртага ці пятага прыезду ў Маскву (заўсёды — кароткачасовага) я мову пачуў. Ды якую мову! — «Пагоню» Багдановіча! Ды ад каго — ад вядомага палітыка і знакамітай дысыдэнткі Валерыі Навадворскай! Чытала яна з акцэнтам, але як жа пранікнёна, з якой працінальнай чуласцю!. І ў гэтым быў кайф.

Была нядзеля, быў касьцёл, дзе вянчаліся маладыя Янка Луцэвіч і Ўладка Станкевічанка, быў помнік Купалу на Кутузаўскім праспэкце — і тады, і цяпер афіцыйна не адкрыты. І мне захацелася атрымаць нейкі ўцямны адказ ад кагосьці з масквічоў — чаму ў вас Купала стаіць фактычна нелегалам? Калі ў Маскве помнік Пушкіну адкрывалі, на набярэжнай Сьвіслачы паўдня бутлі з шампанскім бухалі ў Мінску.

У маім нататніку знайшоўся толькі службовы тэлефон Навадворскай. Хто ж сядзецьме ў выходны дзень у офісе? Яна сядзела. «Пан Міхась, прыяжджайце,» — і назвала адрас. Трохі зьбянтэжаны такім зваротка (мяне так ніхто і ніколі не называў), я паехаў на Цьвярскі бульвар, адлічыў ад помніка Пушкіну патрэбную колькасьць крокаў і зайшоў у будынак бяз шыльдаў. Думалася пра канспірацыю, пра якую мусяць дбаць маскоўскія апазыцыянэры. Ахоўнік набраў унутраны нумар.

Шмат хто ў апошнія дні пісаў пра мажнасьць Валерыі Ільлінічны, пра тое, што ў яе балелі ногі. А ўсяго паўтара



году таму яна не сыходзіла па лесьвіцы — зьбягала, узмахваючы рукамі, як гераіня адной з гайдаеўскіх кінакамэдый студэнтка Ліда пасьля пасьпяхова здадзенага іспыту. Прызнаюся — я тады міжволі залюбаваўся.

Прагаварылі мы гадзіны дзьве — з дыктафонам і без, хоць маю суразмоўцу кожныя хвілінаў пятнаццаць тузалі па мабільніку, кудысьці клікалі. У гутарцы неяк вельмі натуральна і ўсплыла «Пагоня», якую Навадворская цьвёрда называла беларускім нацыянальным гімнам, для іншых тэкстаў месца ў гэтым жанры яўна не пакідаючы. На падмацоўку кожнай сваёй тэзы яна зь відавочным задавальненьнем цытавала страфу ці дзьве — і такім чынам прагучаў увесь верш.

Я выказаў сумненьне, што ў 50-я гады ў Баранавічах (радзіма Навадворскай) вывучалі ў школах «Пагоню». Валерыя Ільльнічна насьмешліва зірнула праз тоўстыя шкельцы акуляраў: «А колькі сёньня ў Баранавічах беларускіх школаў?» — «Ніводнай». — «Вы дарэмна думаеце, пан Міхась, што пасьляваенныя камуністы былі большымі нацыяналістамі за сёньняшніх лукашыстаў».

Між іншым, пасьля выхаду тае перадачы ў эфір на Радыё Свабода мне сёй-той казаў: Навадворская да дзевяці гадоў жыла ў Беларусі, у школе тут вучылася, таму і вершы са школьнай хрэстаматыі ведае... Дзевяць гадоў — гэта максымум другая кляса. Хацеў бы я пабачыць таго настаўніка расейскамоўнай баранавіцкай школы (і ў пояс яму пакланіцца!), які ў 50-я гады ставіў «пяцёркі» другаклясьнікам за дэклямаваньне «Пагоні»... Не, Багдановіч у навучальнай праграме Навадворскай яўна ўваходзіў у «пазакляснае чытаньне», калі кнігу бяруць у рукі не для адзнакі, а для душы.

Пакінуўшы Баранавічы (старажытны горад — паводле вядомага аматара вершаў Быкава) у дзевяцігадовым

узросьце, Навадворская на ўсё жыцьцё захавала сантымэнт да рэдка чутай у маленстве беларускай мовы і Беларусі (асабліва — да Заходняй). Тады ж, падчас тае сустрэчы ў Маскве, яна прызналася, што зьберагае дома мяшэчак зь беларускай зямлёй...

Ведаючы пра яе абазнанасьць у сусьветнай літаратуры, я папрасіў назваць беларускіх пісьменьнікаў, беларускія творы, якія вартыя прызнаньня ў цэлым сьвеце. Трохі падумаўшы, Валерыя Ільлінічна назвала кнігу-помнік «Я з вогненнай вёскі» Алеся Адамовіча, Янкі Брыля і Ўладзімера Калесьніка, «Апошнюю пастараль» таго ж Адамовіча. Назвала і імя Васіля Быкава. «А якія творы?» — «Усе!» — прагучаў адказ.

Пра быкаўскіх герояў Петрака і Сьцепаніду са «Знаку бяды» яна гаварыла, як вернік гаварыў бы пра апосталаў Пятра і Паўла. Хоць, як згадаць таго Петрака (у пташукоўскім фільме яго бліскуча сыграў Генадзь Гарбук), — звычайны хутаранец, якіх тысячы было ў Беларусі падчас вайны.

Так, Навадворская, як мала хто з сучасьнікаў, ведала літаратуру. Усю — ад старажытных рымлянаў да паэтаў Срэбнага веку і савецкага графа Аляксея Талстога. За вокамгненныя дзьве гадзіны я пачуў, як яна смакавала афарыстычныя радкі Барыса Чычыбабіна. Захаплялася апошнімі вершамі Мікалая Гумілёва і — асабліва — яго паводзінамі ў чэкісцкіх засьценках перад расстрэлам. Іранізавала над Маякоўскім зь яго вядомым: «Я хочу, чтоб к штыку приравняли перо». Гэта ад яе я ўпершыню пачуў працяг гэтых радкоў, што гучаў як пародыя: «С чугуном чтоб и с выделкой стали о работе стихов на Политбюро чтобы делал доклады Сталин». Пра Багдановіча, які быў беларускім Срэбным векам у адной асобе, я ўжо згадваў.



Паводле Навадворскай, беларусы мусілі ў жыцьці кіравацца «Пагоняй», там прапісана ўся наша нацыянальная ідэя.

На разьвітаньне яна надпісала мне сваю кнігу «Паэты і цары»: «Сябру Михасю Скобле от В. Новодворской. Живе Беларусь! 19.11.2012». Выйшла з расейскім акцэнтам — як і цытаваньне «Пагоні». Гэты амаль пяцісотстаронкавы том я параіў бы ў якасьці падручніка ўсім студэнтам-філёлагам. Навадворская таленавіта ўзьняла на катурны сапраўды вартых творцаў, а пралікі іхныя бязьлітасна зрэвізавала. Прыкладам, паэму «Дванаццаць» Аляксандра Блока, разгадваючы якую пасівела не адно пакаленьне ўнівэрсытэцкай прафэсуры, “рэвізор” Навадворская назвала папросту «прафанацыяй хрысьціянства». Не, званьне gonoris causa за літаратуразнаўчыя дасягненьні ёй у Расеі ніяк не сьвяціла. Хоць на лекцыі Навадворскай, пусьці яе ў МГУ, студэнты, я ўпэўнены, зьбягаліся б натоўпамі.

Бескампраміснасьць і непадкупнасьць Велерыі Навадворскай у адстойваньні ўвідочненай ёй ісьціны праявіліся яшчэ ў той час, калі яна вучылася ў Маскоўскім інстытуце замежных моваў і рыхтавалася стаць перакладчыцай францускай літаратуры. Аднойчы, адклаўшы ўбок недаперакладзенага Камю, яна напісала антыкамуністычную ўлётку-верш, дзе быў рэфрэн: «Спасибо, партия, тебе». Там дзячылася КПСС за рабства і двудушша, за хлусьню і подлае маўчаньне, за паходню на праскай плошчы — меўся на ўвазе Ян Палах, які самаспаліўся, пратэстуючы супраць савецкай акупацыі ў 1968-м.

Аддзячаная партыя паспрабавала правучыць дысыдэнтку псыхбольніцай. Не дапамагло. Паспрабавала Ляфортаўскай турмой. Безвынікова. Паспрабавала спакусіць падсалоджаным на Лубянцы хлебам эміграцыі. Але і гэта не ўдалося. І партыя зьмірылася. А начапіўшы тогу дэмакраты,

ужо ў 1993-м, наважылася нэўтралізаваць Навадворскую ордэнам. Яна ўзнагароду адпрэчыла. Дарэчы, я неяк спрабаваў высьветліць, хто зь беларускіх дзеячоў ці творцаў адмаўляўся ад дзяржаўных ордэнаў. І атрымалася, што такіх за ўсю савецкую гісторыю папросту не было. Ніводнага. Найбольшае, ад чаго ў нас адмаўляліся, — ганаровых грамат камсамолу...

Пра неадкрыты помнік Купалу мы з Валерыяй Ільлінічнай тады так і не пагаварылі. Купала ёй быў нецікавы. Каліноўскі — так: бясстрашны, самаахвярны, сапраўдны герой. Згодна зь яе перакананьнямі выходзіла, што кожны палітык павінен быць гатовы ў любы момант узысьці на эшафот. Наш Кастусь і Жанна д'Арк былі тут для Навадворскай яскравымі ўзорамі. Сама яна загінуць у супрацьстаяньні з ворагам лічыла сваім абавязкам. Але — каб на барыкадах, каб сьмерць сустрэць тварам у твар. І, як заўсёды, падмацоўвала сваю думку вершаванымі радкамі, у гэтым выпадку — гумілёўскімі: «И умру я не на постели, при нотариусе и враче»... Але сьмерць менш за ўсё клапоціцца пра геройства сваіх ахвяраў.

Адзін з паплечнікаў Валерыі Навадворскай параўнаў яе жыцьцёвыя прынцыпы з самурайскім кодэксам. Маўляў, памерці за радзіму — запаветная мара самурая.

Дзіўнае японскае слова «самурай». Яно як бы складаецца з трох беларускіх. Сам у рай трапіў — вось і атрымаўся самурай...

Ня ведаю, які кодэкс спраўдзіць у рабы Божай Валерыі апостал Пётра. Сумняваюся, што самурайскі. Мне здаецца, што яму будзе больш цікава паслухаць анёлаў-суправаджальнікаў, якія раскажуць, як новапрыбылая да райскай брамы душа заўсёды слугавала свабодзе і супраціўлялася чалавеканасільніцкім рэжымам. Як раба Божая Валерыя ўсім сваім жыцьцём аспрэчвала і ўрэшце



аспрэчыла папулярны ў народзе выраз пра тое, што адзін у полі не наваюеш. Валерыя Навадворская даказала: і адна ў полі — воін, калі раці за сьпіной няма, а ворагу даваць адпор трэба.

*Архіў укладальніка – А.К.*

**Дзмітрый Паўлычка**

* * *

Маголы, маголы,
Залатога Тамерлана ўнукі голыя
Т.Шаўчэнка

Спаміж гарамі белянеюць юрты,
Чырвоных коней ходзяць табуны –
Манголы там жывуць, а не манкурты
І словам родным цешацца яны.

Нібыта Бог ім: маеце спадручна
Еўропу, Азію – вам цалкам аддаю,
А вы мне – мову, вельмі ж мілагучна,
Дзядоў-прадзедаў аддасцё сваю.

Яны ў адчаі: “Літасцівы Божа!
Не трэба нам ні Азій, ні Еўроп,
Бо хто, скажы, якім дыханнем зможа
Імчаць нас стэпам з песняю ўгалом?

Бо слова наша – цуд над марным хлудам,
Бо не заслоніць сонцасвет бяльмо,
Бо - дух народу … О, ўладарца Будда,
Вазьмі з нас ўсё – мовы не аддамо”.

Мае адукаваныя маголы –
Нашчадкі вояў з пракавечным злом.
Вы спляжылі за мовай следам - школы,
Каб стаць манкуртамі з блішчастым лбом.



Адвечных сцежак здраднікі-халопы,
Сярбаць вам паліўкі прадажнай каламуць.
Чакаеце вы гузікаў з Еўропы,
Альбо шнуркоў, што з Азіі дашлюць.

Ды не спатоліць халява галоту.
Смяюцца з вас народы і багі.
Грызіце костку з-пад чужога плоту.
Хай караю вам – помсты батагі.

*Пераклад з украінскае К.Атрашэўскага*

вершаваных цытатаў беларускіх аўтараў. З іншага боку, і сапраўды толькі застаецца пагадзіцца з тым, што ў фарміраванні беларускага нацыянальнага руху надзвычайную ролю выканала паэзія, і таму такое перанасычэнне вершамі мае свае рэзоны.

Вось толькі любоў аўтара да шматлікіх цытатаў (і не толькі вершаваных) пакідае досыць супярэчлівае ўражанне па прачытанні. Сам жанр інтэлектуальнай гісторыі вымагае аперыравання тэкстамі і думкамі, але ж пры гэтым патрабуе і прыцягнення іншых працэдур – найперш, кантэкстуалізацыі, якая б дазволіла нам зразумець паходжанне і значэнне агучаных словаў. І ў гэтым плане кніга Кірчанава дае вельмі мала: любыя спробы кантэкстуалізацыі вельмі абмежаваныя і практычна не даюць нейкай вытлумачальнай інтэрпрэтацыі. Таму звычайна пераказ ідэй розных аўтараў разгортваецца па схеме "X сказаў тое, потым ён сказаў яшчэ вось тое, а Y сказаў тое". Пры гэтым спосабе разгортвання распаведу амаль цалкам губляецца генеалагічная пераемнасць, нівеліруецца складаны і супярэчлівы інтэлектуальны ландшафт нашай краіны, з канкурэнцыяй, але і з супрацоўніцтвам розных ідэйных плыняў, звязаных міжсобку працэсамі адмаўленняў і запазычанняў. Фактычна як такой "інтэлектуальнай гісторыі" тут няма, мы бачым толькі чарговы пераказ ідэй і напрацовак беларускіх гісторыкаў і мысляроў, які падаецца праз канструктывісцкую прызму, але ніякім чынам гэта не абагачае наша веданне разгляданай тэмы.

Яскравым сведчаннем максімальнай схематычнасці апісання з'яўляецца тое, што да стваральнікаў беларускага нацыяналізму адносяцца толькі Францішак Багушэвіч, Вацлаў Ластоўскі і Ігнат Абдзіраловіч. Выключна іх погляды адмыслова разглядаюцца (і то, глыбокім гэты



разгляд назваць цяжка). Іншыя ж знакавыя постаці паўстаюць ужо толькі ў форме перапрацаванага пантэону нацыянальных дзеячоў. Калісьці В. Булгакава абвінавацілі ў тым, што ён максімальна абсёк гісторыю беларускага нацыяналізма, але Кірчанаў тут пайшоў яшчэ нашмат далей.

А паколькі аўтар усё ж ведае сітуацыю ў Беларусі дыстанцыйна, то час ад часу робіць вельмі спрэчныя высновы, якія можна патлумачыць толькі павярхоўным веданнем кантэксту. Напрыклад, вывад пра існаванне шматлікіх перакладаў навуковых даследаванняў па нацыяналізму на беларускую мову і пра перавагу ў гэтым аспекце над расійскай традыцыяй перакладаў (ст. 10) грэе душу, але пагадзіцца з ім не дае сумленне. Публіцыстычныя выпады некаторых беларускіх аўтараў Кірчанаў успрымае ўсур'ёз і пачынае транслёраваць чарговыя недакладнасці: кшталту, што Інстытут гісторыі НАН Беларусі прапануе версію гісторыі, якая супадае з руска-савецкім імперскім міфам (ст. 172). І такіх спрэчных месцаў досыць шмат. Па ідэі яны павінны былі быць адсечанымі навуковым рэдактарам з Беларусі, але паколькі такі адсутнічае, то і блыхі паўзуць у розныя бакі.

Адзначу, што пры згаданай вышэй нейтральнасці ў дачыненні да беларускага нацыяналізму, аўтар відавочна мае нейкія відавочныя прэтэнзіі да палякаў. Паколькі цалкам бяздоказнымі выглядаюць пасажы пра тое, што галоўная мэта польскіх СМІ, урадавых і грамадскіх арганізацый – праз павялічэнне польскай прысутнасці адарваць ад нашай краіны Гродзенскую і Брэсцкую вобласці (ст. 117); што польскае і прапольскі арыентаванае насельніцтва краіны складае каля 10% і мае тэндэнцыю да павялічэння (ст. 129-130). Выснова, што "фактически создается инфраструктура польского влияния, чтобы с ее помощью при определенных условиях достичь в этих

регионах цели-максимума: раздуть религиозно-этнический конфликт по «косовскому варианту», отторгнуть их от Беларуси и передать Польше» (ст. 130) была б натуральнай для артыкулу ў газетах кшталту “Славянский набат”, але на агульным фоне больш-менш бесстароннага апісання гэтыя палонафобскія матывы выглядаюць вельмі дзіўна.

Калі паспрабаваць знайсці асноўныя станоўчыя якасці ў разгляданай кнізе, то я б сказаў, што яе можна выкарыстоўваць у якасці ўводзінаў у праблематыку беларускага нацыяналізму і нацыянальных ідэалогій для чытача, які зусім з ёй не знаёмы. Сапраўды, скампіліраваны досыць вялікі аб’ём матэрыялаў, і можна ўжо не пераварочваць тоны тэкстаў, а на падставе дадзенай працы наўпрост адшукваць патрэбныя крыніцы. Але сам змест інтэлектуальных дыскусій пра нацыю і нацыяналізм, якія разгортваліся ў Беларусі, пададзены вельмі павярхоўна, і таму застаецца раіць усё ж пры магчымасці чытаць першакрыніцы. Напэўна, найбольш кніга прыдатная для расійскага чытача, які не чытае па-беларуску.

Але што сапраўды выклікае сум пасля прычытання кнігі – гэта поўная адсутнасць свежых думак і цікавых высноваў. Прымяненне канструктывісцкага апарату для разгляду беларускага нацыяналізму – далёка не наватарскі і даўно ўжо не арыгінальны ход. І вось “Інтэлектуальная гісторыя беларускага нацыяналізму” дастаткова прадказальная па змесце, і нават асноўныя недакладнасці лёгка апазнаюцца па тутэйшым паходжанні.

*/ *Аляксей Ластоўскі - супрацоўнік Інстытута палітычных даследаванняў “Палітычная сфера”, кандыдат сацыялагічных навук*



**Виктор Хурсик**

## Что за поворотом?

*О книге Ю.Борисенка «На крутых поворотах белорусской истории» (М., 2013)*

Последние события в мире заставляют еще и еще раз внимательно прочитывать то, что касается национального вопроса. В этом плане миролюбивая и спокойная Беларусь, которая открыто проповедует дружбу со всеми народами, нет-нет да и подвергается насмешкам и сторонним «исследованиям», связанным со своей историей.

Юрий Аркадьевич Борисенок, доцент истфака МГУ, тамошний специалист по истории Польши, выпустил в свет недавно книгу «На крутых поворотах белорусской истории» (М., 2013). Сам по себе факт обращения к этой теме российского историка можно было бы приветствовать, если бы не одно «но»: заглавие никак не соответствует содержанию, а история Беларуси, опять же, сведена к умозаключениям автора. Впрочем, книгой этот труд и назвать-то тяжело, это скорее наукообразный винегрет, густо заправленный солью.

Итак, ко вкусам автора. Прежде всего, поражает его ненаучный лексикон. Одного зарубежного оппонента, доктора наук, он пренебрежительно списывает на свалку просто из-за того, что тот – «выпускник журфака и сельхозакадемии». Другого неаргументированно костит за его стремление разобраться в белорусизации двадцатых годов. Достается и Позняку, и официальному белорусскому историку Сергею Хомичу, который «поставил задачу рассмотреть проблему границ «глядя из Минска», причем современного, с точки зрения «белорусских интересов» с

оглядкой на новое здание Национальной библиотеки и «Минск-арену» (тонкий намёк на патронаж этих объектов президентом Лукашенко). Видимо, на занятиях со студентами Юрий Аркадьевич еще более откровенен.

Аргументированная, научная критика пассажей автора была бы просто унизительной для того, кто мало-мальски знаком с историей. Однако, и пройти мимо было бы неправильным. Поэтому, кратко. Вот один из росхожих постулатов историков «русского мира» устами Борисёнка: «Специфика адаптации белорусских земель в составе Российской империи определялась, прежде всего, тем обстоятельством, что их политическая элита после Люблинской (1569) и Брестской церковной уний (1596) быстро консолидировалась с польским правящим слоем. Специфические традиции ВКЛ к концу XVIII в. были практически полностью утрачены». Трудно понять, что хотел сказать автор, не ссылаясь на источники. Возражу. Все наши союзы с поляками носили добровольный характер и принимались демократической процедурой голосования. Мои предки, белорусы, не нашли тогда Московию Ивана Грозного привлекательной. Вступив в Люблинскую унию с поляками, они ни с кем не «консолидировались». В Речи Посполитой были сохранены все атрибуты белорусской государственности – конституция, сейм, двор, армия, язык. В Речи Посполитой для белорусов сохранялось белорусское гражданство. Сделки с землей на территории тогдашней Беларуси – ВКЛ – могли совершать только ее граждане. И в советской, и в современной российской исторической литературе много говорится о «полонизации» белорусов. Замечу, что выбор языка общения – личное дело каждого. Польский язык, как единый официальный в делопроизводстве, был введен лишь спустя столетие совместной жизни с поляками в федеративном государстве.



И то только потому, что юридическая практика требовала однозначного толкования документов. Голосовали за это белорусы добровольно. В начале – на своем сейме, а потом на общем с поляками. Признание ценностей западной цивилизации не есть полонизация, исповедание католической и греко-католической веры – это выбор совести. Нам нет нужды придумывать мифы, наша земля и люди непрерывны и вечны. И я ощущаю нерушимое единение с своими предками из-под местечка Дукора на Минщине, имея родословную с екатерининских времен. Это о моих предках автор рассуждает, как о стаде баранов, которых Сталин попытался «обеларусить». Понятно, что Юрию Аркадъевичу и в голову не придет сказать, что государство Израиль Сталин также «объевреил». Это с его согласия оно было создано в 1949 году...

Российская экспансия на запад в XVIII веке была чудовищной, и это она отняла у белорусов и язык, и государство. Рассуждая о поворотах белорусской истории автору надлежало сказать о том, что белорусские вооруженные силы, хоть и были малочисленны, но оказывали сопротивление российскому вторжению, рассказать правду о белорусско-русской войне 1792 года, которую, русские историки почему-то называют русско-польской, о сражениях под Миром, Зельвой, про оборону Вильни.

Из письма председателя цивильно-войсковой комиссии порядка Минского воеводства генерала Завиши великому князю и королю Станиславу-Августу.

«Найяснейшы кароль, пане мой міласцівы,
Пакольки абавязкі вернага абываценя неабмежаваныя, то, міласцівы пане, у тлуме данясенняў ёсць тыя, якія ўпэўнена атрымліваю з дому і дакладна пераказваю. Таму з

упэўненасцю паведамляю, што ваявода Хамінскі раптоўна памёр пад Вільняй у Янішках, вяртаючыся з Пецярбурга. Пісаў генералу Забелу, каб знёсся з парадкавай камісіяй, апячатаваў і лісты, і рублі, і вэкслі, якія напэўна ў яго адшукаюцца, калі ментар-біскуп, які пры ім знаходзіцца, гэтаму не перашкодзіць. Міласцівы пане, не без прычыны раю прызначыць генерала Забелу на каманду ў Польшчу, каб не быў у Вільні. Каб жа, таксама, выдаць універсал з указаннем, што камісіі парадкавыя не спыняюць сваю дзейнасць, аб гэтым мыслю ў найпатрэбнейшы час. Пра што толькі пэўнае даведаюся, рапартаваць не праміну, пакуль буду магчы. Мы аддаём сябе пакравіцельству вашай айцоўскай каралеўскай мосці ў час, калі наша жыццё і маёнткі ў крытычным стане, але ніколі не перастануць існаваць.

Вершай каралеўскай мосці пана Міласцівага верны падданы Казімір Завіша.»

Ниже слева - приписка:

«29 мая 1792. Са Слоніма.
Прыбылы з Барысава зараз аконам гетмана Агінскага сцвярджае, што Бобр адышоў Маскве, перад якой ковенская брыгада пастаянна [адыходзіць] у тыл, да Мінска».

Из этого документа следует, что белорусы видели в лице России врага, а также то, что перед этим русские власти вели подкуп всех и вся внутри, чтобы спровоцировать смуту и гражданскую войну. Отмечу, что упомянутый белорусский гетман Михал Казимир Огинский храбро сражался с Суворовым в 1772 году, был в боях за родину и через двадцать лет, не принял российского подданство, эмигрировал и заочно был лишен всех своих



владений на родине, а графский род Завишей никогда не был польским. Приблизительно в это время, 10 июня 1792 года, когда война шла полным ходом, недалеко от Минска в Красносельской парафии собрались представители шляхты Минского воеводства. Перед лицом иноземного вторжения и отсутствия достаточной обороны двадцать шесть человек решили засвидетельствовать Станиславу Августу свою преданность. Только принуждение силой и угроза смерти, заявляли они, могут заставить землевладельцев Минщины отречься от присяги на верность великому белорусскому князю.

Русские принуждали себя любить силой оружия. На первом этапе инкорпорации белорусских земель они разрешили использовать традиционные для белорусов язык, веру и суд. Но когда расстановка сил была закончена, всё это было пущено под нож вместе упоминанием о национальной принадлежности.

Перескакивая из эпохи в эпоху автор стремится доказать, что, в общем-то, белорусы – искусственное явление. Весьма «оригинальна» в этом плане его трактовка январского восстания 1863 года. На множестве страниц идут измышления о личности Кастуся Калиновского – под слэнговой эскападой «коситузации», уместной разве что в желтой прессе, но вряд ли – в «научном издании» каковым оно представлено читателю. «Приливы и отливы по линии противостояния с Польшей в 1930-е годы отражались и на востребованности сконструированной мифологической фигуры «Кастуся», – такой «научный» вывод делает Борисёнок. Об этом, видимо, он не забывает сказать и в Полоцке, где для студентов-историков Полоцкого государственного университета читает спецкурс по конфессиональной истории Беларуси.

Хочется напомнить г-ну Борисенку, что народ и нация в политическом значении – синонимы. Как этническая общность с единым языком и самосознанием белорусы никогда и никуда не исчезали. Восстание 1863 года подтвердило – белорусский народ жив! Мощь белорусского духа, не сломленного за семьдесят лет русской ассимиляции, проявилась в это время наиболее ярко. И Россия испугалась этого. Она начала выжигать деревни и направлять многолюдные этапы в Сибирь. Расскажите об этом своим студентам, доцент МГУ, расскажите им о сожжении Семятич, Луковицы, Сутина и многих других многострадальных белорусских деревень, о пытках, изнасилованиях, смерти от розг и нагаек, которых никогда и никто не фиксировал в документах. Возможно, тогда они иначе посмотрят на ваши разглагольствования о польском характере восстания. Добавьте также, что вся наша шляхетная элита в документах о происхождении почему-то записывалась в поляки, а белорусские крестьяне вообще в российском государстве не имели национальности. А ведь это та огромная часть белорусского народа, которая до русской инкорпорации разговаривала на родном языке и не требовала никакой «белорусизации»!

«Россия – тюрьма народов», – сказал француз А.Кюстин в 1839 году. С позиции надзирателя трудно понять узника, но факт остается фактом: лишь с падением этой тюрьмы пришла свобода. И разрушили эту тюрьму лучшие русские умы, за что им честь им и хвала!

В 1917 году белорусы получили возможность восстановить государственность, утраченную в 1792 году. И воспользовались ею. Вначале они собрались на Первый Всебелорусский съезд в декабре 1917 года, затем провозгласили Белорусскую народную республику в 1918-м и закрепили свой статус в 1919-м в форме Белорусской ССР,



вместе с этно-географической картой (акад. Е.Ф.Карский), отнюдь не контурной, как это изображено на лицевой обложке книги московского белорусоведа. Эту уверенную поступь к возрождению историк Борисенок пытается умалить. Он всё время твердит о неких внешних силах и факторах, благодаря которым, яко бы, состоялось наше государство. Так кто же всё-таки заселял территорию Беларуси до войны с Россией в 1792 году, и на ком лежала ответственность по ее возрождению? На Ленине, Сталине или на Российской империи?

Обставляя цитатами из документов белорусизацию 20-30 -х годов прошлого века и говоря о «великой роли» Сталина в становлении Беларуси, автор заключает: «Ускоренная и не лишенная привкуса показухи образовательная политика с уклоном на белорусский язык и культуру своих целей, тем не менее, достигла основательно и укоренилась надолго». Мол, вот сказал Сталин белорусам, что они – белорусы, так они в это и поверили. И ни слова о том, что сотни тысяч поверивших Сталин тут же отправил на тот свет. И в первую очередь – главных устроителей возрождаемой белорусской государственности А.Луцкевича, И.Лёсика, В.Ластовского, А.Цвикевича, Д.Жилуновича, А.Червякова, Вс.Игнатовского, трагический исход которых в «повороты» историка-очеркиста, увы, не вписался. Всем остальным белорусам «знаток вопроса» Борисенок приготовил такой финал: «Импульс большевистской модернизации в итоге не затронул глубинных основ существования белорусского общества... Наблюдателям современных процессов, имеющих место в Республике Беларусь, не говоря уже об их исследователях, непременно стоит делать поправку на эти местные особенности. Ясь продолжает косить свою вечную конюшину...» Читать, видимо, следует так: усилия Сталина

оказались тщетными, как были белорусы забитыми и безродными, такими и остались...

Вот такой «крутой поворот» этой истории.

Возможно, и не стоило бы обращать внимание на этот опус, если бы не то обстоятельство, что издан он в рамках Федеральной целевой программы «Культура России» (2012-2018 годы).

*В.Хурсик - писатель, журналист.*
*Минск, 2015*



**Міхась Галіеўскі**

## З Лондана гледзячы

*Кастусь Каліноўскі і нацыятворчы працэс у Беларусі: матэрыялы міжнароднай навуковай канфэрэнцыі (Лёндан 27-29 сакавіка 2014 г.) / Пад рэд. Алеся Смаленчука і Джыма Дынглі. – Мінск, Зьміцер Колас, 2015.*

Выхад гэтага зборніка ў свет – з’ява ў жыцці беларусаў Вялікабрытаніі. Менавіта яны арганізавалі і фінансавалі правядзенне навуковай канферэнцыі пад згаданым загалоўкам. На вялікі жаль у самой Беларусі навуковыя даследаванні пра Кастуся Каліноўскага сёння афіцыйна не вітаюцца, а ўшанаванне памяці змагара на яго радзіме ў Свіслацкім раёне заўсёды заканчваюцца вялікімі штрафамі для ўдзельнікаў. Гэта дае падставы рознага роду рэвізіяністам (як унутры краіны, так і за яе межамі) трактаваць падзеі 1863-64 гадоў на Беларусі на свой капыл. Таму навуковы аналіз дзеяў і ролі асобы кіраўніка паўстання Кастуся Каліноўскага ў агульным кантэксце станаўлення беларускай нацыі своечасовы і актуальны.

Ніводны з аўтараў дакладаў (а іх у зборніку тузін) не сумняваўся, што Кастусь Каліноўскі, як асоба і кіраўнік паўстання мае вялікае значэнне для беларускай нацыі і што ўся яго дзейнасць была скіравана супраць расійскай прысутнасці на роднай зямлі. Больш таго кандыдат гістарычных навук з Гародні Аляксандр Радзюк вельмі слушна заўважыў, што, па сутнасці, беларусы знаходзяцца толькі ў пачатку навуковага вывучэння паўстання і асобы яго правадыра. Аўтар заклікаў больш глыбока даследаваць рэпрэсіі царскага ўрада супраць беларусаў: «...Колькасць сасланых асобаў можа аказацца ў разы. ...Чакаюць сваіх

даследчыкаў праявы пасляпаўстанціх рэпрэсій: кадравая палітыка віленскіх уладаў, сістэма надзвычайных збораў, кантрыбуцый, штрафаў і г.д. Адна з галоўных метадалагічных праблем заключаецца ў адсутнасці крытычнага асэнсавання базы крыніц, якія амаль што цалкам выйшлі з нетраў расійскай карнай сістэмы».

Разважанні аўтара тычацца і іншых недаследаваных пытанняў з чаго можна зрабіць выснову: грунтоўнае навуковае вывучэнне паўстання можа цалкам змяніць нашы ўяўленні аб тых падзеях. Калі вучоныя сапраўды возьмуцца за справу, гутарка можа пайсці пра генацыд і нацыянальную катастрофу, якая спасцігла беларусаў пры «навядзенні парадку» Мураўёвым-вешальнікам. Да сёння дакументальна не вызначана ні колькі мы страцілі людзей, ні якія панеслі эканамічныя страты. Увесь час гэта важнае гістарычнае пытанне трапляе ў поле палітычнага ўціску, а ў расейскіх крыніцах па-ранейшаму называецца польскім, хаця размова ідзе пра страты ў межах сучаснай Беларусі.

Доктар гістарычных навук з польскай Торуні Дарота Міхалюк, аналізуючы друкаваныя выданні беларускіх паўстанцаў, прыадчыніла заслону гэтай «польскасці». Яна заключаецца толькі ў тым, што каталік-беларус Кастусь Каліноўскі не быў ворагам палякаў, як гэта імкнуцца даказаць несумленныя навукоўцы. Каліноўскі не парываў з Нацыянальным урадам у Варшаве і прытрымліваўся ідэі агульнага вызвалення Рэчы Паспалітай у складзе двух дзяржаў – Літвы-Беларусі і Польшчы. Аднак, у тактыцы і метадыцы ўзброенага супраціву хацеў мець на месцы самастойнасць, і дэманстраваў яе (што выклікала раздражненне ў Варшаве). Пры гэтым у друкавных выданнях «Chorągiew Swobody» і «Głos z Litwy», як і ў «Мужыцкай праўдзе», ён звяртаўся да насельнікаў свайго



краю, як да літвінаў-беларусаў, якім належала вызваліцца з расійскіх кайданоў. Дык ці ж можна трактаваць прагу беларусаў да свабоды, як «польскасць»? Дарэчы, навуковец з Вільні Уладзіслаў Іваноў распавядае на старонках кнігі пра тое, што сярод беларускіх паўстанцаў былі і рускія старав еры, якіх наўрад ці можна аднесці да палякаў.

Фотапартрэт паўстанцаў у айчынным і замежным фоталетапісе, прадстаўлены Каміляй і Язэпам Янушкевічамі, яшчэ раз паказвае нам тагачасных айчынных волатаў духу. На выявах бачны розум і найвялікшая шляхетнасць. Падзякаваць жа гэтых даследчыкаў належыць яшчэ і за тое, што яны паказалі на сховішчы фатаздымкаў той пары. Паднята велізарная і запатрабаваная тэма для нацыянальных даследаванняў.

У той жа час, на мой погляд, Янушкевічы дарэмна вынеслі на канферэнцыю палеміку адносна існавання трэцяга вядомага фота Кастуся Каліноўскага, якое адшукала і прадставіла ў свай час слынны беларускі гісторык даследчыца беларускага супраціву Вольга Гарбачова. Пры аналізе гэтага здымку Янушкевічы спасларіся на ананімны экспертны дакумент, «які ў іх маецца». Аднак ніякіх ні зыходных сігнатур, ні выявы гэтага дакумента ў кнізе яны не прыводзяць. Мажліва, у Лондане гэта заключэнне крыміналістаў і дэманстравалася, але ў навуковым кругабегу таемны дакумент не можа быць скарыстаны. Таму на шляху фатаграфічнай іэдэнтэфікацыі Кастуся Каліноўскага нас яшчэ чакаюць адкрыцці.

Пры царызме ніякія станоўчыя згадкі пра паўстанне і яго герояў былі немагчымы. Не надта імкнуліся да гэтага і бальшавікі. Нягледзячы на фігуру Кастуся Каліноўскага, як бясспрэчнага нацыянальнага правадыра (што, дарэчы, пацверджана царскімі “летапісцамі”), рускія бальшавікі выкарыстоўвалі яго выключна, як змагара з

паланізаванай (чытай – польскай) шляхтай. У адваротным выпадку, як змагар з рускай акупацыяй, ён мог папсаваць твар многанацыянальнаму СССР. Але Каліноўскі быў і застаецца беларусам, яго імя заняло належнае месца не толькі ў нацыянальным пантэоне, але і нацыятворчым працэсе. Пра гэта матэрыялы Ірыны Дубянецкай, Арнольда Макмілана з Лондана, Сяргея Кавалёва з Любліна, Аляксея Ластоўскага, Андруся Ўнучака, Анастасіі Весялуха, Аляксандра Краўцэвіча. Навуковым рэдактарам выдання выступіў доктар гістарычных навук Алесь Смалянчук.

Цалкам вітаючы выданне тым не менш засмучаны тым, што не ўсе даклады канферэнцыі былі ўключаны ў яго, бо адкрыта паведамлялася, што на канферэнцыю было прадстаўлена больш за 15 дакладаў, звязаных з гістарычнымі, літаратурнымі і палітычнымі аспектамі спадчыны Кастуся Каліноўскага. Было б да месца надрукаваць прывітальныя словы сяброў аргкамітэту, а таксама амбасадаркі Літоўскай Рэспублікі ў Лёндане Аста Скайсгірайце-Ляўшкене і былога амбасадара Вялікай Брытаніі ў Беларусі Браена Бэнэта. Мажліва, з іх можна было б даведацца, чаму канферэнцыя адбылася менавіта ў Лондане, а не ў Мінску? Натуральным у такой канферэнцыі быў бы і ўдзел і іншых беларускіх і замежных гісторыкаў з Польшчы і Расіі, якія даследуюць паўстанне і чые погляды розняцца з агучанымі.

Але ўсё гэта ўжо – па-за вокладкай кнігі, у сугуччы марам дакладчыкаў вярнуць гістарычную праўду беларускаму народу. Чаму, дарэчы,хвалююча спрыяе анталогія літаратурных тэкстаў “Я адзавуся!” Кніга пра Кастуся Каліноўскага і Касінераў Свабоды. “Лімарыус”, 2014 (дзякуй укладальніку Сяргею Панізніку), - з актуальным прысвячэннем “маладым беларускім патрыётам – пераемнікам славы касінераў Каліноўскага”.



**Леанід Галубовіч**

## “Мой рускі боль ціхмяны”

*З рэцэнзіі на кнігу Марыны Наталіч. Палыновая зорка: вершы, успаміны, эсэ. – Мінск, Кнігазбор, 2013. - 110 с.*

*“Жыццё прабегла, як раніца тая.*
*Салёнымі слёзамі Бог нас глытае...”*
Марына Наталіч

Сеў пісаць рэцэнзію на зборнік лірыкі Марыны Наталіч “Палыновая зорка”, а не даю рады ўтрымліваць сябе ў кантэксце абранай тэмы, глузды міжвольна “сплываюць” у публціыстычным кірунку. Падзеі ва Ўкраіне змушаюць да не зусім паэтычных высноваў. Свет перамянуўся. Яму не да вершаў. І сам я выглядаю смешным перад самім сабою з усімі гэтымі развагамі пра метафары і алітэрацыі. Вобраз непрадказальнасці кладзецца цёмным ценем на чысты аркуш паперы...

Тым больш, што і аўтар зборніка руская па нацыянальнасці паэтка. Марына Наталіч (Наталля Давыдзенка) перабралася ў Беларусь яшчэ ў маладосці і ўжо амаль паўвека жыве тут. Піша па-руску і па-беларуску. “Палыновая зорка” - першая яе кніжка на беларускай мове. Калі б наш чытач патрапіў на гэтае выданне, не азнаёміўшыся з выкладзенай мной біяграфічнай інфармацыяй, то наўрад ці адчуў бы хоць які літаратурны ці філалагічны (*ад-моўны*) “фальш”, чытаючы творы паэткі і эсэісткі. Беларуская філалагічная адукацыя (БДУ), праца рэдактарам у выдавецтвах “Мастацкая літаратура” і “Кнігазбор”, блізкія паўсядзённыя стасункі з людзьмі беларускай культуры і літаратуры, можна сказаць,

сяброўскія дачыненні ў апошнія два дзесяцігоддзі з Р.Барадуліным - творцам і носьбітам нашай мовы, не толькі афіцыйна *пашпартавалі* яе асобу, як грамадзянку Беларусі, але і *падвоілі* (спарышавалі) яе нацыянальную сутнасць і самасвядомасць. Цікава было пачытаць у яе развітальным эсэ-некралогу па Васілю Быкаву пра тое, як яна да гэтага ішла, што і хто яе паштурхоўваў да беларушчыны: *"Вярнулася з развітання... У народзе кажуць, што калі хаваюць добрага чалавека, Бог дае добрае надвор'е. Дзень быў сонечны...*

*Божа, колькі дзён назад Васіль Уладзіміравіч прачытаў маю рускую кніжку "Глухие голоса" - пра жыццё маіх простых родзічаў у XX стагоддзі - і сказаў Рыгору Іванавічу: "Пара ўжо ёй пераходзіць на беларускую мову..." Не ў пахвальбу прыгадала. Сёння, менавіта сёння я адчула, што ён нібыта даверыў у мае рукі неацэнны і цяжкі скарб, дар Слова сапраўднага. Праўдзівага, чаго б гэта ні каштавала. Слова - беларускага й рускага".*

Таму, мне думаецца, ёй сёння значна цяжэй суперажываць тое, што дзеецца ва Ўкраіне. Крымская зіма - як нечаканы катаклізм чалавечай прыроды... Я думаю, у цяперашняй грамадска-палітычнай сітуацыі Наталля Давыдзенка падпісала б зварот не ў падтрымку Пуціна (Бог тым падпісантам суддзя), а супраць вайны. Чамусьці перакананы ў гэтым, хоць мог бы патэлефанаваць і ўпэўніцца... Гэта вынікае з усяго прачытанага ў яе кніжцы. Дазволю сабе прывесці цытацыю верлібра "Беларускі лёс" у празаічнай форме запісу: *"Я - "расейка", //я "дачка расейскага афіцэра", //я жыву не ў сябе дома. // Мой каханы - беларускі паэт. // Ён амаль ненавідзіць "расейцаў", // ён амаль ненавідзіць вайскоўцаў, // і сваіх, і чужых. // Ён ненавідзіць няволю. // - Як ты трываеш нянавісць? // Як ты трымаеш нязгоду? //Як ты трываеш яго?! - // Пытаюцца родныя і сябры ў неўразуменні. // Я люблю беларускія песні, // я люблю беларускае Слова, // я прымаю беларускі свой лёс // і кахаю беларускага паэта. // А як жа іначай ён зразумее, // што такое каханне, // што такое каханне рускай // і што яно мацнейшае за нянавісць // і ўсёўладнае, як воля Божая?.."*

(…) На маю думку, гэта **нармальны** (а з пункту погляду абывацеля, пэўна ж, - *ненармальны*) творчы стан чалавека. Паэта як неардынарнай асобы. І справа тут не ў наіўнай *спробе гаварыць вершамі, як умееш*, а ў тым – у каго навучыцца мудраму маўчанню: у высокага і прыземленага – у вечнасці, якая складаецца з часу нараджэння і смерці кожнага канкрэтнага чалавека (ад паэта да далакопа). І "чалавечы знак" (паводле Вярцінскага) вызначаецца не па адной нейкай выбітной яго характарыстыцы, а па сукупнасці ўсяго ім зробленага, здзеенага і створанага... Мне падаўся блізкім такі пасыл М. Наталіч, які я вычытаў у яе эсэ "Агонь незалежнай думкі". У. Калеснік пасля канцэрта Данчыка захапляўся адным *"незвычайным хлопчыкам у белым"* з талентам, *"які рэдка сустрэнеш, і яго трэба берагчы! Я пагадзілася, што так, магчыма, талент, але ж чалавек непрыстойны. (...) Мы ўжо не ўпершыню не маглі прыйсці да згоды "пра добрыя справы дрэнных людзей", людзей канктрэтных, у якіх ён верыў як у "творцаў культуры", а я не (мне так і не прыйшлося пераканацца ў адваротным за ўсё апошняе дзесяцігоддзе, і ад гэтага было брыдка, балюча). Ён гаварыў і ўзгараўся ўсё больш і ўжо проста крычаў - пра натоўп, статак, быдла, якое нясецца, нічога не бачачы перад сабой, і топча жывое!"*

Дарэчы, з гэтай цытаты заўважна яшчэ і тое, як трапна выпісала М. Наталіч партрэтныя вобразы нашых выдатных творцаў у сваіх эсэ, што змешчаны напрыканцы

кніжкі. Найперш гэта тычыцца публіцыстыкі і крытыка Веры Палтаран і берасцейскага літаратуразнаўцы Уладзіміра Калесніка. Іх жывыя зямныя непрыгладжаныя постаці не пакідаюць чытача абыякавымі: ні ўнутраная душэўная чысціня і стрыманасць Палтаран, ні эмацыйна-выбуховы высока энергетычны складнік таленту Калесніка... А вось штрыхавыя нарысы такіх знакамітых асоб, як Барадулін і Быкаў, даюцца як бы ў працэсе асэнсавання...

*"...увесь час, услухваючыся ў іншыя лёсы, іншыя жыцці, я чула сцішанасць сваёй душы і асаблівую цішыню за плячыма: нехта слухаў нас, я ведаю - слухаў... Мабыць, тыя, што снавалі беларускае жыццё не за страх, а за сумленне, і той, чыя душа развіталася з намі, збіраючыся ў дарогу, па якой пойдзем усе мы, і тыя, хто жывіў сабою беларушчыну, і тыя, хто яе ганіў і знішчаў.*

М. Наталіч - чалавек далікатны і ў той жа час унутрана глыбокі. Навакольныя і бытавыя рэчы цікавяць яе найперш дзеля таго, каб разгадаць іх сутнасную патаемнасць. Пранікненне ў неспазнаны свет адушаўлёных і неадушаўлёных рэчаў пашырае ўласны досвед яе зямнога жыцця. Падчас словы паэткі, як жывая вада, уваскрашаюць, здавалася б, бездухоўную прыгажосць прыроды, набліжаючы яе да чалавечага стану.

Лепшыя творы аўтара, у тым ліку і гэтыя - беларускія не толькі па духу, але і па мове, ставяць паэтку ў адметны шэраг творцаў сучаснай беларускай літаратуры і, думаецца мне, застануцца “кінутымі ў нашу раллю” як жыццясцвярджальнае семя... Пра тое ёмка сказана ў вершы “Памяці Васіля Быкава”:

Пра Беларусь адгаманіў
Праўдзівы голас,



Ён сеяў словы на раллі,
Як зерне колас.
Ў каторы раз кляліся ўжо:
“Не згінем мы, як тыя прусы!”
Ён сорак год сцвярджаў адно:
“Вы ёсць народ! Вы - беларусы”...

І ў гэтым пераконвае нас руская жанчына? Якая нішчымніца нацыянальнага духу...

*Дзеяслоў. 2014. № 3 (70)*

**Віктар Чайчыц**

## **Маёй вёсцы Здзітава - 1010 год**

Прыемная навіна прыйшла з Палесся – у маёй роднай вёсцы Здзітава, што на Берасцейшчыне, адсвяткавалі 1010-годдзе згадвання Здзітава ў грамаце кіеўскага князя Уладзіміра аб заснаванні Тураўскай епіскапіі [1].

Раней лічылася, што першая згадка была ў 1252 годзе ў Іпацьеўскім летапісе пры апісанні паходу валынскіх князёў Данілы і Васілька на літоўскага князя Міндоўга [2]. У любым выпадку Здзітава мае салідны і задакументаваны гістарычны ўзрост.

Да юбілею вёскі выйшла кніга "Здзітава – Радзіма мілая" пад рэдакцыяй Віталя Жуковіча, дырэктара мясцовай школы, нястомнага краязнаўцы і ініцыятара мясцовай стратэгіі для ўстойлівага развіцця вёскі [3]. Кніга выйшла пры падтрымцы Еўрапейскай асацыяцыі мясцовай дэмакратыі (ALDA) і асветніцкага грамадскага аб'яднання "Фонд імя Льва Сапегі" (Мінск).

Святкаванне 1010-годдзя прайшло не толькі ў цэнтры вёскі, але і ў т.зв. Заходнім Здзітаве, бо менавіта там ля заходніх хутароў узнікла гістарычнае Здзітава. Значную арганізацыйную ролю адыграў Віктар Чайчыц, мой зямляк і цёзка, старшыня Рэспубліканскай калегіі адвакатаў (Мінск).

Здзітава і наваколле для мяне з'яўляюцца не толькі роднай калыскай, але і крыніцай, якая натхняе і стымулюе пошукі і разважанні – гістарычныя, культурныя і нават геапалітычныя. Здзітава з яго вуліцамі і хутарамі шырока раскінулася на высокіх месцах каля балота і ракі Драгабуж, паміж трыма азёрамі. Цікава, што тут побач знаходзіцца водападзел двух мораў: Драгабуж цячэ ў Чорнае мора праз



Ясельду, Прыпяць і Днепр, а суседнія рэчкі Шчара і Мухавец – у Балтыйскае мора праз Нёман і Буг.

Берасцейшчына спрадвеку звязвала значныя часткі Еўропы не толькі геаграфічна. Значнае эканамічнае значэнне мелі, напрыклад, два каналы, што звязалі тут Балтыйскае і Чорнае моры, – Дняпроўска-Бугскі і Агінскі, а таксама чыгунка і аўтамабільная дарога ў напрамку Усход-Захад. Ну а калі пагаварыць пра культуру і палітыку, то як не ўспомніць, што на Берасцейшчыне, у яе сённяшніх граніцах, карані роду Дастаеўскага і Міцкевіча. А легендарны Касцюшка нарадзіўся зусім блізка маіх родных мясцін – у Косаве, ля старадаўняга гасцінца, што праходзіў з Валыні праз Здзітава, Косава, Слонім да Вільні.

Здзітава – гэта партызанскі край і сімвал барацьбы за Радзіму і свабоду, аб чым сведчыць мемарыяльны комплекс "Здзітаўская абарона". Недалёка ад вёскі ў гады вайны былі створаны партызанскія атрады, штаб Брэсцкага партызанскага аб'яднання і Брэсцкага падпольнага абкама камуністычнай партыі, лясная школа і лагер для сем'яў з дзецьмі. Значныя часткі тэрыторыі ў лясах і балотах заставаліся свабоднымі, і там не ступала нага акупантаў. Цану за гэта прыйшлося заплаціць вялікую, аб чым сведчыць помнік загінуўшым у вайну жыхарам Здзітава і згаданыя на ім шматлікія прозвішчы (там і мой дзед Чайчыц Павел; Чайчыцаў у тым спісе, дарэчы, аж восем – усе маладыя мужчыны, якія маглі б яшчэ зрабіць так многа для вёскі…).

Пра вайну мне расказвалі многа – як дапамагалі партызанам харчаваннем і як мой бацька Мікалай Чайчыц, якому не было тады і васьмі гадоў, адзін адвозіў на кані хлеб партызанам у лес; як прыйшлі немцы і спалілі хату, як мой дзядзька Іван Чайчыц, якому тады было гадкоў чатыры, не

разумеючы небяспеку, пайшоў з паленам на нямецкага салдата…

Здзітава ўражвае сваёй цікавай і самабытнай культурай і мовай. Назва вёскі ў мясцовым вымаўленні Здытов ці Здытув. Гаворка жыхароў вельмі адрозніваецца ад літаратурнай беларускай мовы. Бацька мой нават некалі жартаваў, што ў школе вывучаў тры замежныя мовы – нямецкую, рускую і беларускую. Украінская мова, бадай што, самая блізкая да мясцовай гаворкі. Здзітаўскія народныя песні вельмі падобныя на ўкраінскія. У той жа час, адчуваецца і польскі ўплыў. Памятаю, калі старыя кабеты выказвалі здзіўленне нечым незвычайным, дык гаварылі: "Ой, кіно варшавске!". Часам у Здзітаве натыкаешся і на даволі загадкавыя рэчы: так, на вяселлі я бачыў мясцовы танец з назвай "Сербіянка" і чуў старую абрадавую песню ад мясцовых жанчын - "запявальніц" караваю: "Повій, повій, тыхій вітёр з Дунаю до нашего хвайного караваю…". Гаворка Здзітава трохі адрозніваецца нават ад гаворак суседніх вёсак. Гэта, аднак, тыповая з'ява ў нашым рэгіёне Палесся.

З асалодай чытаў старонкі кнігі "Здзітава – Радзіма мілая", напісаныя на мясцовым дыялекце, – легенды і паданні вёскі. Мелодыя проста зачароўвае. Вось, напрыклад, пра любоў маці да дачкі, якая загінула ў балоце:

"…От ўжэ й нуч, ныма Марысі. Побігла бідна маты шукаты. По болоті быжыть, аж чуе, бэто хто клычэ: "Мамо, мамо, поможы… Чорна вода очы застылае, тяжка купа сэрцэ прытынае". Станэ маты, прыслухаецца – ныц ны чуе. Станэ йты – зноў ніхто клычэ… Бігала-бігала сэрдэшна, шукала дытя свое. Нэ выдыржало матэрынэ сэрцэ, з грудэй вырвалося, дай полытіло птушкою. От з того часу і пэрэклыкаюцца Марыся з матырою своею. Як почуеш іх плач, тіло тэрпнэ од жалю…"

Здзітаўскі дыялект – гэта наша спадчына і багацце, якое не павінна загінуць. Гэта таксама адна з крыніц, што ўзбагачае ўсю славянскую моўную прастору. Нягледзячы на моцны ўплыў рускай мовы апошняга часу, каларыт мясцовай мовы застаецца дзякуючы заўзятарам-аднавяскоўцам.

Не пакідае раўнадушным прыведзеная ў кнізе тапаніміка і анамастыка вёскі, пададзеная ў вершаванай форме Аленай Жуковіч, а таксама, канечне ж, раздзел пра сённяшні дзень Здзітава і пра людзей, якія тут жывуць і працуюць.

Так сталася, што назва кнігі супадае з назвай верша "Здитово – Родина милая", які ў 2010 г. на рускай мове напісаў мой бацька Мікалай Чайчыц і які стаў гімнам Здзітава. Тэкст гімна, як і належыць, цалкам даецца ў кнізе. Я папрасіў бацьку, спасылаючыся на юбілей вёскі і нашую ўнікальную моўную сітуацыю, зрабіць таксама здзітаўскі і беларускі тэксты гімна вёскі Здзітава.

***

Войны і час не пашкадавалі Здзітава. Шмат страчана, нават сама вёска трохі аддалілася ад места, дзе ўзнікла. Пабудавана новая царква, што, дарэчы, вельмі ўзрадавала маю бабулю Ганну - яна вельмі ганарылася тым, што часткова царква стаіць на былым нашым агародзе, і гэтая зямля стала для яе яшчэ больш святой.

У апошні час Здзітава ператварылася ў аграгарадок, але не ўсё новае людзям падабаецца. Аднойчы, напрыклад, пасля паездкі на легкавым аўтамабілі па асушаным балоце ўздоўж каналаў маю бабу Ганну спалохалі масштабы

пераўтварэнняў, і яна ў роспачы сказала, што цяпер у нашым краі, калі раптам вайна, нідзе ўжо не схаваешся.

Я вельмі рады, што работы ў галінах меліярацыі і аховы прыроды ў ваколіцах Здзітава сталі больш збалансаванымі. Так, балота і рака Драгабуж увайшлі ў склад рэспубліканскага біялагічнага заказніка. Пачалося супрацоўніцтва з Праграмай развіцця ААН і з прыродаахоўнымі еўрапейскімі арганізацыямі, напрыклад з брытанскімі, ў справе аднаўлення ўнікальнага мясцовага балота, флоры і фауны.

Тут я як паляшук проста не магу не выказаць маё захапленне балотам. Дзіўна, што самыя блізкія да маіх пачуццяў я знайшоў у… французскага пісьменніка Гі дэ Мопассана. Яго ода пра балота для мяне нібы настольная кніга [4]:

*“Болото — это целый мир на земле; здесь свое особое бытие, свои оседлые и странствующие обитатели, свои голоса и шорохи, а главное — своя тайна. Ничто так не волнует, не тревожит и не пугает порой, как болото. Откуда этот страх, витающий над низинами, покрытыми водой? Порождает ли его смутный шорох тростника, призрачные блуждающие огни, глубокое безмолвие, царящее там в тихие ночи, или причудливый туман, словно саван обволакивающий камыш, или, быть может, неуловимый плеск, нежный и легкий, который порой страшит больше, чем грохот пушек и небесный гром, и превращает болота в сказочную, опасную страну, таящую грозную неведомую загадку.*

*Нет. Другая, более глубокая, более значительная тайна скрыта в густых туманах, быть может, тайна мироздания! Разве не в стоячей, тинистой воде, не в сырой*



*земле, не просыхающей от солнечного жара, зашевелился, затрепетал и увидел свет первый зародыш жизни? ”*

Цікавую сувязь Здзітава мае ўжо больш 100 гадоў (!) з вядомай беларускай газетай “Наша Ніва”. У рэдакцыю ў 1910-14 гады прыходзілі лісты пра жыццё аднавяскоўцаў за подпісам “Дзед Міхась”, “Верны сын Беларусі дзед Міхась” або “Здзітовец”. Мяркуюць, што іх аўтарам быў мясцовы настаўнік Міхаіл Рамановіч. Я знайшоў у бярозаўскім раённым гістрыка-краязнаўчым часопісе, між іншым, наступны патрыятычны ліст [5]:

> “М. Здзітово, Гродз. губ. Слонімск. пав. <…> Мова нашых здзітоўцоў сярэдняя паміж украінскай і беларускай. Родные песьні нашы надта добрые і харошые. У гэтых песьнях чуваць уся пережытая народам цяжкая доля, благое жыцьцё; і, як запяюць дзеўчаты гэту родную сваю песьню, то яе слухаў бы ўсю ноч, бо яе залажыў народ з гаротнаго жыцьця свайго і пераліў у яе ўсю душу сваю. Пракляты хай будзе той чалавек, каторы адрэкаецца ад свайго роднаго, ад сваёй бацькаўшчыны. Для нас, беларусоў, наша Беларусь святая і дарагая, і мы павінны, як радзіліся, так і памерці беларусамі.
>
> Стары Дзед
>
> “Наша Ніва”. № 28-29/367. 1911 год

Цудоўныя і вельмі трапныя словы! Будзем спадзявацца, што здзітаўцы і надалей застануцца патрыётамі, і вёска Здзітава, апіраючыся на сваю тысячагадовую памяць, зробіць значны ўнёсак у рэгіянальнае, нацыянальнае і міжнароднае развіццё нашага краю.

Ёсць меркаванне, што моц і будучыня Еўропы залежаць ад устойлівага рэгіянальнага развіцця і супрацоўніцтва рэгіёнаў. У гэтым сэнсе хацелася б пажадаць посьпеху заўзятарам стратэгіі ўстойлівага развіцця Здзітава і аматарам краязнаўства.

***

1/ Уставная грамота великого князя киевского Владимира Святославлича об основании Туровской епископии (1005 год) [103, с. 271-272.]

О поставлении Туровской епископии.

Се аз, князь великий киевскии Василии, нарицаемыи Владимер, умыслих со своею княгинею Анною и з детьми своими: с сыном Изяславом и Мьстиславом, Ярославом и Всеволодом, Борисом и Глебом, и со всеми детми, и з боляры своими третие б[о]гомол[и]е епископию постави(х) в Турове в лето 6513 [1005 г.]. И придах к неи городы с погосты в послушание и священие и благословение держати себе Туровскои епископии: Пинск, Новгород, Городен, Слоним, Берестеи, Волковыеск, **Здитов,** Небле, Степан, Дубровица, Высочко, Случеск, Копыл, Ляхов, Городок, Смедян. И поставих перваго епискупа Фому. И придах села, винограды, земли бортные, волости со всеми придатки, озера, реки, тако и в мыте, и на торгу, и на перевозах десятую неделю, десятыи пеняз и от жита десятая копа святому Спасу и святеи богородицы...

Источник: Акты, издаваемые Археографическою комиссиею, высочайше учрежденною в Вильне. Т. 2. Вильна, 1867; Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею. Т. 3–19. Вильна, 1868–1892; Акты, издаваемые Виленскою комиссиею для разбора древних актов. Т. 20–38. Вильна, 1893–1914.



2/ Ипатьевская летопись, описание похода волынских князей Даниила и Василька на литовского князя Миндовга в 1252 г.:

… Данило [51] же [Д] и Василко . поидоиста [А] к Новоугородоу . Даниль же и Василько [52] братъ его [52] . розгадавъ . со [53] сн҃мъ брата си . посла на Волковыескь . а сн҃а на Оуслонимъ [54] . а самъ иде ко [55] **Здитовоу .** и поимаша градъı многы и звратишасѧ [56] в домы …

Источник: http://litopys.org.ua/ipatlet/ipat36.htm ЛѢТОПИСЬ ПО ИПАТЬЕВСКОМУ СПИСКУ. ПОЛНОЕ СОБРАНІЕ РУССКИХЪ ЛѢТОПИСЕЙ. Томъ второй . ИПАТЬЕВСКАЯ ЛѢТОПИСЬ. Изданіе второе. С.-ПЕТЕРБУРГЪ. Типографія М. А. Александрова (Надеждинская, 43). 1908

3/ Здзітава – Радзіма мілая. Прапілеі. Мн., 2015

4/ Ги де Мопассан. Любовь. Собрание сочинений в 10 тт. Том 6. МП "Аурика", 1994. Перевод А. Ясной http://mopassan.krossw.ru/html_mp/mopassan-lubov-ls_1.html

5/ Гістарычная брама. № 1-2. 2002. Выбраныя артыкулы з газеты «Наша Ніва». С.65



Іван Баляслаў Якімавіч Луцкевіч. З сямейнага архіву Л.А.Луцкевіча.





КОМИТЕТЪ
БѢЛОРУССКАГО ОБЩЕСТВА
по оказанію помощи пострадавшимъ
отъ войны

КАМІТЭТ
БЕЛАРУСКАГО ТАВАРЫСТВА
па аказаньню помачы пацярпеўшым
ад вайны

4/I 1919.
№

Таварищу Станкевичу поручается перевезти воз дров в здание Белорусской гимназии от Белорусского Комитета Жертвам войны ... №9. ... с разрешения Комиссариата Просвещения

Даручэнне І.Луцкевіча Я.Станкевічу на дастаўку дроў для Віленскай беларускай гімназіі. Вільня. Студзень 1911 г. БДАМЛіМ. Ф.3., спр. 261, арк.10



Іван Луцкевіч. 1903 г. Арыгінал захоўваецца ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі.





У.Самойла, Ф.Аляхновіч, А.Луцкевіч. 1930-я гады. Арыгінал захоўваецца ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі.



На цырымоніі ўручэння Нобелеўскай прэміі Святлане Алексіевіч, 10.12.2015






Кніга Д.Міхалюк "Беларуская Народная Рэспубліка ў 1918-1920 гг. Ля вытокаў беларускай дзяржаўнасці". Пераклад на беларускую мову.




Вёска Здзітава, Палессе. Шыльда пра першае ўпамінанне ў летапісе ад 1252 г. Давядзецца, пэўна, рабіць яшчэ адну шыльду, бо знайшлі звесткі, дзе Здзітаў згадваецца яшчэ раней - у летапісе ад 1005 году…